

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 ЖНІЎНЯ 1998 Г. № 34/3962 КОШТ 4 000 РУБ.







*...А за вакном —*
*святло і жыта,*
*І кветкі ў жыце,*
*як жыццё,*
*Якое тут было пражыта*
*І адшумела ў небыццё.*
*І матылёк душою нейчай*
*Крыляе лёгка над табой*
*З самотай вечнай чалавечай*
*І па-анёльску незямной.*
*І ты такая маладая,*
*Як гэты дзень і як цяпло,*
*Што на цябе*
*з нябёс сцякае,*
*Тваё цалуючы святло.*

**В. Ш.**

Фота В. ГАНЧАРЭНКІ

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***У Расіі шуснуў уніз рубель, фінансавая сістэма краіны дала відочную трэшчыну. Друк паведамляе пра сапраўдную паніку сярод насельніцтва, выкліканую павышэннем цэн на прадукты харчавання і ажыятажным попытам на цвёрдаканверсоўную валюту. Дрэнна ўсё гэта, вядома. Для расіян. Дык жа для нас — таксама! І наш жа рубель задрыжаў. І яго каціроўка ў дачыненні да долара на "чорным рынку" падскочыла: на ім у валютчыкаў "зялёны" зараз можна купіць ужо за 80 і больш тысяч "зайчыкаў". Дрэнна, бо і ў нас паніка сярод насельніцтва. Ну калі яшчэ й не паніка, дык — гул здзіўлення і незадавальнення. Прынамсі, на Камароўскім рынку, які выручае сотні тысяч мінчукоў і гасцей сталіцы. Там аб адным дні цэны на алей, грэчку, рыс, цукар, рыбныя кансервы і многае іншае падскочылі на тры-чатыры-пяць і больш тысяч рублёў. Вось якім бокам вылазіць нам наша аднабаковая арыентацыя, даруйце за міжвольны каламбур. Спалучаныя сасуды заўсёды гэтак дзейнічаюць. І нешта цяжка верыцца ў супакаяльныя афіцыйныя заявы "аб поўным кантролі над развіццём сітуацыі..."***

## ПАДЗЕЛ ТЫДНЯ

Друк паведамляе, спасылаючыся на аўтарытэтныя крыніцы, што знойдзена рашэнне праблемы "Драздоў". Тэрыторыю, якая сталася яблыкам раздору, плануецца падзяліць на дзве часткі. У "Драздах-1" застанецца Прэзідэнт РБ, а "Дразды-2" аддадуць замежным дыпламатам. Ці акажацца такое рашэнне Саламонавым, пакажа час...

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

19 жніўня выйшаў 500-ты нумар "Народнай волі". Напярэдадні, 18 жніўня, "НВ" змясціла некалькі чытацкіх лістоў з віншаваннямі сябрам газеты і рэдакцыйнаму калектыву з нагоды гэтай круглай лічбы ў жыцці выдання. А вось у юбілейным нумары "юбілейных" матэрыялаў якраз і няма. Адно, бадай, што лічба "500" — чырвоная. А так званы "цвік" нумара — артыкул М. Коктыш "Пакінуты". Пра народнага артыста Беларусі Паўла Кармуніна — сёння хворага, сляпога, забытага (найперш родным міністэрствам) старога чалавека. Сумна, горка, сорамна...

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Паводле даных Міністэрства працы, з Беларусі пачынаючы з 1992 года эмігрыравала каля 230 тысяч чалавек, пераважна ў краіны СНД і Балтыі. Сярод нашых эмігрантаў пераважаюць прадстаўнікі інтэлігенцыі і высокакваліфікаваныя спецыялісты. За гэты ж час да нас прыехала больш за 340 тысяч чалавек — таксама амаль усе з рэспублік былога СССР. Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца зараз каля 100 тысяч нелегальных мігрантаў. За тры апошнія гады на працу за мяжу выехала больш за 8 тысяч беларусаў — у Расію, Чэхію, Літву, Ізраіль, ЗША, Германію і Польшчу. Самае ж цікавае ў тым, што каля 1200 іншаземцаў за гэты ж час шукалі сабе заробак... У Беларусі. Сапраўды, нязведаныя шляхі твае, Госпадзе...

## АКЦЫЯ ТЫДНЯ

Сёння ў Мінску плануецца правесці санкцыянаваную гарадскімі ўладамі акцыю пакаяння ў сувязі з 30-й гадавінай уводу савецкіх войск у Чэхаславакію. Пікет будзе наладжаны ў скверы на рагу вуліц Няміга і Гарадскі вал актывістамі "Хартыі-97", у якім будзе і некалькі непасрэдных удзельнікаў уводу войск у Чэхаславакію. Мэта пікета — нагадаць людзям пра ганебныя старонкі мінулага і папрасіць прабачэння ў народаў Чэхіі і Славакіі. А хто і калі пакаецца перад нашым народам?

## "МІТЫНГ" ТЫДНЯ

Актывісты БНФ з Бабруйска правялі ў горадзе акцыю, якая атрымала назву "тэлефоннага мітынгу". Яны паўкідвалі ў паштовыя скрыні жыхароў горада ўлёткі, у якіх прапанавалі бабруйчанам пазваніць чыноўнікам мясцовай вертыкалі (тэлефоны ўказваліся) і задаць ім адно пытанне: "Калі пойдуць тралейбусы ў аддаленыя мікрараёны?" На чыноўнікаў абрынуўся шквал званкоў. Яны вымушаны былі праз мясцовыя СМІ тлумачыць людзям сітуацыю, абяцалі хутка вырашыць транспартную праблему, адначасова абвінавачваючы БНФаўцаў у распальванні сацыяльнай варожасці. А ці слушна гэта?

## МАРКІ ТЫДНЯ

У верасні жодзінскія аўтамабілебудаўнікі будуць адзначаць 50-годдзе свайго завода. А ўжо зараз сувязісты выпусцілі серыю з пяці мастацкіх паштовых марак, прысвечаных гэтай падзеі (мастак — Г. Долбік). На марках — узоры кар'ерных самазвалаў БЕЛАЗа. Юбілейны выпуск марак дапаўняецца спецыяльнымі паштоўкамі і канвертамі. Традыцыя, вядома, чыста савецкая, аднак жа, пэўна, не такая ўжо й благая...

## "ВОСЕНЬ" ТЫДНЯ

Ёсць у нас цікавая, надта ж красамоўная прымаўка: "Як не ўпяклося, дык і не ўварылася". Гэта, няйначай, можна сказаць пра сёлетняе лета. Аказваецца, дажджоў, шквалістых вятроў, граду і іншай трасцы было нам яшчэ замала. Сіноптыкі абяцаюць у самы бліжэйшы час, проста-такі паслязаўтра, у нядзелю, надыход... восені. Маўляў моцныя балтыйскія вятры прынясуць пахмурнае надвор'е з дажджамі і нізкімі (не вышэй за 15 градусаў) тэмпературамі. Чаго ж яны, сіноптыкі, яшчэ крыўдуюць, што іх не любяць? Калі скура сінее і дубее, дык не да любові...

## "УЗДЫМ" ТЫДНЯ

У газетах паведамілі пра незвычайную форму далучэння Магілёўскага ліфтабудаўнічага завода да высокага мастацтва. Рэч у тым, што тут зроблена і адпраўлена заказчыку першая партыя спецыяльных ліфтаў для Вялікага тэатра оперы і балета Расіі, у якім ідзе рэканструкцыя.

Цікава, што, каб атрымаць гэты прэстыжны заказ, магілёўскія ліфтабудаўнікі мусілі перамагчы ў адмысловым конкурсе, удзельнікамі якога былі расійскія і міжнародныя фірмы. Цяпер можна казаць, што беларускія прамыслоўцы ў літаральным сэнсе забяспечваюць уздым творчых сіл расійскага акадэмічнага мастацтва на патрэбную вышыню. І хто будзе пярэчыць?

## АНОНС ТЫДНЯ

Калі яшчэ той лістапад, а Магілёў ужо гатовы яго сустрэць, і разам з Міжнародным музычным фестывалем "Залаты шлягер". Бо ў аргкамітэце гэтага традыцыйнага ўжо свята песні досыць дакладна ведаюць, каго сёлета чакаць у госці ў першы лістападаўскі тыдзень. Удзельнікамі "Залатога шлягера-98" абяцаюць быць Палад Бюль-Бюль-аглы, Уладзімір Мулявін, Яраслаў Еўдакімаў, Надзея Чапрага, Людміла Сенчына, Аляксандра Пахмутава, Дэміс Русас, Радміла Караклаіч, Яак Ёала, Віктар Вуячыч, Эдзіта П'еха, Нані Брэгвадзе, Муслім Магамаеў... Абвешчана столькі вядомых прозвішчаў, што хочацца спыніць пералік і паставіць кропку. Каб да восені не сурочыць.

ВЫСТАВЫ

# Наноў пазнаём Украіну



Украіна адзначае сямігадовы юбілей сваёй незалежнасці. Сем год самастойнасці, на жаль, не дадалі блізкасці культурным сувязям беларускага і ўкраінскага народаў. Для прыкладу: калі мы даволі шчыльна пазнаёміліся за гэты час з культурай і мастацтвам польскім, нямецкім, кітайскім і г. д., то агульнай украінскай мастацкай выставы не было ніводнай. Пра гэта гаварылі 18 жніўня на адкрыцці выставы сучаснага ўкраінскага мастацтва ў Музеі сучаснага мастацтва Беларусі надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны ў РБ А. Дронь, начальнік Упраўлення культуры Чарнігаўскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі А. Васюта, народны мастак Украіны У. Емец, дырэктар Музея сучаснага мастацтва, народны мастак Беларусі В. Шаранговіч, намеснік міністра культуры Беларусі В. Гедройц.



Выстава з сімвалічнай назваю "З любоўю да Украіны" рэпрэзентуе творчасць дваццаці ўкраінскіх мастакоў. Праз творы выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва экспазіцыя паказвае своеасаблівае мастацкае бачанне мінулага, сённяшняга дня ўкраінскага народа. Творы ўкраінскіх мастакоў даюць даволі поўнае ўяўленне пра стан выяўленчага мастацтва ў суседняй краіне, сведчаць пра разнастайнасць індывідуальнасцей, светаадчуванняў, пра поўную свабоду выбару мастакамі сваёй творчай арыентацыі — ад графічнага "класіцызму" (В. Трубчанінаў), жывапіснага рэалізму (У. Емец) да самых разнастайных пошукаў у форме, колеры, кампазіцыі (Т. Дзедава, Т. Васілеўскі, В. Зінчанка, іншыя). Аб'ектыўнасць складзенай выставы падкрэслівае і адсутнасць узроставага цэнзу. Гама пачуццяў і настрояў пануе ў карцінах, мастакі назіраюць і дзівяцца прыгажосці свету, але найперш — роднай Украіны. Яе гісторыя і культура, традыцыі і сучаснасць — асноўныя тэмы прадстаўленых работ. Гэта адлюстравана практычна ва ўсіх жанрах выяўленчага мастацтва: тэматычнай карціне, партрэце, пейзажы, нацюрморце. Экспазіцыю графічных і жывапісных работ дапаўняюць дэкаратыўныя творы.

Арганізацыяй выставы займалася чарнігаўская галерэя сучаснага мастацтва "Пласт-арт". Яе дырэктар мастак Барыс Дзедаў з'яўляецца таксама рэгіянальным прадстаўніком асацыяцыі галерэй, якая аб'яднала па ўсёй Украіне прыватныя галерэі. Сумесныя выставы, продаж, фінансавая падтрымка адзін аднаго, сувязі з замежжам дапамагаюць прыватным выставачным структурам выжыць у сённяшні час, калі на Украіне, як, па сутнасці, і ў іншых рэспубліках былога Саюза, культура не мае падтрымкі дзяржавы. Б. Дзедаў з жонкай, перспектыўнай маладой мастачкай Т. Дзедавай, утрымліваюць у Чарнігаве прыватную галерэю "Пласт-арт": самі пабудавалі новы будынак у цэнтры горада, самі зарабляюць грошы на яго існаванне. Адзіная рэальная падтрымка дзяржаўных структур — дапамога ў выбары прэстыжнага месца ў цэнтры горада. На просьбу гарадской адміністрацыі скласці выставу галерэя адгукнулася, і мінскія гледачы могуць з задавальненнем пазнаёміцца са зрэзам сучаснага ўкраінскага мастацтва. Тым больш, што ўсе прывезеныя работы — новыя, створаныя ў 90-х гадах.

Беларусь як бы наноў пачынае адраджаць былыя цесныя культурныя сувязі з Украінай. На будучы год прынята рашэнне ўстанавіць у Мінску пры згодзе і падтрымцы мэрый Мінска і Кіева помніка Т. Шаўчэнку. Міністэрства культуры Беларусі дапамагае праводзіць фестывалі ўкраінскай песні, украінскай культуры "Шляхам Кабзара", запрашае ўкраінскіх мастакоў да ўдзелу ў міжнародных мастацкіх пленэрах — напрыклад, у пленэры Бялыніцкага-Бірулі. Ну, а прыватныя кантакты паміж людзьмі, думаецца, ніколі не перарываліся. 50 год на беларускай зямлі жыве і працуе заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, украінец па нацыянальнасці Іван Дзьмухайла. Народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка цесна звязаны з Украінай. Уладзімір Емец, адзін з вядомых украінскіх мастакоў, на адкрыцці выставы назваў яго сваім настаўнікам, які даў яму пуцёўку ў жыццё.

Падарункі (натуральна, карціны) уручылі на адкрыцці пасол Украіны А. Дронь — Міністэрству культуры Беларусі і дырэктар галерэі "Пласт-арт" Б. Дзедаў — Музею сучаснага мастацтва.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: адкрыццё выставы; "Іван Мазепа" У. Емеца.*

*Фота К. ДРОБАВА*

ЮБІЛЕІ

# Сюрпрызам сталася прэм'ера

Патрыярх беларускай музыкі Анатоль Васільевіч Багатыроў, як вядома, у мінулы чацвер адзначыў сваё 85-годдзе. Дзень яго нараджэння азнаменаваўся на тэлебачанні прэм'ерай: "Белвідэацэнтр" прэзентаваў у эфіры сваю новую работу — сапраўдны сюрпрыз не толькі для юбіляра, але і для звычайных гледачоў.

"Душа моя — Элизиум теней..." Вершаваны радок, які стаўся радком раманса, даў назву гэтай паўгадзіннай стужцы. Ведаючы яе героя, можна сабе ўявіць, колькі бясцэннага "матэрыялу" засталося па-за кадрам, які пакутлівы быў мантаж нязмушанага, па-дзіцячы даверлівага аповеду чалавека-легенды ў яго кватэры-музеі.

Анатоль Васільевіч успамінаў сваё багатае на падзеі, на людзей жыццё. Гаварыў так, нібыта яго здымалі ўпотай, хаця відэакамера была сярод прысутных "суразмоўцаў". Таму і тэлегледач пачуваў сябе чаканым госцем кампазітара, побач з якім пражыў гэтыя 30 хвілін, а ў нейкім сэнсе — і ўвесь лёс...

Згадкі А. Багатырова неаднойчы занатоўваліся на старонках "ЛіМа"; а колькі дэталёвых споведаў пра Віцебск 20-х, пра музычны Паўлаўск, пра пасляваенны Мінск даводзілася чуць вучням Анатоля Васільевіча, яго калегам, проста знаёмцам! Ды тут раптам на ўсё той жа мемуарнай канве з'яўляюцца нейкія новыя лініі, свежыя нюансы: гледзячы на экран, захапляешся талентам гэтага цудоўнага апавядальніка з невычэрпнай памяццю, бо пра Шагала, Якуба Коласа, Пракоф'ева, Сталіна, Шастаковіча, Фадзеева і пра жонку Наталлю Сяргееўну слухаеш — нібы ўпершыню. Вось толькі не можаш уявіць сябе на месцы тых, каму пашчасціла менавіта дзякуючы гэтаму фільму пазнаёміцца з "жывой легендай"...

Музыка тут — гераіня другога плана: троху найграе і нават напявае сам кампазітар, гучаць галасы Ірмы Яўнзем, Таццяны Варапай, Ніны Казловай, Ірыны Шыкуновай... Гэтага, здаецца, зусім дастаткова для стварэння кранальнай, настальгічнай атмасферы камернага відэаабразка, над якім працавалі музыказнаўца Алена Саламаха, рэжысёр Сяргей Галавецкі, апературатар Станіслаў Смірноў.

Тужлівая нотка нявыказанага, недагаворанага, якая нібы нітуе ўражанні ад фільма, — сігнал, падказка людзям творчым і ўсім, хто абавязаны ахоўваць карані нашай культуры, захоўваць яе набытак: не шкадуйце часу і сродкаў, слухайце, распытвайце Анатоля Васільевіча Багатырова! Запісвайце, здымайце: гэта сама жывая гісторыя!

**С. Б.**

УГОДКІ

# Памяці песняра

Кожны год 13 жніўня да магілы Якуба Коласа, што на Вайсковых могілках у Мінску, прыходзяць людзі, каб ушанаваць памяць класіка беларускай літаратуры. І сёлета ў сонечны летні дзень прыйшлі сюды ўскласці кветкі родныя і блізкія Якуба Коласа, пісьменнікі, музейцы-коласаўцы, грамадскасць.

*Я хворы. Спяшаецца сэрца*
*Адстукаць свой пай.*
*Зачыняцца ў свет мае дзверцы,*
*Якубе, зважай!*
*Прыпамятай, покі не позна,*
*Ці ўсё ты зрабіў!..*

Гэтымі радкамі аднаго з апошніх вершаў песняра пачала сваю прамову дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. Цёплыя, шчырыя словы ў гонар выдатнага майстра сказалі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў, пісьменнікі Алесь Савіцкі, Генадзь Бураўкін.

Ідзе час. Усё мяняецца: жыццё, людзі. Адна толькі памяць застаецца нязменнай. Асабліва калі гэта памяць пра чалавека, імя якога вядома не толькі на Бацькаўшчыне, але і за яе межамі. Пісьменнік высокамастацкага таленту, Якуб Колас зрабіў неацэнны ўклад у развіццё нацыянальнай літаратуры і мовы. Кожны беларус хоць раз у жыцці звяртаўся да яго творчай спадчыны, паэмы "Новая зямля", "Сымон-музыка", "Рыбакова хата", трылогія "На ростанях", аповесці "Дрыгва", "На прасторах жыцця", "Казкі жыцця" — гэтыя творы вучаць нас любіць свой край, мову, выхоўваюць пачуццё патрыятызму, годнасці за Радзіму. Час і гісторыя здольны толькі падкрэсліць манументальнасць і значэнне ідэй і вобразаў творчасці Якуба Коласа.

**Насця МАКРЫЦКАЯ**

АДГАЛОСКІ

# Вось такое скажэнне...

На жаль, моўныя варункі заўжды ў нас непазбежным чынам аздабляліся палітычна. Не пазбавіцца праяў наканаванай прыкметы і зараз.

Газета "Наша Ніва" намагаецца дамагчыся скасавання атрыманага напрыканцы вясны папярэджання ад Дзяржкамдруку аб "недапушчальнасці скажэння агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы". Яно даводзіць, што парушаецца артыкул 6 Закона РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Скажэннем з'яўляецца тое, што "ў аснове ўжываемага газетай "НН" пакладзены арфаграфічныя правілы, якія ўжываліся ў беларускай мове ў 20-х гадах нашага стагоддзя, але былі адменены правапіснай рэформай 1933 г." На падставе гэтага "НН" можа быць зачынена. Рэдакцыя захады ўладаў вытлумачвае як намер давесці "нацыянальнае адраджэнне да поўнае дэмаралізацыі". Газета вырашыла бараніць чытачоў, сябе і мову.

І на мінулым тыдні ў Вышэйшым гаспадарчым судзе РБ прайшлі два пасяджэнні, дзе разглядаўся іск "НН" да Дзяржаўнага камітэта па друку аб прызнанні папярэджання несапраўдным. Скаржнік, галоўны рэдактар выдання Сяргей Дубавец, адзначыў, што "ў судзе нельга разглядаць мовазнаўчую палеміку". Абарона ж ладзілася, па-першае, на тым, што не існуе строга і, галоўнае, заканадаўча вызначаных "агульнапрынятых норм", правілаў і магчыма цалкам адвольная інтэрпрэтацыя гэтага тэрміну; па-другое, папярэджанне ад Дзяржкамдруку грунтавалася паводле заключэння аднаго, тым больш заангажаванага, эксперта з Інстытута мовазнаўства сп. А. Жураўскага. Аргументацыя прадстаўніка Дзяржкамдруку зводзілася да таго, што нібыта гэты орган звяртаўся не асобна да А. Жураўскага, а да ўсяго Інстытута мовазнаўства, які камітэт лічыць самай аўтарытэтнай і кампетэнтнай установай у лінгвістычных даследваннях. А за моўныя стандарты, маўляў, трэба лічыць пастанову Савета народных камісараў БССР "Аб змяненнях і спрашчэнні беларускага правапісу", якую, дарэчы, калі напачатку 90-х гадоў праводзілася абмеркаванне перспектыў беларускага правапісу, адмысловая камісія абвясціла палітычным умяшаннем у моўны працэс. Да больш слушнага вырашэння пытання ў лепшыя часы "тарашкевіцу" пакінулі, рэкамендаваўшы ў афіцыйных выданнях і ў школьным навучанні выкарыстоўваць выключна сучасны правапіс. Але ж "НН" — газета незалежная...

У рэшце рэшт, іск "Нашай Нівы" — адмяніць папярэджанне альбо, прынамсі, прызначыць комплексную мовазнаўчую экспертызу, — суд задаволіў толькі ў другой частцы. Пры гэтым усе выдаткі на яе правядзенне ўскладаюцца на выданне. У кампрамісную экспертную камісію, зацверджаную судом, увайшлі Інстытут мовазнаўства і шэраг іншых спецыялістаў. Асоб гэтых, якія прадстаўляюць кафедры беларускай мовы Гродзенскага і Мінскага педагагічнага універсітэтаў і ТБМ, прапанавала "НН".

**Кірыла ПАЗНЯК**

ВАРУНКІ

# Было лета, быў ліцэй...

Лета сёлета, мякка кажучы, не надта. Вось мінулае... А што мінулае? Адно вільгаці было паменей. Ды час адпачынкаў ёсць час адпачынкаў, якім бы надвор'ем ён ні псаваўся. Але турботы ідуць не толькі ад нябеснай парафіі — у нас, як надвор'е, мяняюцца сітуацыі ў парафіі зямной — калі не зразумела, што там, "наверсе", дзе прымае рашэнні наша ўлада. І ад тых рашэнняў часта не да адпачынку. Асабліва тым, хто, асэнсаваўшы "ласку" загадаў і пастаноў, хоча адстаяць свае правы.

Другі год бацькі, дзеці, настаўнікі спрабуюць зразумець, чаму іх навучальная ўстанова — Беларускі гуманітарны ліцэй — выклікае ў дзяржавы такую заклапочанасць, чаму ўлада не згаджаецца выканаць адзіную іх просьбу — пакінуць ліцэй у спакоі. Тым больш, што ён карыстаецца неаспрэчным аўтарытэтам: мае стасункі з навучальнымі ўстановамі еўрапейскіх краін, а якасць атрыманай дзецьмі адукацыі можна ўбачыць не толькі на ўступных іспытах ліцэістаў у ВНУ, а і падчас іх студэнцтва. Дык, магчыма, у тым і прычына? Дзяржаве непатрэбна аўтарытэтная беларускамоўная адукацыя? Але яе суб'екты, бацькі, вядуць сваіх дзяцей у ліцэй. Значыць, не ўсю дзяржаву, а сяго-таго з яе кіраўніцтва не задавальняе імідж навучальнай установы. Чаго ж ім асцерагацца? Таго, што адукаваныя ліцэісты з любоўю да беларускай мовы і добрым яе веданнем могуць стаць апанентамі ўладзе, пагрозай ёй? Але на пытанне, кім яны стануць, адкажа час. Знішчыць жа ліцэй за тое, што ён заахвочвае і падтрымлівае ў сэрцах сваіх выхаванцаў любоў да роднай мовы (а яна і без таго ёсць і будзе ў іх сэрцах — яны ж зрабілі свой выбар), азначае адно — ісці супраць сумлення і справядлівасці. А аргумент на карысць палітызаванасці ліцэя — штучны, бо прыгожанька ж выглядае дзяржава, дзе палітычную ненадзейнасць прыпісваюць за любоў да дзяржаўнай мовы (а больш няма за што: цэнтр і ліцэй пры ім стваралі энтузіясты, якія марылі пра беларускамоўную навучальную ўстанову еўрапейскага ўзроўню і якія не пакідаюць працаваць дзеля гэтага і сёння, — за гэта не караюць).

Цяпер пра тое, адкуль узяліся словы "знішчыць", "пакараць". Маўляў, хто сказаў, што гэту ўстанову збіраюцца знішчыць? У пастанове за подпісам прэм'ера С. Лінга — ні слова пра гэта. Наадварот, Нацыянальны дзяржаўны ліцэй імя Я. Коласа — ці не шыкоўна гучыць? Як кажуць, вам робяць лепей, а вы — упірацца?

Усё гэта было б добра, калі б не было так дрэнна. Перадгісторыя, факты — упартая рэч. Год таму будынак на вул. Кірава, 21 "прыгледзелі" пасольствы, потым — ідэйныя хлопцы з БПСМ. Дзе пратэст дапамог, дзе часу ва ўлады не хапіла (што хутчэй за ўсё), а адстаялі-такі свой будынак ліцэісты. Ды яшчэ з адчуваннем сваёй годнасці і патрэбнасці: сам спадар Замяталін заверыў — ліцэю быць тут і назаўжды.

Гэта было неспакотнае лета 97-га. А на працягу навучальнага года з'яўляліся візіцёры, якія чамусьці рабілі непразрыстыя намёкі: маўляў, усе вы тут — кватаранты. Да канца навучальнага года забыўся на свае словы і сам Уладзімір Пятровіч. У дзяржавы пагоршыліся магчымасці фінансавання ліцэя і з'явілася вострая неабходнасць аб'яднаць яго з ліцэем пры Белдзяржуніверсітэце. Ізноў бацькам, настаўнікам і навучэнцам прыйшлося даводзіць, што яны пад словамі "ліцэй патрэбен, і не на год, а назаўжды" разумелі свой, усталяваны, самастойны, а не аб'яднаны хай з самай лепшай навучальнай установай. На працягу трох месяцаў тлумачылі, даводзілі і... Дачакаліся. Згодна з пастановай Савета Міністраў самастойны Нацыянальны ліцэй застаецца з тымі ж каардынатамі, дырэктарам, выкладчыкамі, якім у сваю чаргу павышаецца заработная плата, захоўваюцца першы і другі курсы (у ліцэі іх чатыры), якія збіраліся скасаваць пры аб'яднанні.

Дык што, перамога? Ды, на жаль, рашэнні нашага кіраўніцтва зменлівыя, як надвор'е. І можна было б паверыць у добрыя намеры, калі б пункт пастановы, што ўтрымліваў наступнае: "назначэнне дырэктара на пасаду ажыццяўляецца Міністэрствам адукацыі па ўзгадненні з Саветам Міністраў РБ", — не прывёў да пагрозы вызвалення ад пасады сённяшняга дырэктара Уладзіміра Коласа, які стварыў ліцэй і мае бясспрэчны аўтарытэт. Як тут людзям, што хварэюць за гэту справу, не схамянуцца: не атрымалася гвалтам зламаць, знайшоўся цывілізаваны спосаб — змяніць "начынне", дырэктара, а там, глядзіш, і канцэпцыя развіцця ліцэя зменіцца. Чаму б і не? Бо што такое перадгісторыя цягам года, як не пошук юрыдычных магчымасцяў — не падабаецца камусьці Колас і яго гуманітарны ліцэй. У дадатак з'явілася патрэба, пра якую ні слова ў пастанове: зрабіць Нацыянальны ліцэй імя Я. Коласа ўстановай пры педуніверсітэце. Чаму менавіта пры дадзенай ВНУ, калі ні бацькі, ні дзеці ў гэтым не зацікаўлены? Маўляў, узаемаўзбагачэнне ў адукацыі спрацоўвае толькі на карысць. Не будзем з гэтым спрачацца. Але ж узбагачацца можна, застаўшыся самастойнай адзінкай. Аргумент наконт таго, што ліцэй самастойнасці не губляе, адно робіцца часткай сістэмы, куды ўваходзіць педгімназія і каледж, якія, дарэчы, самі, займаюцца сваімі справамі, і іх дырэктары кіруюць усім навучальным працэсам, — нараджае ўсё тое ж пытанне: навошта тады ўсё гэта? Навошта ліцэю раптам спатрэбілася стаць часткай сістэмы?

Кіраўніцтва не дае яснага адказу, ці прадугледжана наогул у іх невідочных загадах пасада дырэктара ў ліцэі, затое добра вядома, што, калі першага верасня пачнецца забастоўка навучэнцаў, гэта будзе разглядацца не як акцыя ў абарону права набываюць жадаемую адукацыю, а як палітычны акт, накіраваны супраць... дзяржаўнага ўсталявання.

**Вольга ЛАШКЕВІЧ**

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

# Пісьменніцкая вандроўка

Паэты і пісьменнікі Полацка-Глыбоцкай філіі абласнога аддзялення СБП на мінулым тыдні наладзілі вандроўку да магілы Максіма Танка, які пахаваны на радзіме каля вёскі Пількаўшчына Мядзельскага раёна. Падарожжа было пазнавальным і плённым. Па шляху ў вёсцы Празарокі да помніка заснавальніку сучаснага беларускага тэатра Ігнату Буйніцкаму былі ўскладзены жніўеньскія кветкі. У Глыбокім літаратары наведалі мясцовы гісторыка-этнаграфічны музей, які нядаўна адкрыты і ўражвае наведвальнікаў сваёй глыбокай змястоўнасцю. У Глыбоцкай раённай бібліятэцы адбылася творчая сустрэча з чытачамі. Гучалі новыя вершы Л. Неўдаха, А. Жыгунова (дарэчы, ён і арганізаваў гэтую вандроўку), І. Дарафейчук, М. Баравік, М. Кукуця, Г. Варатынскай, Ф. Ляшчонка, А. Храпавіцкага, Г. Сутулы і іншых паэтаў, якія нясуць да чытача святло любай Бацькаўшчыны. А таленавітых і творчых людзей у гэтай старонцы багата. Б. Грамакоўскі, напрыклад, складае песні, піша музыку... У маленькай вёсцы Дзеравянкі на Пастаўшчыне падарожнікаў сустракаў паэт Ігар Пракаповіч.

Сябры Полацка-Глыбоцкай філіі вырашылі наладзіць восенню літаратурную вечарыну — ушанаванне 115-ай гадавіны з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага. У кастрычніку у вёсцы Калеснікі, на сядзібе, дзе нарадзіўся вядомы гісторык, будзе ўстаноўлены памятны камень.

**Святлана ГУК**

*ГОМЕЛЬ...*

# У галерэі — вернісаж

Нядаўна Гомельская выставачная зала пераўтворана ў карцінную галерэю мастацтваў. Тут адбыўся вернісаж ветэрана вайны Пятра Ігнатавіча Сітнікава, які нарадзіўся на Магілёўшчыне. Яшчэ ў гады Вялікай Айчыннай пісаў ён батальныя сцэны, сваіх сяброў па зброі. Стаў з цягам часу выдатным жывапісцам. Пейзаж, партрэт, нацюрморт — галоўныя накірункі мастацкай дзейнасці П. Сітнікава. Гэтым вернісажам мастак адсвяткаваў пяцідзесяцігоддзе творчага жыцця. Павіншавалі Пятра Ігнатавіча сябры-мастакі, творчая інтэлігенцыя Гомеля.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

# Песня выйшла ў фінал

У сталіцы Расіі праходзіць конкурс на лепшую песню пра пажарных. У ім удзельнічаюць і аўтары з Магілёва. Песня кампазітара Уладзіміра Глушакова на верш Івана Пехцерава "Бесстрашные пожарные Москвы", якую спяваў магіляўчанін Генадзь Сідараў, выйшла ў фінал. Ён адбудзецца ў снежні. Журы конкурсу ўзначальвае знакаміты Іосіф Кабзон.

**Іван ЯГОРАЎ**

# І юбілей, і фестываль

Старэйшаму аматарскаму тэатру рэспублікі, які дзейнічае ў гарадскім пасёлку Краснаполле, споўнілася 80 гадоў. Ля вытокаў тэатра стаялі настаўнікі-асветнікі браты Васіль і Андрэй Шашалевічы і Аляксандр Грубэ. Імёны першых двух вядомы ў беларускай літаратуры, а А. Грубэ стаў славутым мастаком і скульптарам, народным мастаком СССР.

З нагоды юбілею тэатра ў Краснаполлі прайшоў абласны фестываль самадзейнага тэатральнага мастацтва. У ім удзельнічалі лепшыя тэатральныя калектывы з Магілёва, Асіповічаў, Бялынічаў і г. Вязьма Смаленскай вобласці.

І сёння, як і 80 гадоў таму, у рэпертуары краснапольскіх тэатралаў творы беларускіх пісьменнікаў. Апошнім часам паказаны спектаклі па п'есах "Толькі мёртвыя не вяртаюцца" Івана Чыгрынава, "Суд" Уладзіміра Галубка, "Несцерка" Віталя Вольскага.

# Святы вяртаюцца

На Магілёўшчыне вяртаюцца з нябыту народныя святы і абрады, якія былі характэрныя менавіта для гэтага рэгіёна. Так, у вёсцы Асавец Бялыніцкага раёна ажыў Міхайлаў дзень, у вёсцы Белая Дуброва Касцюковіцкага раёна — гусінае свята на Панассе, якое асабліва шанавалася раней на радзіме народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова — у Саматэвічах. У вёску Забялышын вярнулася хлебаробскае свята Аўсень, а ў вёсцы Бялынкавічы, што на Касцюкоўшчыне, адбылася прэзентацыя абраду "Выпяканне вясельнага караваю ў доме нявесты".

# Першы зборнік паэта

У Магілёве выйшаў у свет першы зборнік паэта з Клімавіч Барыса Вароніна "От всего сердца". Спонсарам выдання выступіў Клімавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум, у якім доўгі час аўтар працаваў выкладчыкам.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*БРЭСТ...*

# Помнік партызанам

Слава аб баявых дзеяннях партызан Піншчыны ў гады Вялікай Айчыннай вядома далёка за межамі рэспублікі. Першы бой фашыстам быў дадзены атрадам пад камандаваннем Васіля Каржа ў вёсцы Галева 28 чэрвеня 41-га. Потым Корж камандаваў Пінскім партызанскім злучэннем. У складзе яго дзейнічала брыгада імя Молатава, якой кіраваў Міхаіл Герасімаў, а начальнікам штаба быў Дзмітрый Удовікаў. Апошні вядзе актыўную работу па ўвекавечванні гераічных спраў народных мсціўцаў. Стварыў таварыства пінскіх партызанаў і музей працоўнай і баявой славы ў Драгічыне (прысвоена званне народнага), выпускае газету. А ў гонар партызанскай брыгады імя Молатава па ініцыятыве Дзмітрыя Карпавіча быў пабудаваны і ўрачыста адкрыты ў Драгічыне памятны знак: два штыкі (армейскі і партызанскі), а паміж імі — журавель з распасцёртымі ў палёце крыламі. Праект знака распрацаваў намеснік галоўнага архітэктара Брэсцкай вобласці Аляксандр Вайтэнка.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

# Зоркавыя мроі

**_Зварот да рок-музыкаў Лявона ВОЛЬСКАГА ("NRM") і Уладзіміра СЕЛІВАНАВА ("Красные звёзды") падаваўся нам цалкам натуральным ва ўсіх мажлівых кантэкстах рубрыкі. Калі шчыра, мы нават спадзяваліся, што завочнае слоўнае супрацьстаянне іх атрымаецца больш выразным, мо нават баявым. Сталася ж трохі інакш. Галоўная выснова — яны змяніліся. Не, не сутнасна. Змяніліся хутчэй вонкава. Стараюцца пазбягаць крайнасцяў, пераважна палітычна аздобленых, у паводзінах і выказваннях. Чаму? Пасталелі. Да таго ж, здаецца, шмат што надакучыла, не прыносіць больш асаблівага плёну, задавальнення, эфекту. Сапраўды, лепш за ўсё іх выяўляюць іхняя музыка, іхнія вершы. Гэтым і акцэнтуюцца._**

**— Лявон, мы звязваліся з табой праз пейджэр. Ці значыць гэта, што адзін з найпапулярнейшых беларускіх рок-гуртоў займеў нарэшце дастатак?**

— Не. Гэта значыць толькі тое, што мяне вельмі цяжка знайсці па тэлефоне. Набыццё пейджэра — проста вымушаны крок. Для зручнасці. Зрэшты, я не магу сказаць, што людзі, якія граюць у НРМ, вельмі гаруюць. Хаця і незаможныя. Фінансавыя праблемы — велізарнейшыя. І ўвогуле, на зямлі, дзе абсалютна няма нармалёвага, цывілізаванага шоу-бізнесу, інакш быць не можа. Пра гэта столькі нагаворана, што нават нецікава зноўку размаўляць на гэтую тэму. Усё, збольшага, робіцца энтузіястамі.

*Грошай не будзе, будзе толькі грош.*
*Лепей не будзе, будзе толькі горш.*
*Лепей не будзе, будзе толькі горш.*
*Не спадзявайся на ўдалы лёс...*

**— Няўжо не прыцягваюцца сродкі і пад буйныя выдатныя праекты, такія, як, напрыклад, вядомы "Народны альбом"?**

— "Народны альбом" ствараўся на чыстым энтузіязме на студыі "Радыё 101,2" у вольны ад асноўнай працы час. Калі мы што і атрымалі, то сімвалічныя мізэрныя сумы. Але ўсе высілкі па тэхнічным выкананні і музычным аздабленні ідэй Міхала Анемпадыстава сталіся недарэмнымі. Бо ідзі гэтыяназвычай цікавыя і прыйшліся нам даспадобы.

**— На твой погляд — знутры, — беларускі рок, як гэта здаецца многім, сапраўды ў роскваце?**

— Безумоўна, што падчас уціску, падчас дыктатуры рок-музыка, асабліва блізкая да панку стылі, буяе. Тым больш — экстрэмісцкая. Гэтага варта было чакаць. Я толькі рады, што мы патрапілі зараз у гэтую плынь. Каб не было цяперашняй сітуацыі, то не адбылося б другога нашага нараджэння.

**— А пра які ўціск ты даводзіш? Кліпаў жа паводле НРМ на Беларускім тэлебачанні адносна багата. Вядома, выбар — што трансляваць у музычным плане — у іх недастатковы, і ўсё ж...**

— Я не кажу пра непасрэдны ўціск дзяржавы, ейных інстытуцый, а пра ўціск ад грамадства. А грамадства ў нас, відавочна, недэмакратычнае. Калі творца, які, тым больш, працуе ў экстрэмальным стылі, адчувае на сабе нейкі прыгнёт, ён павінен адказваць. Адэкватна. Сапраўды, хочацца неяк адказаць, хаця мы здольныя і ўстрымлівацца. Адказ наш выражаецца менавіта ў музыцы і ў тэкстах. Пры гэтым, натуральна, не забываемся на адвечныя тэмы. Простыя словы, простыя рэчы...

*Не палюбіць мне чужую краіну,*
*Не зразумець мне варожых людзей,*
*І не пазбегнуць удара ў спіну,*
*І не праспаць гістарычных падзей...*

**— Аднак выключна спевамі на канцэртных пляцоўках вы не абмяжоўваецеся. НРМ прымала чынны ўдзел у выразна музычнапалітычных акцыях у падтрымку таго ж Беларускага народнага фронту.**

— Натуральна, у нас ёсць пэўныя перакананні і сімпатыі. Таму можам выступіць за БНФ. Мы ніколі б не выступілі за БСПМ. Хаця мы неяк пасмяяліся і выраашылі, што за некаторыя сумы сыгралі б і перад БПСМ. Сыгралі б там такія песні, якія не пакідаюць раўнадушнымі.

**— Хіба ж яны будуць слухаць спевы па-беларуску?**

— А ў нас ёсць песні на трасянцы. Адмыслова. Вось і ў новы альбом яшчэ адну сачынілі.

**— Наколькі дзейсна змагацца праз творчасць?**

— Тое, што мы робім — гэта толькі адказ творчай асобы. Гэта рэакцыя на тое, што адбываецца. Як усё інтэрпрэтуецца далей, ад нас не залежыць. Аднак мы вельмі ўсцешаныя тым, што нешта аддаецца ў народзе. Але не хацелася б аніякім чынам спрычыніцца да таго, каб некага пасадзілі. Тым больш, што шмат хто захапляецца розными рухамі беларушчыны, як метал-рокам. Ім па 16-18 гадоў. А чалавек павінен мець час, каб заўпэўніцца, трывала ўсталявацца ў поглядах і выбары, магчымым ахвяраванні ўласным жыццём за Радзіму. Такім чынам, трэба калі ўжо змагацца, дык змагацца. Дарэчы, супрацьлеглы бок прадэманстраваў узровень, як неабходна дзейнічаць. Такімі ж метадамі, якімі абыходзяцца з намі. Хай гэта гучыць не зусім па-беларуску, не зусім памяркоўна. Аднак іншага варыянту тут няма, таму што ўсё будзе знішчана.



Лявон Вольскі

*А потым мы вып'ем з табой самагонкі*
*За нашыя пушчы, лясы і пагоркі,*
*За вольны наш край, за канец вайны,*
*Мы — партызаны, беларускія сыны...*

**— Пераважна ўсе беларускамоўныя гурты вызначаюцца выразнай грамадзянскай пазіцыяй. Падобны пафас натуральны, непазбежны?**

— Увогуле НРМ — разнапланавая эклектычная каманда. Проста на дадзены момант мы не можам па-іншаму спяваць. А як будзе іншы час, то нас можа занесці куды заўгодна. Мы зараз намагаемся не паўтараць подзвігаў 80-х гадоў, калі песні былі спрэс падобныя да газетных радкоў, надзвычай публіцыстычныя.

**— Чаму тады апошняй парой вы звяртаецеся на канцэртах да рэпертуару "Мроі"? Трохі ёсць тугі?**

— Мы спяваем мала што з таго перыяду і толькі тое, што музычна і тэкстава стасуецца з сучаснасцю. Некаторыя тагачасныя песні мы проста не можам выконваць. Смешна было б. Бо тэксты недасканалыя, ды і ўзрост у нас не той ужо. А вось музычна ўсё было тады вельмі цікавым і свежым.

**— Мяняюцца адно што пакаленні, а аблічча вашае публікі, здаецца, застаецца прыблізна тым жа. Яна заўжды маладая. А ідэйныя зместы, настрої, асацыяцыі з вашых песень хацелася б бачыць распаўсюджанымі і на людзей сталага веку. Альбо гэта нерэальна?**

— Нас добра ўспрымае не толькі моладзь. У НРМ няма зашоранасці, строга вызначанага стылю. Мы можам граць па-іншаму, хаця абавязкова так, як нам хочацца і падабаецца. Дарэчы, Міхал Анемпадыстаў распавядаў, што ў нейкай там вёсцы ёсць самадзейны калектыў, дзяды з якога выву чылі песні з "Народнага альбома" і спяваюць. "Крэўскую польку", напрыклад.

А калі вы маеце на ўвазе бабулек з вуліц... Дык ім дзіка, што чалавек можа несці немаўля ў заплечніку, а не ў калясцы. Будуць ісці і лямантаваць услед: "Ой, божанька! Што гэта робіцца?" А як валасы перафарбуеш? Гэта прыкмета развіцця народа. Быў некаторы культурны ўздым. Цяпер адбыўся адкат назад. Не дзіўна: народ развіваецца ў залежнасці ад таго, у якія варункі яго ставяць. Калі ўвесь час кармяць папсой, ён будзе з задавальненнем слухаць...

*І ўсе сябры, сябры мае*
*Падхопяць песеньку маю.*
*І кожны, кожны падпяе:*
*Е-е...*

**— Усе, хто шчыруе на Беларусі нацыянальнымі інтарэсамі, нібыта міжволі ствараюць утапічную рамантычную прастору, дзяржаву. НРМ — не выключэнне (дастаткова хаця б правесці дэабрэвіяцыю назова гурта). Калі адбудзецца ўварванне ў рэчаіснасць?**

*(Працяг гутаркі з Л. Вольскім на стар. 12)*

**— Уладзімір, ты сцвярджаеш, што "Красные звезды" — гэта "ідэалагічны праект па выхаванні моладзі". Як даўно ты адчуў сябе здольным выхоўваць і якія поспехі ў гэтай адказнай справе?**

— Адчуў усё ў самым пачатку творчасці. Годзе ў 93-м. Мяркую, што добра ведаю людзей, а таму маю права працаваць з моладдзю. Упэўнены, у мяне і нашага гурта ўсё выдатна атрымліваецца.

**— Ты лічыш, што ўсе слухачы — вашы свядомыя прыхільнікі?**

— Вядома ж, не. Ёсць звычайныя тусоўшчыкі, канкрэтныя адмарозкі. Але, спадзяюся, працэнтаў 10 ад агульнай колькасці наведвальнікаў канцэртаў "КЗ" мяне разумеюць і падтрымліваюць.

*Силу в кулак,*
*в авангарде новой пятилетки*
*шагает ГУЛАГ, стране советской*
*даешь дезинфекцию.*

**— Што выхоўваеце?**

— У першую чаргу — духоўнасць. Таму, што "Красные звезды" — гэта новы від рока — сац-арт-рок. Можна сказаць, Маякоўшчына, апранутая ў музыку. Адпаведны тэкст, адпаведная музыка закранаюць душу, узбуджаюць пэўную рэакцыю. Якую? Спачатку — пратэст, пасля — унутраную рэвалюцыю. Людзі пачынаюць па-новаму думаць, пераасэнсоўваць свае папярэднія ўчынкі. Ёсць даволі шмат канкрэтных прыкладаў.

**— Служба аховы збівае слухачоў. Гэта што — неабходны атрыбут рок-канцэрта?**

— Атрыбут? Што ж, мабыць, і так. Атрыбут парадку перш за ўсё. Дарэчы, магчыма, і на ахову "дзейнічае" наша музыка. Хто ведае...

**— Калі падчас канцэрта з нагоды Дня Перамогі падлетак цягне руку і крычыць "Хайль!"...**

— Гэта яго асабістыя праблемы — магчыма, са здароўем, з галавой. Ідыёт! Значыць, служба аховы недарма знаходзіцца ў зале. Мы не даём ніякіх установак. Паўтаруся, рэакцыя, якую мы чакаем ад слухачоў, — гэта ўнутранае ачышчэнне. На жаль, наша моладзь спажывае вельмі шмат непатрэбнай, шкоднай інфармацыі, збіраецца ў нейкія незразумелыя аб'яднанні. Іх безліч, у чым, дарэчы, адрозненне ад часоў існавання Савецкага Саюза. Інфармацыі было мала, вось яны, аб'яднанні, і не распаўсюджваліся. Грамадства павінна быць цэльным, вялікім. Тыя ж веды, што трапляюць да нас пераважна з Захаду, падзяляюць грамадства на варожыя групоўкі: гопнікі ўступаюць у бойкі з металістамі, дэмакраты — з камуністамі і г. д.

**— А на якой глебе ім аб'ядноўвацца?**

*Слышишь, шагают освободители*
*Кровь с молоком, и мы победители*
*Вихри враждебные сгинут во мгле*
*Русский порядок на русской земле.*

— Яны ўсе рускія людзі. Гэта асноўнае. У нашых песнях няма ніякіх заклікаў, але калі белы хлопец кажа, што ў душы ён нігер, я гэтага не разумею. Заходняя культура — жахлівая рэч. Як толькі яна трапляе сюды, яе адразу пачынаюць прапагандаваць...

**— І гэта кажа чалавек, які іграе рок?**

— Тое, што іграем мы, не іграюць нідзе ў свеце. Сац-арт — з самага пачатку тутэйшая з'ява, новы накірунак у року.

**— Дык якая ж ідэалогія ў ідэалагічнага гурта "Красные звезды"?**

— Быць людзьмі з чыстым сумленнем. Слухайце ўважліва песні і ўсё будзе зразумела. Тым больш, што восенню ў нас выходзіць цэлы шэраг альбомаў: "Алое знамя Победы", "Целина", "Красное колесо". Акрамя таго, плануем выпусціць альбом, які мае назву "Молодость" з песнямі Пахмутавай. Яна і Дабранраваў, дарэчы, згодныя. Яны нас вельмі любяць.

**— Столькі планаў! Ці ўзнікаюць у сувязі з гэтым фінансавыя праблемы?**

— Не, такіх праблем у нас няма.

*Солнце подари нам пожар*
*Солнце освети наш путь*
*Руки сами потянулись к огню*
*Это моя война и моя победа*
*Майн Кампф*



Уладзімір Селіванаў

**— Аднойчы газеце "Имя" ты распавёў пра свае стасункі з камуністамі, пасля быў на чале рэгіянальнага аддзялення нацыянал-бальшавіцкай партыі Э. Лімонава. Зараз носіш значок Рускага народнага адзінства...**

— Ну, у дзяцінстве шмат чаго было... Зараз я не з'яўляюся членам ніякай партыі. Што датычыць значка... Гэта звычайны рэкламны значок (на ім стылізаваная свастыка, надпіс "За русский порядок!", ніжэй "РНЕ". — **Аўт.**). Гэта эпатаж! Калі я начаплю "50 лет МТЗ", гэта ж не значыць, што я працаўнік трактарнага завода. Далёка не ўсе погляды РНА падзяляю. Канкрэтна? Я за адзіны народ, вялікую адзіную дзяржаву. Вось і ўсё. Шчыра кажучы, я мала знаёмы з гэтай арганізацыяй і не імкнуся пазнаёміцца бліжэй. Як ужо было сказана, я спрабаваў неяк утварыць партыю, але ўбачыў, што гэта бессэнсоўна. У Беларусі палітычна-пасіўны народ. Да таго ж прэзідэнт мае такую папулярнасць, што ўсе астатнія палітыкі не здольныя прыцягнуць да сябе вялікай увагі.

**— Хадзілі чуткі, што вы нейкім чынам звязаны з сённяшняй уладай у Беларусі. Тут, магчыма, адыграла ролю тваё знаёмства з С. Посахавым. Што тут праўда, што хлусня?**

— Ды ўсё хлусня! Акрамя, вядома, знаёмства з Посахавым, чаго не адмаўляю. Але гэта нічога не значыць. Ніякіх сувязяў з уладаю не меў і не маю.

**— У інтэрв'ю "Свободным новостям" ты распавёў пра нейкія "влиятельные силы, что стоят за вами". Не прыадкрыеш заслону таямніцы?**

— Не прыадкрыю.

**— Тамсама ты сцвярджаў, што праз пяць гадоў (а размова адбывалася ў 96-м) палітычнае становішча істотна зменіцца літаральна за адзін дзень. Спрычыніцца да гэтага тыя ж таемныя сілы. Раскажы падрабязней.**

— Пасля двух гадоў, што прайшлі пасля таго інтэрв'ю, магу толькі пацвердзіць, што так усё і будзе.

***...ваша ностальгия по добрым дядькам***
***весело окупится животной страстью***
***и правом надругаться над моею Родиной***
***... Родина моя — Россия.***

**— Ты казаў неяк аб сваёй нянавісці да "Крамы", "НРМ" і іншых беларускамоўных гуртоў. Чым яны выклікалі ў цябе такую рэакцыю?**

— Яны выкарыстоўваюць свой талент, а часцяком псеўдаталент, дзеля дасягнення палітычных мэт. Выключна масавыя канцэрты ў падтрымку БНФ. Выключна палітычныя песні. Узяць тую ж Касю Камоцкую, "Прэзідэнт, ідзі дамоў!". Што гэта?! А ўвогуле, мяне не цікавяць усе гэтыя беларускамоўныя, не цікавіць, чаго яны жадаюць і г. д. У сваёй творчасці я выйшаў на такі ўзровень, каб дазволіць сабе не звяртаць увагу на ўсялякія дробныя групы.

**— А ваш альбом "Русский порядок" хіба не палітычны?**

*(Працяг гутаркі з Ул. Селіванавым на стар. 12)*

## Землякі ўшанавалі земляка

**Да нядаўняга часу імя Міхаіла Міхайлавіча Расолава было мала вядома ў нас на Гомельшчыне. А потым пачалі з'яўляцца ў друку звесткі пра тое, што жыве ў Маскве цудоўны зямляк (нарадзіўся ў вёсцы Ціхінічы Рагачоўскага раёна), які дапамог паэтам з Рагачова Уладзіміру Немізанскаму, Васілю Дружкову і Юрыю Арэставу выдаць кнігі ў маскоўскім выдавецтве "Ікарус", а ў сябе на радзіме пабудаваў за ўласныя сродкі храм Міхаіла Архангела. Згадвалася таксама і пра тое, што роднай школе Міхаіл Расолаў падараваў карцінную галерэю, складзеную з твораў знакамітых маскоўскіх аўтараў, а таксама 48 мільёнаў беларускіх рублёў на стварэнне кабінета англійскай мовы з лінгафонным абсталяваннем.**

**Дык хто ж такі ён, Міхаіл Расолаў? Доктар юрыдычных навук, прафесар, загадчык кафедры Маскоўскага юрыдычнага інстытута, намеснік старшыні Вышэйшага атэстацыйнага камітэта Расійскай федэрацыі, член Саюза пісьменнікаў Расіі. Як звычайны вясковы беларускі хлапчук змог дасягнуць такіх вышыняў у самой Маскве? Менавіта пра гэта М. Расолаў расказаў на сустрэчы з землякамі, што адбылася нядаўна ў абласной цэнтралізаванай бібліятэцы і была прымеркавана да 50-годдзя пісьменніка.**

**М. Расолаў піша на рускай мове і мае на сваім рахунку кнігі прозы і паэзіі: "Не убий", "Стихи и рассказы", "Мне приснился клевер", раманы "Трудное перепутье", "Исполнитель" и "Августовский звездопад".**

**Землякі пажадалі земляку новых творчых поспехаў, а найбольш шчаслівыя з іх змаглі атрымаць кнігі з аўтографамі Міхаіла Расолава.**

**Васіль ТКАЧОЎ**

**адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў**

## З верай у дабрыню

**Анатоль Крывіцкі, чыя паэтычная кніга "Глыбіня" толькі што пабачыла свет у Слуцку, — далёка не навічок у паэзіі. У свой час у зборніку "Нашчадкі" прыйшла да чытача яго першая кніга "Давер". Радзіма А. Крывіцкага — Круглае, што на Магілёўшчыне. Закончыў гісторыка-геаграфічны факультэт Магілёўскага педінстытута. З 1965 года жыве ў Салігорску. Зараз працуе настаўнікам СШ N 6 г. Салігорска.**

**У зборніку "Глыбіня" (тыраж кнігі — 800 экземпляраў) — паэма "Салігорск" і два вершаваныя раздзелы ("Бліскавіцы дарог" і "Дакрананне душы"). Прадмову напісаў Васіль Когут. Даў ён і такую ацэнку творчасці Анатоля Крывіцкага: "Асноўным зместам паэмы і вершаў Анатоля Крывіцкага з'яўляецца працоўны чалавек і яго здзяйсненні: геолагі, шахцёры, будаўнікі маладога горада беларускіх гарнякоў — Салігорска, іх адухоўленасць у імкненні да высакароднай мэты - зрабіць наша жыццё змястоўным, насычаным прыгажосцю і веліччу спраў. Звяртаецца аўтар і да тэмы кроўнага радства з зямлёй бацькоў, з яе гісторыяй, з верай у дабрыню і прызначэнне чалавека на зямлі".**

**Матэрыяльную падтрымку ў выданні кнігі паэзіі А. Крывіцкага аказала рэгіянальная арганізацыя незалежнага прафсаюза Салігорска.**

**Мікола СЛАБАДСКІ**

## "Спяваючыя фантаны"



**У Мінску адкрылася кавярня "Спяваючыя фантаны".**

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

КНІГАРНЯ

# А пакуль будуць спісваць...

У апошнія часы ў прэсе даволі часта дыскутуецца пытанне аб характары і форме ўступных экзаменаў, мэтазгоднасці ці немэтазгоднасці правядзення некаторых іспытаў і інш. Асабліва востра гэтае пытанне ставіцца ў адносінах да сачынення — жанру славеснай творчасці абітурыентаў. Выказваюцца прапановы аб замене гэтага экзамена дыктантам, пераказам ці наогул аб знішчэнні яго з пераліку ўступных выпрабаванняў. І гэта не дзіўна. Сачыненне ва ўсе часы з'яўлялася адным з самых складаных экзаменаў. На ім правяраецца не толькі граматнасць, пісьменнасць, але і ўзровень эстэтычнага і духоўнага развіцця абітурыента, яго ўменне лагічна, паслядоўна, эмацыянальна і стылістычна правільна выкладаць уласныя думкі, разуменне ідэйнага зместу твора, літаратурнага працэсу, тэорыі літаратуры і інш. Згадзіцеся, выканаць усе гэтыя патрабаванні цяжка. З мэтай дапамагчы школьніку, абітурыенту ў вырашэнні такой складанай задачы і быў створаны дапаможнік В. Старычонка "100 сачыненняў па беларускай літаратуры", які выйшаў у выдавецтве "Вышэйшая школа" ў 1998 годзе.

Кніга "100 сачыненняў па беларускай літаратуры" з'яўляецца працягам папярэдніх выданняў аўтара "Ах, сачыненні, сачыненні..." і "55 сачыненняў па беларускай літаратуры". У структурным плане яна складаецца з дзвюх частак: метадычнай і тэкставай. Метадычная частка з'яўляецца даволі прадуманай, цэласнай, поўнасцю завершанай. У ёй аўтар акрэслівае агульныя патрабаванні да сачыненняў, аналізуе магчымыя іх тыпы, праводзіць характарыстыку тыповых памылак і сродкі іх пазбягання. Значная ўвага ўдзяляецца аналізу вольных (свабодных) тэм, напісанне якіх з'яўляецца найбольш цяжкім для абітурыентаў. В. Старычонак слушна заўважае, што ўчарашнія школьнікі слаба ведаюць агульны стан сённяшняга літаратурнага працэсу, "яго вядучыя тэндэнцыі, жанравае багацце і тэматыку твораў, іх нацыянальнага асаблівасці і гуманістычны змест". Таму апраўданым з'яўляецца змешчаны ў гэтай частцы спіс літаратуры па сучаснай паэзіі, прозе, драматургіі.

В. Старычонак аналізуе ўсе структурныя часткі сачынення (уступ, асноўную частку і заключэнне), паказвае іх суразмернасць, прыводзіць прыклады напісання ўступу па некаторых тэмах. Не пазбегнуты ўвагай і так званыя планы, якія (хоць і не патрабуюцца на экзамене) дазваляюць лагічна і паслядоўна выкласці думкі, пазбегнуць паўтораў, выпадковых адхіленняў ад тэмы. Аўтар дае рэкамендацыі па афармленні эпіграфа, цытат, нагадвае асноўныя правілы пастановкі знакаў прыпынку, аналізуе найбольш тыповыя фактычныя і моўныя памылкі, прыводзіць крытэрыі адзнак пісьмовых экзаменацыйных работ. Добра разумеючы, што без ведання літаратуразнаўчых тэрмінаў нельга напісаць сачыненне аб творчай манеры пісьменніка, мастацкіх асаблівасцях твораў, іх жанрава-тэматычнай разнастайнасці, кампазіцыі і інш., В. Старычонак праводзіць тлумачэнне 100 найбольш ужывальных і неабходных абітурыенту тэрмінаў.

У другой частцы кнігі прыводзяцца 100 тэкстаў сачыненняў на самыя розныя тэмы: па гісторыі беларускай літаратуры, творчасці асобных пісьменнікаў, па празаічных і драматычных творах, персанажах асобных літаратурных твораў, паралельным аналізе вобразаў і інш. Тэксты сачыненняў размешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці. У спісе першых дзесяці ёсць такія, як "Постаці далёкай мінуўшчыны", "Нябесная заступніца Беларусі Ефрасіння Полацкая", "Падзеі і факты беларускай гісторыі ў "Слове пра паход Ігараў". Цікавымі з'яўляюцца тэмы, прысвечаныя беларускай літаратуры і культуры эпохі Адраджэння, дзейнасці Францішка Скарыны і прадаўжальнікаў яго традыцый Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, выдатнай паэмы М. Гусоўскага "Песня пра зубра", літаратурнай спадчыне Сімяона Полацкага, творам Яна Баршчэўскага, рэвалюцыйна-асветніцкай дзейнасці Кастуся Каліноўскага. Дзве тэмы прысвечаны творам В. Дуніна-Марцінкевіча ("Гапон" і "Пінская шляхта"), тры тэмы — творчасці Ф. Багушэвіча. Поўна і ўсебакова ў кнізе прадстаўлена творчасць Янкі Купалы. Аўтар сканцэнтраваў увагу на праграмных творах — паэмах "Бандароўна" і "Тарасова доля", драме "Раскіданае гняздо", камедыі "Паўлінка", трагікамедыі "Тутэйшыя". Асобна разглядаецца тэма Беларусі ў лірыцы Янкі Купалы першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя. Выдатны твор Якуба Коласа "Новая зямля" вывучаецца ў пяці аспектах: "Новая зямля" — энцыклапедыя жыцця беларускага сялянства ў дарэвалюцыйны час", "Жыццёвая дарога Міхала", "Вобраз дзядзькі Антося", "Незабыўны свет маленства", "Карціны прыроды ў паэме". Выклікаюць цікавасць агляданыя тэмы па творчасці Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі. Сучасная паэзія прадстаўлена творамі Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Алеся Разанава, Анатоля Вярцінскага, Сяргея Законнікава. З тэм па характарыстыцы літаратурнага героя можна назваць "Вобраз Самсона Самасуя ў рамане А. Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя", "Духоўны свет, маральная высакароднасць Андрэя Лабановіча (трылогія Якуба Коласа "На ростанях")", "Вобраз Ганны ("Палеская хроніка" І. Мележа)". Сённяшні падыход да разгляду літаратурнага працэсу, сучаснае прачытанне ўжо вядомых твораў адчуваецца ў раскрыцці такіх тэм, як "Новыя творы Васіля Быкава", Драма Васіля Дзятла ў "Палескай хроніцы" І. Мележа", "Ці быў Міхал Тварыцкі ворагам народа? (па рамане К. Чорнага "Трэцяе пакаленне")". Паралельнаму аналізу вобразаў прысвечаны тэмы "Шляхі-дарогі Пятра Шапятовіча і Сашы Траянавай (па пенталогіі І. Шамякіна "Трывожнае шчасце")", "Вобразы Петрака і Сцепаніды (па аповесці В. Быкава "Знак бяды")", "Васька Шкетаў і Ванька Разанскі ў апавяданні М. Лынькова "Над Бугам".

# "Черное солнце" прарочыць дзень...

Імя Феліксა Мысліцкага не надта вядома чытачу. Але зараз, пасля выхаду ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" яго кнігі паэзіі "Черное солнце", паэт несумненна набудзе вядомасць. А паэт ён адметны, непадобны на іншых. Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін напісаў да зборніка невялікую прадмову "Паэзія жыцця", якую пачынае так: "Фелікс Мысліцкі — паэт чуйны і праніклівы, паэт трывожны, паэт, які шукае. Гэта ён убачыў "краснощекий воздух", "мыслящее небо над рекой", прыкмеціў, што "день моложе ночи" і як "взрослеет небо Иерусалима". Чытаеш яго вершы і верыш, што гэта сам паэт, як і яго лірычны герой, "от звезды к звезде ходил и небо изучал".

Адметнасць паэзіі Ф. Мысліцкага Р. Барадулін прыкмеціў вельмі дакладна. Сапраўды, Ф. Мысліцкі — паэт, які ў пастаянным пошуку. У аднолькавай меры і творчым, і жыццёвым. Ён з тых, хто любіць наваколны свет (зразумела, і чалавека ў гэтым свеце) і не перастае здзіўляцца ўсяму, што навакола. І хоць нярэдка здзіўленне гэта не ідзе далей звычайнага запытання, недаўмення, гэтага дастаткова, каб пераканацца, што падобны стан душы можа перажываць толькі чалавек, які паэт па прызванні, паэт у душы. Як у гэтым чатырохрадкоўі, якое адкрывае кніжку:

***Какие птицы световые***
***Так исходили небосвод?***
***Всю ночь горят следы живые,***
***Весь день их свет во мне живет...***

Аднак Ф. Мысліцкі адначасова здатны не забываць і пра складанасці жыцця і тыя супярэчнасці, з якіх і "сатканa" рэчаіснасць. Яны таксама арганічна ўваходзяць у канву вершаў, а думка, выказаная ў іх, набывае важкі сэнс і ёсць магчымасць шмат над чым паразважаць і над многім задумацца:

***Как радуется куст***
***Тому, что тополь,***
***Всегда глядевший на него свысока,***
***Там, в вышине,***
***Лишь одиночество нашел.***

Стаўленне да паэзіі ў аўтара "Черного солнца" актыўна-дзейснае. А як разумее Ф. Мысліцкі яе прызначэнне, якую ролю адводзіць ёй напрыканцы дваццатага стагоддзя, відаць з яго падборкі лаканічных выказванняў "Аб паэзіі", што нярэдка нагадваюць афарыстычна-завершаныя высновы: "Поэт, как плакучая ива, всю жизнь выплакивает тоску, а выплакать не может"; "Летящий ниже тебя не поймет твой полет", "Слушай подсознание и философствуй"? "Стихи рождаются в плохой словесной одежде, одежду можно и нужно сделать идеальной, но стихотворение остается таким, каким оно родится"; "Описывая предмет, поэт должен знать только часть его, а остальное вообразить"...

Кіруючыся гэтымі (як і іншымі правіламі), прымаючы іх за першаасnову, Ф. Мысліцкі і піша свае творы, найчасцей паўстаючы творцам з багатай фантазіяй, здатнай нараджаць вобразы, якія вылучаюцца яркай арыгінальнасцю. А быць адметным - ці не найпершая адзнака сапраўднай паэзіі. І сведчанне таму, што талент развіваецца ў патрэбным рэчышчы. Р. Барадулін у якасці прыкладу, наколькі Ф. Мысліцкі ўмее быць самім сабой, прыводзіць такія радкі:

***Здесь сад сторожила бессонная хата,***
***Здесь речка звенела и в солнце ушла.***
***Давай прислонимся к началу заката...***

Пры гэтым дадае: "Прыхінуцца да захаду сонца можа толькі паэт..." І падобных прыкладаў можна знайсці ў кніжцы шмат. Ф. Мысліцкі ўмее, "вдруг замедлив шаг", слухаць "соленый лунный ливень". Ён, узіраючыся ў "нездоровое слезное небо", шчыра прызнаецца, хоць пакуль і не знаходзіць дакладнага адказу, адкуль вытокі гэтага захаплення: "Отчего я люблю, как вначале, Этот женственный звон синевы, Перелетный плач над печалью, Желтизну и паденье листвы". А наколькі выразны гэты малюнак восеньскага саду: "Что от зелени Здесь осталось, смотри, Только пепел осенний На тропинках зари".

Умее паэт і ствараць як бы настраёвыя паэтычныя палотны. Канечне, настраёвыя не памерам, а вобразнай напоўненасцю і насычанасцю радка. У такім разе ўзноўлены малюнак асабліва аб'ёмны, а адсюль паўната ахопу прасторы, наваколля, прысутнічае сама гармонія жыцця, а супярэчнасці яго знікаюць. У гэтым разе творца — не суэіральнік, ён дзейсная, актыўная натура:

***Эта ночь застоялась и держится крепко***
***за деревья и хаты***
***Состарились звезды и падают***
***раня туманы и сны***
***щурятся росы от месяца***
***молчанье боится звука***
***прячутся в норы дрожа огоньки***
***возвращаются песни и крики с гулянья***
***заслоняя даль***
***кличет птица светило***
***что спит еще горой***
***проходят какие-то тени***
***боясь наступить***
***на начало рассвета***
***восстань мое слово и в окна стучи***
***приглашай на праздник свиста и щебета***
***дух возрастает и тихо туманятся думы***

"Черное солнце" — гэта і боль Чарнобыля. Адзін з падраздзелаў кнігі — "Чарнобыльскія вершы". Аднак гэтая тэма не абмяжоўваецца толькі згаданым цыклам, а пранізвае многія творы, што не ўвайшлі ў яго. У тым ліку і паэмы (аўтарскае вызначэнне жанру "паэтастрофы"). Адна з іх, дарэчы, называецца "Чарнобыльскія катаклізмы".

Не можа Ф. Мысліцкі не пісаць пра Чарнобыль. Ужо хоць бы таму не можа, што з напамінкам аб ім сутыкаецца штодня. Жыве паэт у Гомелі, а ў ім, як прызнаецца Ф. Мысліцкі ў адным з лістоў, "табло, якое паказвае ўзровень радыяцыі ў нашым горадзе, увесь час глядзіць у маё вакно. Усе мае

Завяршаецца кніга сачыненнямі на вольную тэму, пры напісанні якіх ад абітурыентаў (школьнікаў) патрабуецца не толькі веданне літаратуры, але і ўменне выкласці на паперы свае ўласныя думкі, меркаванні, выявіць эрудыцыю, інтэлектуальную і духоўную сталасць. Сачыненні гэтага тыпу прадстаўлены тэмамі "Табе складаю шчыры свой санет, прапрадзедаў маіх жывая мова", "Прырода — крыніца прыгажосці", "Будзе, будзе да скону мне Чарнобыль балець", "Нам засталася спадчына", "Кожны з нас выбірае сцяжыну жыцця", "Будучае пачынаецца сёння", "Усё пакінуць след павінна" і інш.

Дапаможнік адрасаваны абітурыентам, вучням старэйшых класаў, слухачам падрыхтоўчых курсаў. В. Старычонак нагадвае, што сачыненне прадугледжвае пісьменнае, лагічнае, паслядоўнае, эмацыянальнае і стылістычна правільнае выкладанне ўласных думак, уменне мысліць, разважаць, супастаўляць, аналізаваць, супяражываць... І адсюль — слушная перасцярога аўтара, што кніга ні ў якім разе не можа быць для абітурыентаў панацэяй, шпаргалкай, што няма сэнсу завучваць сачыненні на памяць і выдаваць іх за свае "творы" на экзамене". Нельга не пагадзіцца з думкай аўтара, што "карысць можа прынесці толькі творчая перапрацоўка прыведзеных сачыненняў, якія трэба не столькі чытаць і запамінаць, колькі аналізаваць, рэцэнзаваць і тым самым трэніраваць сябе, удасканальваць сваю ўласную манеру пісьма. На жаль, гэту просьбу аўтара абітурыенты і школьнікі не заўсёды чуюць і, як вынік гэтага, — спісваюць цалкам ці часткова: перабудоўваюць сказы, перастаўляюць абзацы, робяць сваю кампаноўку. Аб гэтым слушна ўжо пісала ў "Настаўніцкай газеце" за 31 студзеня 1998 г. настаўніца беларускай мовы і літаратуры М. Верціхоўская. Уявіце сітуацыю рэцэнзента, які, прачытаўшы прыкладна 20 аднолькавых сачыненняў, павінен пэўным чынам іх ацаніць. М. Верціхоўская прапануе ў якасці выйсця замяніць сачыненне на дыктант, пераказ, водзыў і інш. У ВНУ гэта магчыма (хоць і ў гэтым годзе на многіх факультэтах пішацца сачыненне). А як у школе? Наогул выкрасліць гэту творчую работу з ужытку настаўнікаў і іх выхаванцаў? А калі не, то як навучыць школьнікаў правільна пісаць сачыненне? І ці магчыма гэта наогул? А пакуль будуць нашы дзеці і ўнукі спісваць "са Старычонка" і выдаваць чужыя думкі за свае.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар**

---

вершы — чарнобыльскія, нават калі ў іх няма нічога аб Чарнобылі... Мы доўга жылі з сябрам у пакінутай вёсцы на беразе Сожа. Там было гэтак ціха і добра, а часам жудасна..."

Чарнобыль настолькі не адпускае яго ад сябе, што паэт не можа не думаць пра наступствы гэтай страшнай трагедыі нават на Святой зямлі: гора Радзімы, гора Беларусі не дае спакою нідзе:

*Гомора и Чернобыль — близнецы.*
*Столб соли, рыжий лес —*
*как память горя.*
*Полесская земля во все концы*
*Библейская, ей бы лучей с Фавора,*
*Где на следах Господних пришлецы*
*Мессию ждут, земному страху вторя,*
*Где, достигая неба головой,*
*Стоял я, освещенный синевой.*

Часам усё тое змрочнае, якое ёсць у жыцці, настолькі ўваходзіць у паэтаву душу, што выліваецца ў верш нейкім суцэльным патокам, а гэта, як на маю думку, разбурае цэласнасць твора, з'яўляецца нейкая імпульсіўнасць, вобразы, якія стаяць поруч, не стыкуюцца:

*Похоронный оркестрик*
*захлебнувшись смотрит*
*в лица движенью*
*смотрит ввысь мертвец и видит больше*
*чем видел при жизни*
*траурный сумрак испугавшись*
*света прячется*
*в городскую суету*
*глазеют окна в пропасть двора*
*лишь откормленные мысли*
*не болеют отчаянием*
*не их удивит ростом солнце*
*не их выберет себе небо*
*не они обрастут словами*
*и обернутся песнями*
*этих громад*

Ды гэты песімізм, гэтая "хісткасць" радка — часовыя. Хочацца пагадзіцца з Р. Барадуліным, які ўступнае слова завяршае такімі словамі: "А "Черное солнце" прарочыць дзень". Дзень — як з'яву часавую. І дзень, як перспектывы паэзіі Ф. Мысліцкага, паэта, які гэтай кнігай засведчыў, што магчымасці яго, як творцы, немалыя.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

ВІНШУЕМ!

# З хаткі дзеда Уладкі

## Уладзіміру МАЦВЕЕНКУ — 70

Творчы лёс Уладзіміра Мацвеенкі — выключэнне з распаўсюджанага правіла, што талент чалавека найчасцей выяўляецца ў раннім узросце. Не аднясеш Уладзіміра Іванавіча і да прадстаўнікоў філалагічных прафесій. Але па парадку... Уладзімір Мацвеенка — мінчанін. Да вайны скончыў пяць класаў. У час фашысцкай навалы давялося гараваць разам з маці і братам, бо бацька памёр. У 1946 годзе скончыў сямігодку і паступіў у Мінскі палітэхнікум. А пасля — служба ў арміі, праца рэтушорам-травільшчыкам, старшым інжынерам на Мінскім прыборабудаўнічым заводзе. Адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні Мінскага медыцынскага вучылішча, якое скончыў у 1956 годзе. Набыў прафесію зубнога тэхніка. Цяпер Уладзімір Іванавіч працуе ў Мінскай абласной стаматалагічнай паліклініцы.

Літаратуру палюбіў са школьных гадоў. Аднак доўгі час вагаўся, ці самому брацца за пяро. А калі рашыўся, пачаў з сатыры і гумару. Вершаваныя гумарэскі, карацелькі былі прыхільна сустрэты і рэдакцыях і, пасля надрукавання, чытачамі. А ў хуткім часе Уладзімір Іванавіч пачаў пісаць і для дзяцей. У гэтым кірунку і дасягнуў большага поспеху, хоць і лічыць пачаткам сваёй літаратурнай працы 1973 год, калі засмяяўся "прылюдна". У. Мацвеенка свой аўтар такіх выданняў, як часопісы "Бярозка", "Пралеска", "Вясёлка" і іншыя. Выйшла ў яго шэраг кніг, у тым ліку "Загадкі Зайкі-загадайкі", "Загаданачка", "Сябрынка", "Азбука ў загадках"...

"Азбука ў загадках" з'явілася ў "Бібліятэцы часопіса "Вожык". Кніга для дзяцей і ў "дарослым" часопісе! Ды галоўны рэдактар "Вожыка" Валянцін Блакіт, як кажуць, ведаў, на што ішоў. У кнізе змешчаны творы для дзяцей, напоўненыя тонкім, дасціпным гумарам, а сям-там у іх прысутнічае і сатыра. "Азбука ў загадках" — унікальная кніга і па іншай прычыне.

Канечне, жанр падобных "азбук" у літаратуры для дзяцей (у тым ліку і ў беларускай) распаўсюджаны. І кожнаму новаму аўтару цяжка сказаць нешта сваё і не паўтарыць іншых. У. Мацвеенка і сказаў, і не паўтарыў. А яшчэ, што вельмі важна, здолеў у сваёй "азбуцы" выкарыстаць усе літары алфавіта. А гэта вельмі няпроста. Трэба валодаць высокім паэтычным майстэрствам, багатай фантазіяй, каб не прамінуць і такія, як "й", "ы", "ь".

З літарай "й" У. Мацвеенку было прайсці. Прыгадаў, што дзеці часам называюць кошку "Йошка". Астатняе — справа таленту. У іншых выпадках выйсце не менш арыгінальнае. Як, напрыклад, у загадцы "Мяккі знак":

*Мяккі знак*
*Сярод літар стаяў,*
*Мяккі знак*
*Перад сном пазяхаў...*
*Ды раптам — бом!*
*Зваліўся гляк,*
*І трапіў ён*
*На мяккі знак.*
*Пабіўся —*
*Не разбіўся*
*І ўголас*
*Пахваліўся:*
*— Пашанцавала*
*Мне, аднак,*
*Што я*
*Упаў на ...*

А яшчэ "Азбука ў загадках" вылучаецца тым, што і ўсе адгадкі ў ёй адпавядаюць той літары, якая "загадваецца". Дый яшчэ напісаў уступ у форме лічылкі, які сам па сабе выклікае ў дзяцей інтарэс. Ім хочацца хутчэй даведацца, а што ж будзе далей:

*Раз, два, тры, чатыры, пяць...*
*Літары ў радок стаяць,*
*Вывучым мы напачатку*
*З кожнай літарай загадку*
*І пачнём буквар чытаць.*
*Мама, тата, школа, крама,*
*Глеба, праца, запавет.*
*Знайце, дзеткі дарагія,*
*Літары хоць і малыя,*
*Ды адкрыюць вам сусвет.*
*Раз, два, тры, чатыры, пяць...*
*Пачынаем вывучаць.*

Шмат досціпу, шчодрай фантазіі і ў кнізе "Сябрынка". Пад адной вокладкай сабраны не толькі творы-калыханкі, скорагаворкі, акраверш і г. д., але і змешчаны пачатковыя звесткі па літаратуразнаўстве. Не здзіўляйцеся — літаратуразнаўстве, бо У. Мацвеенка спачатку знаёміць маленькіх чытачоў з адметнасцю пэўнага жанру, а пасля прапануе творы. Да Уладзіміра Іванавіча падобныя захады рабіў хіба Міхась Пазнякоў, у якога таксама нямала цікавага з элементамі "мовазнаўства" і "літаратуразнаўства".

Першы раздзел — "Што такое вершы". Калі прыняць пад увагу ўзрост чытача, думаецца, тлумачэнне вычарпальнае: "Верш — гэта невялікі завершаны па думцы і форме твор, напісаны вершаванай мовай. Вершаваныя творы і сам тэрмін з'явіліся ў беларускай літаратуры на самым пачатку XVI стагоддзя ў творчасці Францыска Скарыны. Вершаванай мовай пішуцца вершы, акравершы, паэмы, раманы, казкі, байкі, песні, скорагаворкі, лічылкі і г. д.". Услед за развагамі, так сказаць, тэарэтычнага плана ідуць і самі творы.

Тлумачацца і адметнасці пэўнага віду верша. Зноў жа даходлівасць спалучаецца з займальнасцю: "Акраверш — гэта верш, у якім пачатковыя літары вершаваных радкоў, прачытаных зверху ўніз, утвараюць прозвішча альбо імя таго, каму верш прысвячаецца", — тлумачыць ён і ў якасці прыкладу прыводзіць верш, добра вядомы не аднаму пакаленню дзяцей:

*Наша Таня горка плача —*
*Закаціўся ў рэчку мячык.*



*— Ціха, Танечка, не плач,*
*Не патоне ў рэчцы мяч.*

І тут жа паказвае, як кожны з гэтых радкоў можа паспрыяць утварэння акраверша. Калі трошкі словы змяніць, пераставіць іх, атрымаецца:

*Таня наша горка плача —*
*Апынуўся ў рэчцы мячык.*
*— Не ўзнімай, Танюша, плач,*
*Я дастану з рэчкі мяч.*

Прачытаеш пачатковыя і, калі ласка, Таня.

Арыгінальнымі атрымаліся і раздзелы "Што такое песні і калыханкі?", "Што такое скорагаворкі?", "Што такое лічылкі?", "Што такое смяшынкі?", "Што такое загадкі?"... Кніжка вельмі патрэбная, бо не проста займальная, а далучае дзяцей да літаратуры. Адно дзіву даешся, як жа трэба любіць родную мову, ведаць яе, каб так хораша напісаць, прыпаднёсшы хлопчыкам і дзяўчынкам сапраўдныя ўрокі мовы і літаратуры.

А ў плане выдавецтва "Юнацтва" новая кніга Уладзіміра Іванавіча — "Загадкі з хаткі дзеда Уладкі". Думаецца, яна будзе мець гэткі ж поспех, як і "Азбука ў загадках", "Сябрынка". Апошняя, дарэчы, адзначана Літаратурнай прэміяй імя Янкі Маўра. Прачытаўшы "Загадкі...", дзеці даведваюцца, што такое і загадкі, і шарады, і анаграмы, і метаграмы, і амонімы...

Падрыхтаваў падарунак і калектыў рэдакцыі часопіса "Вожык", даючы зялёнае святло яшчэ аднаму зборніку У. Мацвеенкі "Сорак скорагаворак".

Шчодрая творчая сявенька ва Уладзіміра Іванавіча. І гэтай шчодрасцю ён спяшаецца дзяліцца з маленькімі чытачамі.

Далейшых поспехаў Вам, Уладзімір Іванавіч!

**А. М.**

---

# "На здаровым карэнні — жывое ўзрасло"

У чытальнай зале Пастаўскай раённай бібліятэкі трапілася мне на вочы знешне даволі прываблівая, невялічкага фармату кніжачка "У люстэрку", у якой змешчана ўсяго сорак восем вершаў. Аўтар — Людміла Сіманёнак. Зацікавіўся, узяў пачытаць. А цікавасць мая і да кніжкі, і да яе аўтаркі выклікана тым, што мы з'яўляліся сябрамі адной і той жа літаратурнай суполкі "Світанак", якая працавала пры рэдакцыі раённай газеты "Пастаўскі край". На складкі членаў літаб'яднання выдаваўся паэтычны альманах "Рунь". Дык вось у "Руні-92" была прадстаўлена чытачу, праўда, адным толькі вершам, і Люда Сіманёнак, на той час выпускніца пастаўскай СШ N 2.

Прайшло чатыры гады. І ў 1996 годзе Л. Сіманёнак, студэнтка Віцебскага педінстытута займела сваю першую кніжку вершаў дзякуючы фундацыі газеты "Выбар".

Сёння часы — не найлепшыя. І Людміла, дваццацігадовая дзяўчына, ведаючы гэта, як бы пытаецца ў чытача: "Можа, я занадта ўжо лірычная як на нашы збедненыя дні". Вядома, што яна, знаходзячыся на пачатку свайго жыццёвага шляху, у нейкай меры яшчэ палянянка юначых ружовых мар, на свет глядзіць шырока адкрытымі вачыма, з вялікім даверам ідзе да чалавека:

*Веру ў адзін сусвет разгорнуты,*
*Веру ў чалавечую душу.*

Усе выпрабаванні яшчэ наперадзе, не раз прыйдзецца сутыкнуцца і са здрадай, і з падманам, і з хлуснёю. І ўсё ж Л. Сіманёнак, нягледзячы на малады ўзрост, не на ўзроўні падсвядомасці здагадваецца, а ўвачавідкі бачыць усе заганы чалавечай натуры: "Кожны... вылучаўся нагодай: То вайною з чужынцам, То вайною з народам. І разбураным ладам, і будоўляй з крывёю. І адрынутай праўдай, і шаноўнай хлуснёю". У той жа час яна і верыць чалавеку, і ідзе да яго, адштурхоўваючыся ад прыроды, бо ў ёй закладзена ўсё самае светлае і чыстае, бо гэта яна кожнага з нас яшчэ ў мацярынскім лоне поўніць добраю сілаю:

*Ты ведаеш, у дрэваў ёсць душа,*
*Бяздушнасці ў дрэваў не бывае.*

Толькі ахвяруючы самым існым і глыбінным у сабе, можна нешта ў жыцці перайначыць, што і ўсведамляе паэтка: "Болем заблытанасць перайначу З добрых і злых праяў". Марыць нікому не забараняецца. Безумоўна, ёсць мары пустыя, а ёсць і запаветныя, тыя, што абавязкова збудуцца, калі ты душою і кожнай думкай з Богам, калі прагнеш, каб Святы Дух вызначаў тваю долю:

*І на сумным алтары*
*Пад празрыстае шкельца*
*Дзеля светлае мары*
*Мая доля кладзецца.*

Жыццё, як вядома, кожнага з нас выпрабоўвае на трываласць. Адны ўзлятаюць да высокіх зор, другіх засмоктвае ціна прагнасці, трэція спакваля, дачасна паміраюць ва ўдушлівай атмасферы алкагалізму. Чалавек патрэбен Богу і людзям, але "Варта спазнаць найлепей Ды праз усе шляхі Толькі адно: які Сам ты сабе патрэбен". Многія аслеплі і аглухлі, сталі раўнадушнымі, абыякавымі да ўсяго, чым жыве наўколле:

*Сарамяжныя ўсхліпы, застыглая кроў,*
*Маладыя памкненні пад лёдам.*
*І не чуем ні ворагаў мы, ні сяброў,*
*Нават самі сябе — не заўсёды.*

Людміла Сіманёнак гранічна шырая, выказвае гарачую гатоўнасць змяніць шмат што ў сённяшніх рэаліях. І яна звяртаецца да Ефрасінні Полацкай: "І ўсім, хто з вольнай сцежкі саступіў, і хто краіну ў роспачы пакінуў. І тым, хто мову матчыну забыў, Даруй грахі, святая Еўфрасіння". І самае галоўнае:

*На адраджэнне людскасці ў людзях*
*Благаславі,*
*святая Еўфрасіння!*

...Хто не бачыў, як маладыя буслы, падбадзёраныя бацькамі, пачынаюць лятаць. Спачатку кружаць, бліжэй трымаючыся гнязда. Ва ўзмахах крылляў няма той упэўненасці, той сілы, якія робяць палёт плаўным і высокім. Але кругі становяцца ўсё шырэйшымі, вышэйшымі. Маладое сэрца рыхтуецца да галавакружных узлётаў, да адолення далёкіх шляхоў-дарог. І маладая паэтка мае рацыю заявіць:

*На здаровым карэнні —*
*жывое ўзрасло.*
*І нягожа яму пахіляцца.*

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

## Янка Брыль — ганаровы грамадзянін

Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, як вядома, нарадзіўся ў Адэсе. Ды сапраўдная радзіма чалавека там, дзе прайшло яго маленства. А гадаваўся Іван Антонавіч у вёсцы Загора цяперашняга Карэліцкага раёна, куды пераехаў з бацькамі ў 1922 годзе. Радзіма бацькоў — стала і радзімай сына. На ўсё жыццё! Іван Антонавіч падоўгу жыве ў сваёй роднай вёсцы. Сваім адчувае сябе сярод землякоў. Успомніў пра народнага пісьменніка Беларусі і Карэліцкі райвыканкам. Ён прыняў пастанову, паводле якой Я. Брылю "за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці раёна, любоў да роднай зямлі і мовы", прысвоена званне ганаровага грамадзяніна.

## Гісторыя Бялыніч і ваколіц

Адметным у краязнаўчай беларускай літаратуры апошніх гадоў можна назваць гэтае выданне, што пабачыла свет у Бялынічах. Гаворка пра кніжачку (яе ўклаў Міхась Карпечанка) "Згукі Мінуўшчыны". У падзагалоўку: "Гісторыя Бялыніцкага раёна ў пытаннях і адказах".

66 пытанняў і адказаў увайшло ў зборнік, які можа лічыцца своеасаблівым дапаможнікам па гісторыі Бялыніцкага краю. Калі ўзнікла першае пасяленне? Услед за першым пытаннем вы адразу адкрываеце для сябе старажытныя паселішчы ля бялыніцкіх вёсак Лубяны, Чырвоная Слабада, Прыбар, Цяхцін, Вугольшчына. Якое старажытнае племя з'яўляецца нашым продкам? Калі з'явіліся курганы, што яны сабой уяўляюць і колькі іх? Да якой дзяржавы адносіліся Бялынічы ў старажытнасці? Якія легенды апавядаюць аб узнікненні Бялынічаў? Якія кнігі друкаваліся ў Бялынічах?.. Гісторыя краю раскрываецца ў кантэксце айчыннай гісторыі ўвогуле.

Выданне "Згукі мінуўшчыны" цікавы ўзор асветніцкай, гісторыка-пазнавальнай работы ў межах пэўнага краю.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

## "Нёман", N 7

У нумары — нізкі вершаў С. Законнікава "Дзень на зямлі", С. Яўсеевай "Нядзельны дождж", В. Гардзея "Ёсць шчасце", пачатак рамана В. Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў", падборка апавяданняў А. Васілевіч "Новыя старонкі". Друкуюцца раздзелы з кнігі Г. Бубнава "Прыручэнне сэнсу. Аб прынцыпах эвалюцыйна-вектарнай цывілізацыі", нарыс Я. Сіпакова "Купала — Ляўкі, Зубрэвічы". Л. Рублеўская выступае з артыкулам "Седзячы на прыгожым пагорку" ("Міф і літаратурная біяграфія"). А. Станюта (назву лепш падаць у арыгінале: "Лицо и лик") асэнсоўвае некаторыя старонкі творчасці Ф. Дастаеўскага. У. Анісковіч рэцэнзуе нумар балгарскага альманаха Панарама", прысвечаны сучаснай беларускай літаратуры, Э. Іофе - кнігу Р. Рэлеса "В краю светлых берез". Я. Шунейка знаёміць з творчасцю мастака Э. Пяшкова.

## "Спадчына", N 3

Сярод аўтараў нумара — Ч. Мілаш ("Канец Вялікага княства Літоўскага (пра Юзафа Мацкевіча)"), П. Чарэвін ("Паўночна-Заходні край"), В. Калнін ("Архітэктура Яна Самуэля Бэкера"), П. Трамповіч ("Шляхі беларускае інтэлігенцыі"), Н. Васілеўская ("Жыццёвы шлях Паўла Трамповіча"), С. Кавалёў ("Першы ўзор палітычнай паэзіі"), І. Саверчанка ("Пачатак літаратуры супраціву"), С. Станкевіч ("Янка Купала"), А. Белы ("Афіны над Ліматам" і беларуская культурная спадчына XVI ст."), Г. Вольф ("Парэгрынацыі"), "В. Я." ("Вільня. Кароткі гістарычны нарыс").

ПАЭЗІЯ

Анатоль ІВЕРС



## "Колькі жыў і пэражыў..."

### Чаканы травень

Успомніць кожны пры нагодзе,
Што травень быў яму як рай.
Мне лёс судзіў на свет прыходзіць
У гэтым месяцы якраз.

Пасля зімы з нас хто не рады,
Каб з хаты выйсці на прастор?
Падрыхтаваць зямлю на грады,
Наперадзе мо справаў сто...

Прыемна глянуць: сад у цвеце
І сонечны, цудоўны дзень.
Ды так, як снег, пялёсткі вецер
На сцежкі кідае, кладзе.

Ступай шырэй, чаканы травень,
Па нашай змучанай зямлі,
Дай люду гарт, каб у дзяржаве
Яго слядоў не замялі.

### На стыку двух гадоў

На зломе ночы Беларусь
Свой шлях распачала.
Яе ўзнялі мільёны рук,
Каб кветкай расцвіла.

Гадзінніка лаўлю я бой
На стыку двух гадоў.
У светлы дзень іду з табой,
Каб выканаць свой доўг.

Перад табой заўжды ў даўгу —
Жыццё дала ты мне.
З табою толькі я магу
Душою палымнець.

Я бачу радасць у вачах
Знаёмых, землякоў.
— У Новы год, у добры час! —
Махаю я рукой.

У серабро прыбраўся бор
Краіны маладой...
Прыемна чуць курантаў бой
На стыку двух гадоў.

### Родная мова

Даюць нам зоркі і крыжы
Пасля знішчальнага кастра...
О, мова родная, скажы,
Чаму мне добра сярод траў?

Чаму іду я ў гай густы
Паслухаць песні салаўя?
А мо спяваеш гэта ты,
Каб заблудзіўся ў нетрах я?

Ды не ўцяку я ад пакут,
Мне трэба крыху адпачыць.
І ў нашу радасць — родны кут
Не дам, каб лезлі крумкачы.

Даўно не чуў, каб конь іржаў,
А гэта — прызнакі дабра.
Знішчае дзесь касу іржа,
Касу, што вораг адабраў...

Гуртуй жа, мова, на зары
Усіх беларусаў навакол,
Каб нашы душы азарыць,
Каб вырвацца з бяды, акоў!

Цябе ж знявечвалі, пяклі,
Каб ты крычала ім "ура".
Наш Каліноўскі і ў пятлі
З "Мужыцкай праўдай" паміраў.

І Тарашкевіч так, як сцяг,
Трымаў "Граматыку" ў руках...
І мова ўстане на касцях
І разліецца, як рака!

### Вясна

Каторы раз прыходзіць
Вясна на Беларусь!
У знак такой прыгодзе
Паперу я бяру,

Каб выказацца шчыра
Пра ясны, новы дзень,
Які на рэках шырай
Парадак навядзе.

Каб зноў цвілі на сушы,
Як летась, паплавы —
Там селянін насушыць
Мурожнае травы...

Іду на двор пагрэцца,
Адклаўшы ўбок пяро...
Хутчэй бы бег па грэчцы
Пчаліны вецярок!

Была ж у продкаў мода
Папіць гарачы чай
З пахучым, свежым мёдам —
Знімае боль з пляча.

А калі боль на сэрцы
У скаванага раба?
Пакуту можна сцерці
Не мёд, а барацьба!

### Не пан, дык "таварыш"

Раней тут панства панавала,
Быў паліцай і штык з арлом.
І ўсё ж на іх прыйшла навала,
І паляцела ўсё на злом.

Здавалася, дыхнулі вольна
Але навокал зброд кішэў,
Каб з нашай катаргі — "супольнай"
Тужэй набіць сабе кішэнь.

І панаваў не пан — "таварыш",
Народ каб з голаду канаў.
"Таварышы" так "ратавалі"
Нас ад каровы і каня!

Вось новы плашч, ды кліка тая,
Што да галечы давяла,
Цяпер штодзённа заклікае
Да двухгаловага арла.

Няўжо навекі закілзаюць,
Каб гімнам партыя гула,
Каб быў ціхманы, як той заяц,
Быў з Курапатамі ГУЛАГ?

### Адчуўшы страту

Ахоплены вялікім жалем,
Хаджу нібы пахілы цень.
І не чакаю, што ў скрыжалях
Яшчэ што-небудзь зацвіце.

Звыш паўстагоддзя, так як трэба,
Дзялілі радасць, хлеб і сум.
Гады той сцежкі не цярэбяць,
Якою лёс жыцця нясу.

Сяброўка пала. Горыч, страта,
То невымоўная бяда!
Яшчэ не вырас рэгістратар,
Каб усяму ацэнку даў.

Цяпер я бачу, што ў жыцці мы
Не заўважалі дабрыні
І не цанілі дар Радзімы,
Пакуль да гора дабрылі!

Не шанавалі мы кабету,
Калі папраўдзе гаварыць.
Яна на свет пускала дзетак
І даглядала... да пары.

Адчуўшы страту, адзіноту,
Насіў бы на руках яе
І падабраў бы тую ноту,
Што маці з вечара пяе.

### Багацця не нажыў

Колькі жыў і пэражыў,
А багацця не нажыў.
Хоць пра гэта не кажы:
Быў амаль што на крыжы.

Людзі кажуць, бог збярог,
Мо хто іншы дапамог?
Не памочыш толькі ног,
Як не выйдзеш за парог.

Я ж хадзіў усе гады,
Як быў дужы, малады.
Праз агонь прайшоў і дым,
Каб ізноў прыйсці сюды.

Кола круціцца наўкол,
Часам дасць балючы ўкол.
Быў я дужы, як той вол,
Цяпер падаю на дол.

ПРОЗА

*Вадзіму ЛАБКОВІЧУ*

Першы раз гэта здарылася вось тут, на мядзведжай шкуры, якая зараз лашчыць яе босыя ногі. Згадка адгукаецца прыемным скразнячком паміж выпушчаных на волю грудзей і салодкім паколваннем у зацвярдзелых смочках.

Мядзведзь быў велізарны: амаль чорная, з бурымі падпалінамі шкура займае ўсю прастору ад алькова да вакна, за якім — толькі высокая пасля апошніх залеваў Дзвіна. Учора рака ўзбунтавалася, за нейкую гадзіну ўзарвала наведзены для яе, імператрыцы, вышэй Полацка мост, і генерал-губернатар распарадзіўся знайсці надзейную шлюпку.

Яна бярэ з талеркі чырванабокі яблык, які, колькі сябе памятае, нязменна з'ядае перад сном, і згаладала ўпіваецца ў яго зубамі. Толькі пятая гадзіна, але імператрыца ведае: ужо не засне, бо цела перапоўненае не стомаю, а пенлівай, як шампанскае, лёгкасцю, што хутка вяртае вастрыню і свежасць успрымання. Свечкі ўжо даўно непатрэбныя, аднак яна чамусьці не спяшаецца тушыць амаль празрыстыя агеньчыкі, быццам іх жывая прысутнасць тут, у спальні, яшчэ дзеля нечага патрэбная.

Імператрыца спрабуе акрэсліць свой унутраны краявід. Ён сугучны заваконнаму: тая ж ціхая раніца і бяссонная, там-сям яшчэ захінутая пасмамі туману плынь успамінаў пра зусім блізкае і пра задаўненае, але раптам вернутае прыхамаццю памяці.

Ёй падабаецца думка, што прэлюдыяй гэтае ночы сталася навальніца, якая шалела над горадам у першы полацкі вечар.

Наогул, усе бауленыя тут дні зліліся для яе ў адзін — доўгі дзень, які папярэднічаў сённяшняй шчаслівай (імператрыцы не належыць так думаць, але зараз яна думае менавіта так) ночы, чыя рука ўпэўнена сцерла вобразы і адчуванні астатніх полацкіх начэй.

Хіба гэта не ўчора яна ўязджала ў горад пад мелодыі аркестра, што граў на ўзведзенай у яе гонар трыумфальнай браме, і залпы салюту з расстаўленых на гарадскіх валах гарматаў? Яна ехала праз шчодрую цеплыню травеньскага вечара, праз залітыя белай, ружовай і жаўтлявай квеценню сады, праз шматгалоссе званоў і натоўпы яе падданых, якім кланялася са сваёй пазлачонай карэты з апушчанымі вокнамі. Наперадзе на раскошна прыбраных конях гарцавала найбольш знакамітая полацкая шляхта, за ёю — паштмайстар з паштальёнамі і пікінёры пры поўным парадзе. За брамаю абапал вуліцы стаялі ў святочных строях рамесніцкія цэхі са сцягамі і барабанамі, а на пляцы перад прысутнымі месцамі чакала чынавенства ў белых камзолах і чырвоных, з белымі гузікамі каптанах з палевым падбоем...

Падзеі трох прысвечаных Полацку дзён яе падарожжа ўзнікалі перад вачыма, нібы стракатыя каляровыя малюнкі з дзіцячай кніжкі пра іншыя краіны і народы, якую яна чытала тады, калі гаварыла і сніла сны па-нямецку.

Сабор святога Стэфана, дзе айцы-езуіты падрыхтавалі ёй пышна аздоблены трон... Стоячы на ім, яна ўпершыню ў жыцці слухала каталіцкае набажэнства і назірала ўрачыстую працэсію са спевамі Te Deum, пасля чаго граф Чарнышоў адрэкамендаваў ёй ордэнскіх навіцыяў*...

Увечары быў маскарад, і ўвесь горад — рынак, вуліцы, манастыры — ззяў ілюмінацыяй. Перад езуіцкім саборам — чатыры залітыя залатым святлом драўляныя піраміды, роўныя вышынёю самому храму, а пад яе вокнамі — пятая піраміда з агністым надпісам "Страх ворагаў, апірышча сяброў, любоў падданых"...

І зноў у калейдаскоп уражанняў урываецца ноч.

Ён быў не надта шчодры на кампліменты; пасля традыцыйных галантных формулаў ягоны позірк спыніўся на шкуры каля алькова, і ён нечакана, быццам толькі што вярнуўся з лесу і ні пра што іншае гаварыць проста не можа, узяўся расказваць пра паляванне на мядзведзяў.

Навошта ёй, імператрыцы і жанчыне, было ведаць, што тут, у прыдзвінскіх лясах, вядуцца тры пароды гэтага звера — мурашнікі, аўсянікі ды сцярвятнікі і што, калі за адну аблаву здабываюць менш пяці мядзведзяў, гэта лічыцца няўдачаю? Якім ветрам яму ў галаву магло занесці бязглуздную думку, нібы ёй будзе цікава чуць, што мядзведзяў не толькі абкружаюць у асочаным мерлагу, але яшчэ і ловяць сілом або жалез-

**Навіцый — новапрыняты ў манаскі ордэн.*

нымі пасткамі ў атворах борцяў, калі, прасунуўшы галаву да пчол, мішка ўжо не можа выцягнуць яе назад?

Але ён, гэты ліцвін, гэты полацкі паляўнічы, не памыліўся: ёй напраўду зрабілася цікава, і яна, імператрыца, гатовая была слухаць далей — як на дно адмысловай яміны ставяць місу з разведзеным гарэлкаю мёдам і прываблены смачным пахам лясны ласун адважна "бярэ чарку", а потым соладка засынае і робіцца лёгкай здабычаю.

Ягоны невысокі, густы, з утульнай хрыпкаю голас зачароўваў, абуджаў у глыбінях свядомасці штосьці таемнае, неспасцігальнае, першабытна-спрадвечнае. Такія галасы, пэўна, былі ў ведзьмароў, што выклікалі, як яна чытала ў старых хроніках, бясконцы дажджы, калі дзвесце гадоў таму Полацк трымаў у аблозе вялікі князь і кароль Стэфан Баторы...

# КАХАНАК ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ

Уладзімір АРЛОЎ



АПАВЯДАННЕ

У нейкі момант яе душа паўстала; ёй захацелася скінуць мярэжку чараў і ўзяць размову ў свае рукі, але...

Але ёй на памяць недарэмна прыйшлі ведзьмары: наступнае хвілі ягоныя вочы робяцца ўтрапёнымі і яна, не паспеўшы ні словам, ні рухам запярэчыць, апынаецца ў дужых руках, якія ашчадна, аднак з катэгарычнай уладнасцю пераносяць яе з алькова на неспадзявана мяккую шкуру, а яшчэ праз тры ўдары сэрца ён ужо авалодвае ёю цалкам, перакульвае ў вір страсці, азарту і шаленства, якія, відаць, можна параўнаць адно з тымі, што кіпяць у мужчынскай душы на паляванні.

Шкура пахне зверам, аднекуль з зялёных нетраў даносяцца гукі ражкоў і сабачы брэх, дзікія лясныя пахі зліваюцца з хмельнай водарнасцю ягонага поту... Яна заплюшчвае вочы, і ў якімсьці кутку яе розуму ўспыхвае вар'яцкая думка, што гэты ліцвін насамрэч здолеў ператварыць іх, сябе і яе, у мядзведзя і мядзведзіцу. Каб пазбыцца наслання, яна расплюшчваецца, бачыць у святле кандэлябра свае белыя рукі і хоча засмяяцца над недарэчным страхам, ды смех захрасае ў горле абарваным птушыным клёкатам, бо яе, імператрыцу, даганяе і накрывае з галавою хваля, што цягне за сабой, прымушае вырывацца, крычаць і нарэшце застагнаць у шчаслівай бездапаможнасці, захлынуцца радасцю, не, не радасцю, а нязмерна складанейшым пачуццём, падобным да кароткатэрміновае смерці, да імклівай экспедыцыі ў нябыт.

Яна любіць вяртацца з такога падарожжа не адразу. Тая самая хваля, ужо спакойная і лагодная, павінна прынесці яе назад і непрыкметна адступіць, знікнуць, як вымуштраваная пакаёўка, знайшоўшы яе раскунежанаму целу прытульнае месца на пустэльным беразе гукаў, адчуванняў і дотыкаў, з якіх народзіцца, набываючы плоць і кроў, ненадоўга пакінуты свет.

Тут, у старасвецкім драўляным палацыку над Дзвіной, дзе яна спынілася, адмовіўшыся ад вільготных пакояў законачанага — гэта ў яе імперыі старая завядзёнка — у апошні дзень мураванага палаца на рынку, усё атрымалася інакшай.

Ёй не ўдалося падпарадкаваць гэтага ведзьмара свайму рытму і змусіць яго перажыць зліццё з абсалютам уадначас з ёю. Полацкі паляўнічы не наталіўся, ім кіравала ранейшая неўтаймоўная жарсць, і ён не адпусціў яе ў жаданую ціхую завань. Ён толькі напачатку дазволіў ёй, імператрыцы, аддацца той хвалі, а ў астатняе імгненне ўтрымаў і зрабіў сваёй пахолкаю, хутка вяртаючы жаданне ёй самой.

Гэты ліцвін прымусіў яе спярша легчы на стол, потым укленчыць на падлозе і зноў падняцца. Ягоныя рукі, вусны, язык упэўнена і бессаромна блукалі па ўсім яе целе; досыць было апусціць павекі, каб здалося, што яна маркітуецца з некалькімі мужчынамі адначасова. Ён абуджаў пакрыёмую, падземную прагу, што дрэмле, магчыма, у сутарэннях свядомасці кожнае жанчыны і можа так ніколі і не вырвацца з вязніцы, — цалкам, да апошняе клеткі трапіць у абладу мужчынскае сілы, адчуць гвалт над сабою, ператварыцца ў наложніцу, у рабыню.

Ён абыходзіўся з ёю ўсё больш бесцырымонна, але ад гэтага жаданне ставала адно вастрэйшым, завалодваючы ёю ад карэньчыкаў валасоў да пазногцяў. Ён рабіў ёй балюча, ды боль не выклікаў пратэсту, а ўпырскваў у вены новую порцыю таго хмелю, які яна ставіла непараўнальна вышэй за любы іншы напой.

Яна, імператрыца, паслухмяна і ўдзячна выконвала ўсе ягоныя прамоўленыя і непрамоўленыя загады. Мужчына загадваў, і яна цалавала цвёрдыя гаркавыя смочкі яго налітых жалезнай сілаю грудзей. Мужчына загадваў, і яна кусала і грызла іх, чуючы, як ён распальваецца яшчэ болей. Мужчына загадваў, і яна паварочвалася тварам да начной ракі і клала локці на падваконне...

Яна зноў і зноў стагнала ад асалоды, а потым... потым ён змусіў яе зрабіць тое, што ўжо шмат гадоў яна рабіла адно тады, калі хацела сама... Толькі тады яна, выснажаная, як загнаная аляніха, здолела вызваліцца і самнамбулічна дабрысці да ложка. Але ў ім, у полацкім паляўнічым, выкіпела не ўся жарсць і ён здагнаў яе, імператрыцу, і яшчэ раз паслаў ёй хвалю, што аглушае і збівае з ног...

Нарэшце і ён выцягнуўся побач — як звер, што адарваўся ад пагоні і цяпер мае права перавесці дыханне і наталіць смагу з цёмнай ляснай рачулкі.

Яны пілі бардоскае, якое ўвачавідкі вяртала сілы, і маўчалі...

Імператрыца адчыняе вакно і, упусціўшы ў пакой ручаіну вогкай ранішняй свежасці, глядзіць на раку. На тым баку ўжо вынырнулі з туману жоўтыя муры бернардзінскага кляштару. Вада ўзмацняе гукі, і зарэчных пеўняў чуваць так, быццам іхні хор уладкаваўся адразу за вартоўняй з гвардзейцамі.

Там, за Дзвіной, іншая дзяржава.

Дзяржава, якая належыць таму, хто калісьці ўмеў дарыць ёй амаль такія ж шалёныя, дзівосныя ночы. Таму, без каго яна — як і ён без яе — няздольная была вытрымаць да вечара. Таму, хто, не будучы мастаком, пакінуў нашчадкам яе найдасканалейшы партрэт. Ён увасобіў яе аблічча ў словы і, калі на гэтым свеце ёсць каханне, ягоным пяром кіравала менавіта яно.

Ужо колькі гадоў яна не разлучаецца з яго падарункам — мініяцюрнай, пераплеценай у зялёны кітайскі ядваб кніжкай-нататнікам. Каб уваскрасіць у памяці тыя натхнёныя радкі, ёй не трэба гартаць старонкі з залатым адлівам. Імператрыца ведае свой занатаваны былым каханкам партрэт як "Ойча наш". "Яна брунетка з асляпляльна белаю скурай. Бровы ў яе чорныя і вельмі доўгія, нос грэцкі, рот як быццам кліча да пацалунка, рост можна назваць высокім, талія тонкая, лёгкая хада, мілагучны голас і вясёлы, як і характар, смех. Яна лёгка пераходзіць ад гарэзлівай гульні да сур'ёзнай табліцы лічбаў, якія яе зусім не палохаюць..."

Імператрыцы здаецца, што, дзякуючы полацкаму ведзьмару, сёння яна выглядае гэтаксама, як і ў дні, калі яе вобраз увекавечыў Станіслаў Аўгуст. Але яна гасіць імкненне падысці да люстра ў багатай асадзе, у якім магла б паўстаць на поўны рост, як на палотнах прыдворных жывапісцаў.

Там, на далёкім беразе прамінулых з таго часу дваццаці гадоў, яна была яшчэ вялікай княгінюю, а ён — усяго толькі паслом Саксоніі і Рэчы Паспалітай, напачатку нават не паслом, а сакратаром пасольства.

Яго не было побач тады, у чэрвені 1762-га, калі яна наперадзе верных ёй палкоў ехала верхам у гвардзейскім мундзіры старога пятроўскага крою і ў капелюшы з зялёнай дубовай галінкаю ў Пецяргоф, куды ў той самы дзень мусіў прыехаць імператар, якому лёс адлічваў апошнія дні. Яго, Станіслава Аўгуста, не было з ёю ў яе зорны час, калі яна кіравалася насустрач фартуне, каб ужо заўтра ўрачыста ўступіць у Пецярбург. Побач былі княгіня Дашкава, граф Мікіта Панін, браты Рыгор і Аляксей Арловы, гэтыя куміры моладзі, непераўзыдзеныя майстры наладжваць на сталічных ускраінах кулачныя баі да смерці...

З тых, хто дзеля яе ўзыходжання на трон рызыкаваў кар'ераю і жыццём, яна не забыла нікога. Мікіта Панін атрымаў Калегію замежных спраў. Кацярыну Дашкаву яна паставіла на чале Акадэміі навук. Рыгор Арлоў ужо праз нейкі год стаў генерал-фельдцэхмейстрам...

Яна ўзнагародзіла кожнага, але найдаражэйшы падарунак быў прызначаны яму. Найвышэй узляцеў ён, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Праз два гады яна ўмяшалася ў барацьбу Чартарыйскіх з Патоцкімі і зрабіла яго каралём і вялікім князем літоўскім, уладаром Рэчы Паспалітай.

Імператрыца адчувае на твары ўсмешку. Хтосьці з замежных зласлівцаў падлічыў, што яна заявілася ў Расію, маючы ўсяго тры сукенкі, паўтузіна кашуляў і столькі ж насовак. Ну, дапусцім, сукенак было ў яе гардэробе на пару болей, але сутнасці гэта не мяняе. Цяпер яна — гаспадыня найвялікшай у свеце дзяржавы і яе імперыя няўхільна прырастае новымі і новымі землямі. Восем гадоў таму яна адрэзала сабе ад краіны былога каханка Інфлянты і абшар да Дзвіны, Друці і Дняпра.

Ён, Станіслаў Аўгуст, дастаткова разумны, каб усведамляць, што былое каханне не ёсць аргументам мастацтва палітыкі. Але дыпламаты паведамляюць, нібыта надзеі ў яго наіўным сэрцы не пагаслі, а толькі прыцярушаныя попелам...

Яна не можа стрымаць смеху. Кожнаму цвярозаму палітыку відавочна, што гэтая мяжа — часовая. Зусім хутка галасістыя зарэчныя пеўні будуць і на тым баку Дзвіны будзіць яе падданых.

Ніколі дагэтуль імперыя не была такой магутнаю, а яна, яе ўладарка, такой шанаванаю ў свеце. Ёй пісаў Вальтэр. З ёю лічыць за гонар ліставацца Дэні Дзідро. Праўда, яе славуты французскі карэспандэнт паўсюль бачыць дэспатызм і марыць пра канстытуцыю, а пад старасць і наогул, кажуць, шыецца ў рэспубліканцы. Колькі гадоў назад, прыехаўшы ў Расію, ён угаворваў яе, імператрыцу, скасаваць прыгон. Ха-ха-ха...

Крыху пагуляўшы нібыта з забаўнымі цацкамі, з успамінамі, яна пераходзіць да думак больш паважных.

Усё, што прапануюць такія разумнікі, — гэта лекі для Еўропы. А тут пачынаецца іншы кантынент, іншы свет. Петрарка ўжо складаў санеты, Батычэлі маляваў "Вясну", а тут па гарадах і вёсках скакалі, збіраючы даніну, ханскія баскакі.

Ну, у Беларусі баскакаў не было, але тое ўжо не істотна, бо яна прырасціла гэтую зямлю да свайго кантынента.

Там, у Еўропе, яны з іхняй "Энцыклапедыяй" і рэспубліканскімі ідэямі, відаць, так ніколі і не здолеюць уцяміць, што яе падданым энцыклапедыі і канстытуцыі будуць непатрэбныя яшчэ не адно стагоддзе.

Нейкі прастадушны французік, хтосьці з вучняў Дзідро, прыслаў ёй, самай арыстакратычнай з еўрапейскіх імператрыц, ліст з просьбаю падараваць на знак спачування вальтэр'янскім ідэям свой партрэт.

Яна весела смяецца.

Месье Дзідро яна ўдзячная не за такіх вучняў, а за іншае. У адзін цудоўны дзень ён парэкамендаваў яе паслу ў Парыжы скульптара Фальканэ. Яшчэ год ці два, і першы расійскі імператар узьбіць масянжовага каня над Нявой, назаўжды ўвекавечыўшы і яе, Кацярыну Другую.

Тут, недалёка ад палаца, што даў сёння прытулак яе шчаслівай ночы, ёй паказалі мураванку — два ляпныя геніі над уваходам — дзе спыняўся Пётр. Трэба прызнаць, што ў Полацку ён мог бы паводзіцца і больш абачліва. Гэтае забойства вікарыя з уніяцкімі манахамі... У Сафійскім саборы ды яшчэ ў час прычасця... Колькі непажаданых размоў пры еўрапейскіх дварах... І парахавое сховішча ў саборных сутарэннях...

Можа, ведаючы, што праз семдзесят пяць гадоў яна атрымае ад полацкіх базыльянаў запрашэнне наведаць адбудаваны сабор, імператар трымаўся б больш дальнабачна. Учора яна палічыла за лепшае ўхіліцца ад візіту, не забыўшы — яна тонка ўсміхаецца — разыграць пры гэтым сцэну незадаволенасці праваслаўнымі манахамі з Багаяўленскай царквы, якія, ведама ж, зусім выпадкова зацягнулі набажэнства...

Не дзіўна, што ён, полацкі паляўнічы, таксама ўспомніў Пятра. Зрэшты, ёй чамусьці не надта хочацца згадваць іх начную размову.

Настоеная на пахах і водарах ночы світальная свежасць запаўняе спальню, і імператрыца накідвае на плечы стары ўтульны шлафрок, што памятае не адну яе вандроўку і таямніцу.

Ранішні даклад яшчэ далёка, і яна сядае да бюро, каб напісаць сыну. Добра распісанае пяро лётае па паперы з такой самай вясёлай лёгкасцю, як некалі ў дзяцінстве яна, ловячы расшпіленым футэркам вецер, лётала на галандскіх каньках па замерзлай сажалцы.

"Паміж вокнамі маімі і Польшчаю адна толькі не вельмі шырокая Дзвіна... З таго часу, як я тут, заўсёды куртаг. Безліч мужчын і жанчын найвышэйшага палёту, што прыехалі з Польшчы. Паўсюль стужкі блакітныя ды чырвоныя, і духоўныя асобы ўсялякага крою. Учора я была ў езуітаў і ўражаная іх бляскам. Усе астатнія каталіцкія ордэны ў параўнанні з імі — свінні. Адно толькі шкада, што гэтыя людзі не танцуюць. У іх тут найраскашнейшая царква. Ах, якія сярод іх трапляюцца круцельскія фізіяноміі..."

Так, яе імперыя — гэта не Еўропа, а зусім іншы мацярык, але менавіта ёй, Кацярыне, — нявызнаныя шляхі твае, Госпадзі! — служыць забаронены папам Клімянтам XIV ва ўсім каталіцкім свеце ордэн езуітаў.

Яна адкладае ўбок пяро, і перад яе вачыма праносіцца цэлая не напісаная пакуль кніга, вартая таленту выбітнага раманіста.

Тады, калі двухгаловы арол распасцёр крылы над новымі губернямі, яна загадала графу Чарнышову і ўдзень і ўначы сачыць за езуітамі, як за найбольш падступным каталіцкім ордэнам. Хіба магла яна ўявіць, што рэляцыі з генерал-губернатарскай канцылярыі будуць штораз выклікаць у яе не трывогу, а захапленне? Што полацкія езуіты першымі складуць ёй прысягу і адслужаць у саборы святога Стэфана літургію ў гонар яе імянінаў...

Яна паставіла сабе на службу магутны ордэн і сімпатыі многіх новых падданых-католікаў. Яна, не трацячы ні рубля, захавала на далучаных землях езуіцкія школы і калегіумы, праграмы якіх, прынамсі, на стагоддзе апярэджваюць любую расійскую школу — не дзіва, што знакамітыя фаміліі з абедзвюх яе сталіц пачынаюць аддаваць дзяцей у навучанне не куды-небудзь, а ў Полацк, дзе Таварыства Ісуса мае найстаражытнейшы на гэтых землях калегіум.

Яна абвяла вакол пальца самога папу, высачыўшы ягоных агентаў, што меліся публічна абвясціць у Полацку пастанову пра забарону ордэна, і цяпер на ўсе ўшчуванні і пагрозы з Ватыкана полацкія езуіты, сціпла апусціўшы вочы, адказваюць, што дзеля выканання загадаў з Рыма яны гатовыя ахвяраваць нават уласным жыццём, але гэтага не дазваляюць ім свецкія расійскія ўлады.

Яна дазволіла адчыніць у Полацку навіцыят, а гэта значыць, што яе памежны горад зрабіўся сусветнай сталіцаю Таварыства Ісуса. Вестка пра тое разляцелася па Еўропе і дасягнула Новага Свету. Рэктар калегіума казаў учора ў прамове, што берагі Дзвіны замянілі ордэну берагі Тыбра.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Улюбёны ў красу жыцця

**У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь захоўваецца невялікая, але добра падабраная калекцыя твораў выдатнага рускага жывапісца Барыса Міхайлавіча Кустодзіева. Яна дазволіла адзначыць выставай 120-годдзе з дня нараджэння мастака.**

**Адна са старонак мастацкай культуры першай чвэрці XX стагоддзя звязана з імем Барыса Кустодзіева, майстра цікавага і самабытнага. Ён праклаў свой шлях у мастацтве, адметны нацыянальнымі па тэматычнай накіраванасці, па форме, змесце творамі. Мастак вельмі пазнавальны — кустодзіеўскімі сюжэтамі, кустодзіеўскай інтэрпрэтацыяй, жыццесцвярджальнай асновай работ, што ідзе ад шчырасці і аптымізму яго асобы, ад жадання дараваць людзям радасць.**

**Б. Кустодзіеў быў тыповым прадстаўніком сваёй эпохі, у якой для мастака было пажадана працаваць ва ўсіх жанрах і відах выяўленчага мастацтва. Ён па-майстэрску валодаў алеем і акварэллю, пастэллю і алоўкам, спрабаваў сябе як гравёр і скульптар. У спадчыну ён пакінуў шматлікія палотны, графічныя лісты, ілюстрацыі, скульптурныя кампазіцыі, эскізы тэатральных дэкарацый.**

**У гісторыі мастацтва Б. Кустодзіеў застаўся найперш як бытапісальнік правінцыйна-купецкай Расіі. Але не сацыяльныя матывы, не падрабязнасці паўсядзённага жыцця цікавілі мастака, а арыгінальнасць быту, дзе сур'ёзнае ўжываецца побач з забаўным і нават смешным. Таму і сённяшні глядач нераўнадушны да жывой кустодзіеўскай атмасферы правінцыйнай Расіі, дзе ў лепшых традыцыях народнага лубка на святочных ярмарках, на базарных плошчах, у цэрквах і корчмах імчыць няспынны карагод купцоў і купчых, карчомшчыкаў, кучараў... Так, яго вядомая серыя "Купчыхі", дзе з любоўю і іроніяй адначасова мастак прадстаўляе прыгожа апранутых і аголеных, круглатварых, белых, з лянотнай грацыяй жанчын з купецкага асяроддзя, гэта не выявы рэальных людзей, а абагулены, стылізаваны вобраз, фальклорнае ўяўленне пра жаночую прыгажосць.**

**Не менш захапляюць і партрэты Б. Кустодзіева, якімі ён займаўся з першых творчых крокаў. Вобразы жонкі, дзяцей, родных, сяброў — пшчотныя і глыбока эмацыянальныя.**

**Б. Кустодзіеў пражыў цікавае і дужа складанае жыццё. Вучань Рэпіна, акадэмік жывапісу, ён уваходзіў у шматлікія таварыствы мастакоў пачатку стагоддзя. З сарака дзевяці пражытых ім год апошнія шаснаццаць быў прыкаваны цяжкой хваробай да крэсла і абмежаваны сценамі майстэрні. Але да канца дзён гэты валявы, улюбёны ў прыгажосць жыцця чалавек працаваў, ствараючы поўныя аптымізму і жыццярадаснасці палотны.**

**Нацыянальны мастацкі музей запрашае наведаць юбілейную выставу Барыса Кустодзіева, якая будзе працаваць да 13 кастрычніка.**

**Алена РЭСПІНА**

## Да 200-годдзя Адама Міцкевіча



**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава дакументальнай фатаграфіі з архіва Музея літаратуры імя Міцкевіча (Варшава) і карцін мінскага мастака Аляксандра Зубрыцкага. Выстава прысвечана 200-годдзю Адама Міцкевіча.**

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

***З гарачымі днямі ліпеня супала сёлета падзея, якую, паводле маштабнасці задумы і насычанасці праграмы, можна назваць кульмінацыяй культурнага жыцця краіны: Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Час мінае, жарсці вакол падзеі аціхаюць, і можна ўжо дазволіць сабе зрабіць невялікі экскурс у тыя ліпеньскія дні, каб памеркаваць над тым, што адбылося, сёе-тое пераасэнсаваць — раней гэтаму крыху перашкаджала святочная эйфарыя...***

# Лепей — меней?..

## ЗГАДКІ ПРА "СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ"

1

Сёлетні фестываль пабіў рэкорды традыцыйнай летняй віцебскай імпрэзы па працягласці, бо доўжыўся 9 дзён, прычым амаль без паўз. У розных залах горада канцэрты ішлі не толькі днём, але і ноччу. "Базарнае" жыццё заспакойвалася пад раніцу, ды праз пару гадзін набірала новыя абароты. Праграмы часта супадалі, утвараючы дылему: які ж канцэрт выбраць для прагляду?

Кажуць, што попыт выклікае прапанову. Але колькасць прапаноў была тут відавочна большая за попыт. Пра гэта сведчыла і сціплая колькасць наведвальнікаў пэўных праграм, і якасць іх правядзення... Здаецца, гэта ўжо аксіёма: чым больш грандыёзная задума, тым менш увагі ўдзяляецца важным дробязям, якія ў выніку аказваюцца зусім не дробязямі. Таму якасць некаторых фестывальных праграм і ў арганізацыйным сэнсе, і ў творчым (асабліва тых, што ладзіліся на вольным паветры) пакідала жадаць лепшага. Напрыклад, крыху расчаравала імпрэза "Пеўчае поле": не зусім прадуманая, яна не надта зацікавіла наведвальнікаў.

Увогуле, сёлетні фестывальны марафон пацвердзіў трапнасць даўно вядомага выслоўя: "Лепей меней, ды лепей". Тым, хто хацеў ахапіць усё, гэта было яўна не пад сілу. Ну, а большасць люду, як тое водзіцца, цікавілі не столькі мастацкія імпрэзы, колькі магчымасць бавіць час на "базарным прыволлі".

Так, аншлагі можна было назіраць толькі на канцэртах у амфітэатры, дый то не на ўсіх. Іншыя залы запаўняліся напалову. Народ жа, карыстаючыся нагодай, сам сябе весяліў — проста на вуліцах, у гарадскім парку, дзе стракацелі абрусы-самаборы. Шчыра кажучы, радкі з вядомай песні "гуляць дык гуляць!" здаваліся дэвізам фестывальнага Віцебска. Зразумела, свята ёсць свята, але ж 9 дзён запар — ці не мнагавата, тым больш, калі мы не можам пахваліцца дастаткам і дабрабытам? Ці не таму часам гэтае грандыёзнае "дзейства"-відовішча падавалася ўжо не святам, а яго ілюзіяй?

Застаецца толькі цешыць сябе думкай, што ў будучым такія імпрэзы знойдуць нейкі кампраміс, калі не гармонію, са штодзённым жыццём, з рытмам буднюў вялікага горада.

2

"Славянскі базар" — фестываль творчасці. У ім, як у стракатым букеце, мноства нюансаў і адценняў. Складальнікі гэтага "букета" сёлета як ніколі рабілі акцэнт на яго міжнародным статусе, замацаванню якога мусіла паспрыяць не толькі колькасць праграм, але і разнастайнасць іх.

Падчас свята адбылося некалькі дэбютаў. Штодня на тэнісных кортах амфітэатра паказвалі сваё мастацтва цыркавыя артысты. Прайшлі дэманстрацыі мадэляў пад дэвізам "Мода і музыка новага пакалення". І, нарэшце, бадай, самы адметны сёлетні нюанс, — свята балета, якое ўвянчала адзін з апошніх дзён фэсту. Акрамя гэтых цікавых навінак, у яго праграме былі традыцыйныя кінапаказы, выставы мастацкай фатаграфіі, тэатральныя сустрэчы, кірмаш народных рамёстваў...

Ну, і канешне, самай разнастайнай была музычная праграма, якая сумясціла і традыцыйную поп-музыку, і фальклор, і духоўную, і джазавую, і харавую акадэмічную...

Статус міжнароднага пацвердзіўся, вядома, самім складам удзельнікаў і гасцей. Сярод іх, дарэчы, было шмат замежных артыстаў, якіх не назавеш прадстаўнікамі культуры славянскіх народаў, пра чыё яднанне рэгулярна згадвалася ў тэкстах вядучых — як пра звышзадачу "Славянскага базару". Таму можна толькі вітаць, што "СБ" пашырае свае геаграфічныя і этнічныя межы, на тое ён і базар. Але падчас фэсту раз-пораз думалася: навошта тады ён называецца "Славянскі"? Наконт гэтага чула розныя тлумачэнні-меркаванні, нават узаемавыключныя. Але, магчыма, усё ж ёсць рацыя ў тым, каб на фестываль запрашаць гасцей з усіх куткоў свету, а вось у вызначаным складу ўдзельнікаў конкурсу маладых выканаўцаў прытрымлівацца пэўных прыярытэтаў, якія адпавядалі б назве ўсяго фэсту і "замацоўвалі" яе?

Калі ў агульнай фестывальнай праграме можна паказваць усё, на што хто здольны, дык конкурс — гэта прынцыповы інтарэс, стрыжань і цэнтр усяго свята.

Вынікі сёлетняга конкурсу нельга назваць неаб'ектыўнымі, хутчэй наадварот. Падабаецца каму ці не, але ізраільскі спявак Рафаэль, адзначаны Гран-пры, на фоне іншых канкурсантаў выглядаў сапраўдным прафесіяналам. А яго інтэрпрэтацыя песні Ігара Лучанка і Генадзя Бураўкіна "Зачараваная" проста зачаравала! І трэба аддаць належнае спеваку ў тым, што ён хаця б напалову, але выканаў гэтую песню на мове арыгінала. Не ў прыклад адной з нашых канкурсантак В. Уронскай, якая ўвогуле ў свой конкурсны рэпертуар не ўключыла беларускую песню, што, на мой погляд, і сталася першай прыступкай да яе паражэння. Шкада, бо спявачка цікавая і хаця б не на перамогу, але на званне лаўрэата магла прэтэндаваць.

Не навіна, што кожны чалавек нясе пэўную энергетыку, тым больш — артыст са сцэны. Згадаю тут меркаванне чыннікаў журы конкурсу маладых выканаўцаў Лаймы Вайкуле. Славутая артыстка асабліва вызначыла самую юную ўдзельніцу, спявачку з Гродна Вікторыю Дземянчук, выступленне якой "проста "свяцілася" чысцінёй і шчырасцю". Але ж, дадам, Вікторыя, акрамя гэтых вартасцяў, мае яркі і моцны голас, што ў спалучэнні з усім астатнім і дапамагло ёй заваяваць другую прэмію.

У параўнанні з нашай Вікторыяй Дземянчук, якая толькі пачынае свой творчы шлях, уладальніца 1-ай прэміі спявачка з Югаславіі Таня Банянін ужо мае прафесійны вопыт, удзел у конкурсах, сольныя канцэрты, два альбомы. Гэта адчувалася на яе выступленні ў Віцебску.

Увогуле конкурс зрабіў прыемныя ўражанні: ужо адразу некалькі ўдзельнікаў вызначылі яго ўзровень і задалі тон, таму і вынікі не атрымаліся нечаканымі.

Конкурс маладых выканаўцаў — гэта толькі адна са шматлікіх сюжэтных ліній фестывальнага жыцця, якое часам нагадвала заблытаны раман. Своеасаблівай прадмовай да яго было яшчэ адно творчае спаборніцтва — міжнародны фестываль-конкурс дзіцячых канцэртных праграм. Два дні запар сваё мастацтва паказвалі калектывы харэаграфічныя, фальклорныя, харавыя... У выніку перамагла дружба, ніхто з дзяцей не паехаў дамоў без узнагароды.

Асобнай увагі варты канцэрт чальцоў міжнароднага журы дзіцячага конкурсу. Назва канцэрта была шматабяцальная: "Зоркі 21-га стагоддзя" — ні больш, ні менш. Канешне, у гэтым гучаў і аванс на будучае маладым артыстам, але сярод іх былі сапраўды вельмі яркія асобы, імёны якіх неўзабаве ўпрыгожаць музычны небасхіл. Бо "зорачкі" ўжо запаліліся, ім толькі патрэбны час, каб разгарэцца. Напрыклад, якае ўражанне зрабіў навучэнец Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, піяніст і кампазітар Цімур Шчарбакоў, які ў канцэрце выдатна выканаў два свае творы. Запомнілася выступленне і самай юнай з удзельнікаў канцэрта (і адпаведна — з чальцоў журы) 9-ці гадовай спявачкі з Маладзечна Настасіі Жук.

3

Асобныя праграмы вылучаліся чамусьці сваім "афіцыйным статусам"... свята, хаця гэтак жа можна пазначыць кожную з іх. І ўсё ж...

Урачыстае адкрыццё "Славянскага базару" супала з адкрыццём свята "Мода і музыка новага пакалення". Яго распачаў тэатр моды Славы Зайцава. Праграмай, якую славуты куцюр'е падрыхтаваў для віцебскага фэсту, ён падкрэсліў кансерватыўнасць сваіх поглядаў. На думку С. Зайцава, самае галоўнае ў жанчыне — гэта гармонія і натуральнасць, якія ён імкнецца выяўляць у сваіх мадэлях. Вядома, далёка не ўсе мастакі-мадэльеры падзяляюць такія погляды, таму



і ў праграмах віцебскага свята былі авангардныя калекцыі, якія нават крыху шакіравалі сваёй экстравагантнасцю.

Будзем лічыць, што свята моды ўдалося, але як наконт музыкі новага пакалення? Здавалася б, назва мусіла пазначыць сувязь двух мастацтваў, але гэта цяжка было прасачыць, мо таму, што... яе зусім не было. Проста паказ мадэляў чаргаваўся з музычнымі нумарамі. Само ж азначэнне "музыка новага пакалення" - даволі сур'ёзная прэтэнзія, але далёка не ўсе артысты, занятыя ў тых паказах, яму адпавядалі. І магчыма, справа не толькі ў асобах, а і ў драматургіі ўсяго відовішча, якая павінна была аб'яднаць-абагульніць яго "складнікі" адпаведна ідэі. А, магчыма, трэба было проста прапанаваць больш дакладную назву?..

У гэтым сэнсе ўдала прадуманай падалася праграма "У 9-ці музаў". Яе імпрэзы амаль штодня праходзілі ў абласным драматычным тэатры. Пад апекай і благаславеннем багіняў мастацтва тут адбыліся вечары раманса, духоўнай музыкі, інструментальнай, джазавай... Атмасфера гэтых вечароў поўнілася своеасаблівым шармам — мабыць, спрыялі самі сцэны коласаўскага тэатра, з яго інтэр'ерам, з традыцыямі...

Падобная атмасфера адчувалася падчас канцэртаў у джаз-клубе, якія доўжыліся амаль усю ноч да раніцы. Дарэчы, у самім спалучэнні — ноч і джазавая імправізацыя — ёсць штосьці інтрыгуючае, захапляючае, рамантычнае... Адпаведны настрой стварала і, канешне, лашчыла слых сваім суладным гучаннем санкт-пецярбургская група "Дайджэст" — заўсёдніца віцебскага фэсту.

Ну, а кульмінацыяй джазавай праграмы было выступленне славутага піяніста Данііла Крамера. Музыкант не толькі ўдзельнічаў у праграмах джаз-клуба, але і выступіў у вялікім канцэрце, прымеркаваным да 100-годдзя з дня нараджэння Джорджа Гершвіна. Тут Даніїл Крамер здзівіў і нават узрушыў слухачоў і сваімі выдатнымі імправізацыямі, і пераладжэннем для фартэпіяна, электронных клавішных і вакальнай групы знакамітай "Рапсодыі ў стылі блюз" Гершвіна. Гэты твор ужо сам па сабе, у традыцыйным выкананні выклікае захапленне, а такое нечаканае гучанне, аздобленае вакалам, які надаў вытанчаны каларыт у спалучэнні з надзвычай віртуознай партыяй фартэпіяна, проста ўзрушыла і выклікала шквал апладысментаў.

Увогуле, у музычнай праграме фестывалю джазавыя канцэрты зрабілі найбольш яркія ўражанні. І не толькі таму, што гэта складаны жанр, які вымагае асаблівага дару і майстэрства, але і таму, што музыканты працавалі заўсёды з жывым гукам — не ў прыклад большасці эстрадных "зорак".

Што тут скажаш! Спевы пад фанаграму робяцца адной з непрыемных, прыкрых і ўстойлівых рысаў "Славянскага базару". Мяне дык ці не ўвесь час не пакідала пачуццё, што нас, публіку, падманваюць. Ад гэтага пачуцця знікала і цікавасць да канцэртаў.

Праўда, не трэба грашыць на ўсіх артыстаў, некаторыя **насамрэч** спявалі (а не толькі рабілі выгляд), выклікаючы асаблівую ўдзячнасць, павагу. Але ж хіба гэта павінна здзіўляць, нібы штосьці надзвычайнае? Гэта ж — норма!

Праўда, каб умовы фестывалю не дазвалялі такі падман, то, напэўна, свята не сабрала б і палову ўдзельнікаў, і доўжылася б ужо не 9 дзён. Большасць вялікіх канцэртаў прайшло пад фанаграму.

Аднак трэба аддаць належнае гасцям з Украіны. Удзельнікі гала-канцэрта спявалі ўжывую. Але тут панавала іншая крайнасць. Сёлета ўкраінская дэлегацыя пастаралася, нават перастаралася ў сваім імкненні ахапіць неабдымнае. У выніку праграма гала-канцэрта аказалася перагружаная акадэмічнымі жанрамі, якія, канешне, лепш успрымаюцца ў камерных залах, дзе непатрэбныя мікрафоны. Таму зразумелая была і лёгкая незадаволенасць публікі ў амфітэатры, цярпенне якой нарэшце было ўзнагароджана выхадам Мікалая Гнацюка — артыста з зорным мінулым (але ж, як паказвае вопыт, "рэтра" ў нас у вялікай пашане).

Гала-канцэрт майстроў мастацтваў Расіі таксама не ўразіў чымсьці нечуваным і прайшоў у лепшых традыцыях 70-х "застойных" часоў.

На гэтым фоне выгадна адрозніваўся канцэрт беларускай дэлегацыі, у якім не адчувалася гігантаманіі, уласцівай двум папярэднім. Праўда, некаторыя крытыкавалі яго за адсутнасць акадэмічных жанраў і, магчыма, у гэтым ёсць слушнасць. І ўсё ж беларуская праграма прадставіла ўсе асноўныя папулярныя музычныя кірункі: эстрадная песня, фальклор, народныя харавыя спевы, харэаграфія, фолк-рок гурты. Быў і акадэмічны вакал ("Чысты голас", Дзяржаўны камерны хор), і выступленні дзяцей.

Заўважу яшчэ вось што. Вядома, не ўсе нашы эстрадныя спевакі могуць дазволіць сабе шоу-групу. Таму было прыемна, што іх выступленні суправаджалі артысты Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, якія ўдалай харэаграфіяй дапаўнялі песенныя вобразы. (Да прыкладу, згадайма жартоўную песню ў выкананні Лікі Ялінскай. І, канешне, — сур'ёзную вакальна-харэаграфічную кампазіцыю на музыку знакамітага "Паланеза" М. К. Агінскага ў апрацоўцы Сяргея Хвашчынскага).

Словам, закіды наконт няўдалай канцэпцыі канцэрта беларускай дэлегацыі на "Славянскім базары ў Віцебску" — спрэчныя. Глядач жа — самы аб'ектыўны крытык — са шчырым захапленнем прымаў выступленні нашых артыстаў. Я нават падумала, што калі хаця б некаторыя з іх мелі магчымасць выступіць на сцэне амфітэатра з сольнай праграмай, дык былі б розгалас не меншы, чым у расійскіх артыстаў.

Прынамсі, як засведчыў поспех саліста Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Мікалая Скорыкава, у нас ёсць артысты, вартыя таго, каб мець свае сольныя праграмы ў раскладзе міжнароднага фестывалю. Прыгадваю выступленне М. Скорыкава разам з выдатнай спявачкай Тамарай Гвердцытэлі ў адным з сёлетніх канцэртаў: гэта было прыгожае выступленне гожых, роўных адно аднаму, партнёраў!

Затое, як паказалі сольныя канцэрты гасцей з самымі "раскручанымі" імёнамі (яны ладзіліся ў амфітэатры звычайна пасля паўночы), поспех гэтых "замежных зорак" пераважна штучны. Справа (і гэта не сакрэт) у рэкламе і грашах. Нават ніякавата думаць пра тыя недасяжныя для нашых айчынных спевакоў, музыкантаў ганарары, з-за якіх некаторыя "зоркі" рабілі ласку павыстаўляцца пад фанаграму перад наіўнай правінцыйнай, але "самай лепшай у свеце" публікай. Ніякавата думаць пра пачуцці тых беларускіх артыстаў, якія, мабыць, свядома "дазвалялі сабе быць падманутымі" ў гэтай стракатай фестывальнай гульні...

Здаецца, можна і завяршаць экскурс у фестывальны ліпень. І завяршу яго — спадзяваннем. На тое, што Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" зробіцца гасціннай пляцоўкай не толькі для замежных артыстаў, але і для нашых айчынных. Як ні парадаксальна гэта гучыць, беларусы павінны стаць гаспадарамі свята на ўласным доме. Гасціннымі, але — гаспадарамі! Хацелася б, каб час паспрыяў гэтаму, расставіўшы ўсе кропкі над "і".

**Таццяна ЯКУШАВА**

МУЗЫКА

# Слава нашай "Троіцы" ляціць... да Беларусі?

***Кажуць, усё, што табе трэба, ты будзеш ведаць у пэўны час і ў пэўным месцы. Трэба толькі мець здольнасць чакаць. Сапраўды, мне дык варта было пачакаць нейкіх 18 гадоў, а потым не без цяжкасцей на цягніку, самалёце і аўтобусе пераадолець адлегласць у 2 тысячы кіламетраў, каб апынуцца ў пэўны час у патрэбным месцы — у казцы!***

Канец чэрвеня, узбярэжжа Адрыятычнага мора, маленькі прыгожы курортны гарадок Партарож. Сонца, блакітныя хвалі, ружы і рададэндраны, спевы птушак, чароўны водар экзатычных паўднёвых раслін, белаенежныя яхты і дыхтоўныя вілы, набярэжная, аддзеленая ад мора вялікімі карставымі валунамі. Па ёй за паўгадзіны можна прыйсці ў суседні партовы горад Піран, на радзіму славутага італьянскага скрыпача Д. Тарціні. Невялічкую цэнтральную плошчу Пірана ўпрыгожвае помнік слыннаму земляку, гучыць і музыка Тарціні. Гэта не Італія, хаця яна зусім побач і "дыханне" яе адчуваецца вельмі моцна. На будынку мэрыі вісяць два афіцыйныя дзяржаўныя сцягі: славенскі ды італьянскі, надпісы на дарожных паказальніках зроблены таксама на дзвюх мовах. Толькі 2 гадзіны марскім шляхам — і ты можаш трапіць у Венецыю.

Вось на такім, сапраўды казачным, фоне ў Славеніі праходзіў 19-ы Міжнародны фестываль сучаснага фальклору, які ладзіў Еўрапейскі вяшчальны саюз. Такім чынам Славенія адзначыла 70-годдзе свайго радыё і 25-годдзе існавання на радыё фальклорных праграм.

Славенію называюць перлінай сярэдняй Еўропы. Гэта надзвычай прыгожы край. Тут ёсць горы: Альпы і Балканы; Адрыятычнае мора, азёры, самая вялікая пячора ў Еўропе. Тут жывуць цудоўныя людзі, шчырыя, адкрытыя, ёсць свае выдатныя паэты і музыканты, ёсць, як у кожнай так званай малой нацыі, бязмежная любоў да роднага слова, павага да гістарычнай і культурнай спадчыны, беражлівае стаўленне да свайго фальклору. Радыё Славеніі выпускае серыю кампакт-дыскаў з запісамі аўтэнтычнага фальклору сваёй краіны. (Усе госці фестывалю атрымалі некаторыя з іх у падарунак.)

На Славенскім радыё ёсць тры нацыянальныя праграмы. І-ая аддае перавагу навінам, кароткім і разгорнутым каментарыям падзей у розных сферах жыцця краіны і замежжа. 2-я мае забаўляльны характар, тут рыхтуюць таксама спецыяльныя перадачы па тэлефанаваннях слухачоў і пісьмах. 3-я нацыянальная праграма радыё Славеніі мае назву "Арс". Перадачы гэтага нацыянальнага канала ўводзяць слухача ў цудоўны свет мастацтва і музыкі самых розных напрамкаў і плыняў. Дарэчы, усе фестывальныя канцэрты транслiраваў менавіта гэты канал. Тэлебачанне і радыё Славеніі маюць сімфанічны аркестр, маладзёжны і камерны хоры ды біг-бэнд. Усе гэтыя калектывы — лаўрэаты шматлікіх вядомых еўрапейскіх конкурсаў.

Кожны год Еўрапейскі вяшчальны саюз вырашае, у якой краіне будзе праходзіць чарговы фестываль сучаснага фальклору. Славеніі сёлета ўпершыню выпаў гонар прымаць гасцей з усёй Еўропы. У Партарож прыехалі прадстаўнікі 18-ці еўрапейскіх радыёстанцый, 18 краін Еўропы прыслалі ў Славенію і сваіх выканаўцаў.

Паводле ўмоў фестывалю, кожная краіна-ўдзельніца павінна прадэманстраваць народную музыку ў сучасным яе існаванні: апрацоўках, імправізацыях з выкарыстаннем розных выканаўчых традыцый, інакш кажучы — старажытную музыку, адаптаваную для цяперашняга слухача. Вядома, што еўрапейская музычная культура сёння — гэта сплаў традыцый сусветнай музыкі, музыкі Азіі, Афрыкі, Амерыкі. Фестываль жа мае на мэце ў гэтым спалучэнні розных музычных традыцый паказаць спецыфіку нацыянальных рэгіёнаў, краін, абласцей.

Дыяпазон выкарыстання нацыянальнага фальклору і нацыянальных музычных традыцый у сучаснай аранжыроўцы ва ўсіх удзельнікаў 19-га Міжнароднага фестывалю ў Партарожы быў розны. Тут можна было пачуць выключна традыцыйныя ірландскія найгрышы на валынцы, аўтэнтычныя фінскія спевы, македонскія мелодыі ў джаз-рокавай "вопратцы", фальклор з элементамі бардаўскай песні, дыхтоўныя харавыя апрацоўкі славенскіх мелодый, пазнаёміцца з выключным віртуозным майстэрствам музыкантаў з Даніі, Швейцарыі, Польшчы. Ва ўсёй гэтай жанравай разнастайнасці сваё адметнае месца заняла беларуская група "Троіца".

Іван Кірчук, Дзмітрый Лук'янчык і Віталь Шклёнак — наша "Троіца" — на 19-м фестывалі Еўрапейскага вяшчальнага саюза ў Партарожы былі лепшыя. Яны выступалі ў апошні дзень фестывалю, і я магла параўнаць іх выступленне з астатнімі. "Троіца" не мела сабе роўных. Гэта пацвердзілі амаль усе ўдзельнікі фестывалю, яго госці, журналісты, музыколагі, рэдактары музычных праграм з розных радыёстанцый Еўропы: беларускіх музыкаў віншавалі, неаднаразова выказалі захапленне...



Наогул, пачатак лета для "Троіцы" выдаўся гарачым. У Партарож калектыў прыехаў з гастроляў па Галандыі, Германіі ды Аўстрыі, а пасля Славеніі музыканты працягвалі тур па Балканах, завяршыўшы яго ў Венгрыі. "Троіца" брала ўдзел у сёлетніх самых вядомых музычных фестывалях Еўропы. У Галандыі гэта — фестывалі "Вірус" і "Урол", у Венгрыі — сусветны фестываль "Калака" і этнафестываль у Сапроне, акрамя гэтага былі выступленні ў Харватыі, Босніі і Герцагавіне, Зальцбургу, Франкурце-на-Майне. Цяпер на еўрапейскіх фестывалях традыцыйна прысутнічаюць музыканты з Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, Індыі. Беларускі фальклор у гэтай плыні пад назвай "сусветная музыка" дзякуючы менавіта "Троіцы" заняў сваё пачэснае месца, не згубіўся, а наадварот выявіў самыя прывабныя свае рысы.



"Троіца" выконвае старажытную музыку розных рэгіёнаў Беларусі, вельмі тонка, эстэтычна, з вялікім густам спалучаючы аўтэнтыку і лепшыя дасягненні рок-, джаз- і папмузыкі. Калектыў выпусціў свой першы кампакт-дыск, — на жаль, не ў Беларусі, а ў Галандыі. І з аптымізмам сціпла спадзяецца, што ў хуткім часе і на радзіме "Троіцу" будуць ведаць і любіць гэтак жа, як па ўсёй Еўропе. У кожным разе музыканты зробяць для гэтага ўсё, што ад іх залежыць.

"Троіца" сёння робіць вельмі важную і патрэбную справу: далучае да музычнай даўніны новыя пакаленні слухачоў, імкнучыся "размаўляць" з імі на мове, зразумелай моладзі, і, разам з тым, далікатна і паважліва развівае старыя традыцыі.

"Троіца" не разбурае, а стварае. Стварае новы музычны свет, у якім зноў можна адчуць старадаўні голас часу, голас простай душы, якая ніколі не перастане спяваць.



Сёлетні 19-ы міжнародны фестываль сучаснага фальклору ў Партарожы стаў у пэўным сэнсе знамянальным і для Беларускага радыё. Упершыню мне, як аўтару і рэдактару перадачы "Фальклор" (яна, дарэчы, восенню адзначыць сваё 20-годдзе) на сустрэчы рэдактараў і прадзюсераў краін-чальцоў Еўрапейскага вяшчальнага саюза давялося знаёміць калег з тым, што робіць сёння музычная рэдакцыя радыё для прапаганды нацыянальнага фальклору і параўнаць наш падыход да гэтай справы з традыцыямі, што склаліся на іншых радыёстанцыях.

У краінах Еўропы, як правіла, дзяржаўнае радыё мае тры і болей спецыялізаваных каналаў. І ўсе праблемы, пра якія гаварылі рэдактары, заключаюцца ў тым, што ім часта не стае новай музычнай інфармацыі, новых запісаў нацыянальнага і замежнага фальклору для таго, каб запоўніць 4 ці 5 гадзін эфірнага часу на тыдзень. Дастаткова толькі параўнаць гэтыя 4-5 гадзін гучання народнай музыкі ў розных варыянтах, напрыклад, у Фінляндыі, Нарвегіі, Швейцарыі, і 30 хвілін раз на тыдзень у перадачы "Фальклор" на Беларусі. Застаецца толькі марыць пра тыя часы, калі наша дзяржава знойдзе магчымасці стварыць на нацыянальным радыё спецыялізаваны музычна-асветніцкі канал, які будзе мець, напрыклад, гадзін 12 вяшчальнага часу і на якім побач з музыкай розных часоў і краін, розных напрамкаў пачэснае месца зойме і нацыянальны фальклор у шматлікіх варыянтах яго сучаснага існавання. І тады голас "Троіцы" ды іншых адметных калектываў, якія працуюць з беларускім фальклорам, не будзе далятаць аднекуль з далёкіх краёў да радзімы толькі рэхам, а наадварот — рэха беларускага шматгалосся будзе чутно далёка-далёка за межамі нашай радзімы.



**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

*На здымках — "Троіца" ў жыцці і на сцэне: Іван Кірчук, Віталь Шклёнак ды Дзмітрый Лук'янчык.*

*Фота С. ШАПРАНА і Д. ЕЛІСЕЕВА.*

АДГАЛОСКІ

# Хто выклікае прывід русафобіі?

АЗНАЁМІЎШЫСЯ са зместам чарговага артыкула Ігара Мікалаевіча Асінскага ў газеце "Белоруссия" быў крыху здзіўлены. "Инъекция русофобии" гэтак нагадала публіцыстыку газеты "Советская Белоруссия" ўзору 94-га года, што міжволі ўзнікла пытанне: "Ці выпадкова гэта падабенства?" Маю на ўвазе не ўяўны плюралізм думак — тут усё, як заўсёды, а выбар "ворага". Патлумачу. Апошнім часам І. Асінскі шмат пісаў пра рознага кшталту "змоўшчыкаў" супраць законнаабранай улады. Да ліку апошніх ён адносіў пераважна людзей з Адміністрацыі прэзідэнта і журналістаў дзяржаўных СМІ. Звычайная, так бы мовіць, "афіцыйная" апазіцыя, па словах заснавальніка "Белоруссии", адыгрывала толькі ролю дымавой заслоны. Зараз жа, у нумары "Б" за 7—10 жніўня, аб'ектам яго крытыкі (як і ў лепшыя гады) стаў БНФ. Лепей, канечне, сказаць — "Малады фронт", паколькі разглядае І. Асінскі дзейнасць менавіта гэтай арганізацыі, але свядома ўжывае іншую назву. Здаецца, памылкі няма: напісана "молодежная организация БНФ", і рэкламы ніякай — маладыя людзі аб'яднаны юрыдычна пад іншай "шыльдай". Піша аб нейкім "крахе этого оппозиционного движения" і чакае выбуху "русафобской бомбы" сярод моладзі. Выбух толькі ў будучыні, яшчэ невядома, ці будзе ён наогул, а аўтар артыкула ЎЖО сумуе па тым часе, калі "проявления русофобии... пресекались государством на корню".

Перад тым, як звярнуцца непасрэдна да тэксту "Инъекции...", змешчанага пад рубрыкай "Позвольте вам не позволить", і адчуваючы настальгію І. Асінскага па часах яго рэдактарства ў "СБ", лічу карысным успомніць, ШТО і, галоўнае, ЯК пісаў ён пра нацыянальнаарыентаваных палітыкаў і праводзімую імі палітыку. Зварот да падшыўкі "СБ" дазволіць маладым людзям, якім адрасаваны "ін'екцыйны" матэрыял, больш даведацца пра асобу І. Асінскага і зрабіць пэўныя высновы наконт ягоных сачыненняў.

Паколькі І. Асінскі ўзгадвае старую публікацыю З. Пазняка "О русском империализме", з яе і пачнём. Як вядома, узгаданы матэрыял, перш чым трапіць на старонку "Народнай газеты", быў пакладзены на стол рэдактара "Советской Белоруссии" (у той час ім быў Асінскі І. М.). Каб не быць галаслоўным, давядзецца шмат цытаваць. Рэдактарскі артыкул "Писание от лукавого" — першая рэакцыя на сачыненне З. Пазняка. "Хотелось бы обратить внимание на двуличие БНФ. Ратуя на словах за свободу печати, на деле оппозиция самым беззастенчивым образом попирает ее. Причем весьма ловко использует для этого наше несовершенное законодательство". А вось што пісаў З. Пазняк: "К сожалению, газета, к которой я обратился, не сумела выполнить закон и отказалась печатать статью. Я предупредил перед тем ее редактора, что не стану использовать свое депутатское право и оставляю за редакцией возможность принять свободное решение". На ўсялякі выпадак удакладню: "СБ" не абвяргала сказанае З. Пазняком. Дзе ж тады "попрание свободы печати"? Дэпутат, маючы права патрабаваць публікацыі, просіць аб гэтым, папярэдзіўшы, што судовага разбіральніцтва ў любым выпадку не будзе. Праўда, І. Асінскі сцвярджаў, што "в правовом государстве закон, которым Вы прикрываетесь, как щитом, — нонсенс. Конечно, законопослушной "НГ" не остается ничего иного, как следовать ему". Што ж, мабыць і нонсенс, але дзяржава таму і прававая, што абавязковасць выканання закона не ставіцца пад сумненне. У дадзеным выпадку, як бачым, законапаслухмянасць пастаўлена ў віну "Народнай газеце". Своеасаблівае разуменне прававой дысцыпліны!

"Отказав в публикации статьи, "СБ" предложила вам дать нашей газете интервью, в котором не только вы, но и мы были бы свободны излагать свои взгляды". Хто перашкаджаў побач з артыкулам З. Пазняка надрукаваць адказ таго ж філосафа В. Акулава? Няхай чытач атрымаў бы цэльнае ўяўленне аб "жахлівасці бэнээфаўскіх ідэй"! Дык не, І. Асінскі вырывае асобныя фразы.

Дарэчы, і ён і наступныя апаненты З. Пазняка, абвінаваціўшы яго ў бяздоказнасці, чамусьці не заўважылі ў артыкуле цытаты з прамоў расійскіх палітыкаў, хоць менавіта на іх у значнай ступені пабудавана абвінавачанне расійскага кіраўніцтва ў правядзенні імперскай палітыкі. Але І. Асінскі лічыць, што "лукавство — не самый большой порок в нашем грешном обществе".

У першай палове 1994 года тагачасны рэдактар "СБ" піша: "Как свидетельствует последний опрос общественного мнения, проведенный институтом социологии НАНРБ, только 16,6% населения выступают за отставку нынешнего правительства. Самого Позняка поддерживают всего лишь 4,2%. Но он продолжает твердить, что на ближайших выборах БНФ победит". Перад намі яскравы прыклад таго, як мэта апраўдвае сродкі. Мэта — запэўніць усіх на свеце ў непарушнасці ўрада Кебіча. Сродак — пасмяяцца з "наіўнасці" апазіцыянера.

Праз некалькі месяцаў пасля згаданага матэрыялу ў Беларусі пройдуць прэзідэнцкія выбары. Вынікі іх засведчаць зусім іншы працэнт падтрымкі ўрада і апазіцыі. І калі тэарэтычна можна дапусціць раптоўнае падзенне папулярнасці ўрада і звязаць яго, напрыклад, з актыўнай дзейнасцю дэпутата А. Лукашэнкі, то зусім незразумела, чаму З. Пазняк замест адведзеных яму 4,2% атрымаў ажно 13. Яшчэ 10 набраў С. Шушкевіч, чаго таксама не ўлічыў аўтарытэтны для І. Асінскага інстытут сацыялогіі. Упэўнены, рэдактар "СБ" ведаў, ці, ва ўсялякім выпадку, здагадваўся, што апазіцыя мацней, чым ён таго жадаў бы. Больш за тое — восенню (гэта значыць, пасля выбараў прэзідэнта) у публікацыі "Никто не даст нам избавления" ён фактычна пацвердзіць тое, з чаго вясною спрабаваў пасмяяцца: "...Если националисты завоюют большинство мест в новом парламенте, что в нынешней ситуации весьма реально..." і г.д. Асобная размова, чаму БНФ не патрапіў у ВС 13 склікання наогул, але калі лідэр фронту і памыляўся, то разам з ім памыляўся і рэдактар "СБ". Уся розніца ў тым, што З. Пазняк пры гэтым не прыніжаў ролі апанентаў.

Яшчэ прыклад. 24 сакавіка 1994 г. газета "Звязда" выйшла з артыкулам А. Мяснікова "І родны бацькаў кут". Ужо 29-га "СБ" друкуе водгук "Ода национализму" (загаловак такі ж гучны, як "Инъекция русофобии"). У гэтай спрэчцы паказальны наступны факт. Цытата з І. Асінскага: "Уважаемый коллега, я не буду спорить с вами о том, была ли Беларусь порабощенной в составе СССР. Допустим, что вы в этом убеждены, хотя я и не верю". Проста наскрозь бачыць людзей Ігар Мікалаевіч — і ўсё тут.

А цяпер пра тое, чаго баіцца І. Асінскі. Вось, напрыклад: "Как ни раскидывай националистические карты.., а ложаться они все одной мастью — борьбой против русских и представителей других наций, проживающих в нашей стране". У якасці доказу І. Асінскі цытаваў "Звязду": "Адраджэнне Беларусі ў рэальнай дэмакратыі, у рэальным адстойванні інтарэсаў беларусаў. Менавіта беларусаў, а не іншых народаў на нашай зямлі". Як кажуць, на бязрыб'і і рак рыба. Калі Ігара Мікалаевіча палохае гіпатэтычны прыярытэт тытульнай нацыі над людзьмі "пришлыми", яму павінна быць даспадобы сённяшняе становішча з беларускамоўным навучаннем. Факт гэты ён, як чалавек разумны, не зможа патлумачыць нічым іншым, як пэўнай дзяржаўнай палітыкай. Чаго тады вартыя словы пра яго заклапочанасць гэтымі праблемамі, сказаныя ў інтэрв'ю нашаму штотыднёвіку? Ён кажа "ЛіМу" аб ролі заснаванай ім газеты "Белоруссия" ў змаганні за гуманітарны ліцэй, але ці не гэтага ён жадаў, выступаючы за двухмоў'е? Як мне падаецца, у той час ён ведаў, чым скончыцца рэферэндум па моўным пытанні і пытанні аб нацыянальнай сімволіцы, але быў "за". Той, хто назаве такую пазіцыю беларусафобствам, будзе мець рацыю, бо Асінскага і К задавальняе тое, калі ў стане нацыянальнай меншасці ў Беларусі знаходзяцца беларусы. Пачытайце яго публікацыі ў "Белоруссии": крытыкуе ўладу за што заўгодна (часам нават жорстка), толькі не за дыскрымінацыю карэннай нацыі! Як пелася ў савецкай песні, "жила бы страна родная и нету иных забот!" "Страна родная" — яна ж "наша великая Родина", Савецкі Саюз. Адсюль і непрыманне ўсяго несавецкага.

Да савецкіх традыцый у публіцыстыцы І. Асінскага мы яшчэ вернемся, а пакуль прыгадаем яго стасункі з уладатрымальнікамі. Мы ўжо прыгадвалі, як тагачасны рэдактар "СБ" прыпісваў ураду Кебіча неіснаваўшых прыхільнікаў. Дазволім сабе звярнуць увагу чытача на інтэрв'ю з самім Вячаславам Францавічам. Вось што пісаў І. М. у рэдакцыйным уступе да інтэрв'ю: "Можно спорить о том, причастен ли В. Кебич к развалу СССР... какова его личная ответственность за агонию белорусской экономики — наверное когда-нибудь на это будут даны исчерпывающие ответы. Сегодня же нет времени для морализирований". Рэч нават не ў тым, што рэдактар адной з буйнейшых газет "не морализирует" наконт аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты і абыходзіцца без непрыемных пытанняў: усё ж такі "СБ" тады — орган Саўміна, а Кебіч — яго старшыня. Цікава, што напіша І. Асінскі ў кастрычніку таго ж года ў артыкуле "Хождение А. Лукашенко за три горя": "Возненавидев продажных профессиональных политиков, по милости которых оказались на социальном дне, миллионы людей поверили своему". Пра каго гэтыя словы, не трэба паўтараць тры разы.

Размова "о странностях любви" становіцца яшчэ цікавей, калі прачытаць перадвыбарчую публікацыю "Думайте сами, решайте сами...". Варта спыніцца на ёй падрабязней. Гэты адносна невялікі (у параўнанні з тэмай) матэрыял адрознівае своеасаблівая пабудова. Спрабуючы быць аб'ектыўным, І. Асінскі адразу крытыкуе ўсіх: "никто из претендентов так и не решился честно сказать, какой же общественно-политический строй считает для Беларуси наиболее приемлемым". "По сути программы, которые абнародованы — это вовсе не программы, а всего лишь декларация, обещания". Пасля крытыкуе выбраных — вядома ж, Пазняка і Шушкевіча. Не адрозніваючыся арыгінальнасцю і не абцяжарваючы сябе глыбокім аналізам, першага абвінавачвае ў нацыяналізме, другога — у віскулёўскай "змове". Некалькі пажаданняў Дубко і Лукашэнку і... пра галоўнага кандыдата — В. Кебіча: "Власть вряд ли вскружит ему голову... пользуется наибольшим доверием в России" і г.д.

Як вядома, лепей запамінаецца апошняя фраза (у дадзеным выпадку прозвішча). Устаноўка электарату — галасуй за Вячаслава Францавіча. Але, як прызнаецца пазней сам І. Асінскі, "редакция, как и весь белорусский народ, сделала правильный выбор".

З сённяшняй уладай у І. М. неяк "не сложилось". Перш за ўсё таму, што не захацеў І. Асінскі адмовіцца ад прынцыпаў плюралізму. Акрамя таго, як адзначыў І. М. у інтэрв'ю "ЛіМу", "расчараваўся ў некаторых дзеяннях Лукашэнкі, стылі яго кіраўніцтва". Аднак пры гэтым не шкадуе аб сваёй ролі, якую адыграў падчас выбараў прэзідэнта. Чаму? Ён кажа, што не бачыць альтэрнатывы. Нам жа падаецца, што прычыну трэба шукаць глыбей. А менавіта ў наступным (цытуем адзін з артыкулаў І. Асінскага): "Логика событий подсказывает: А. Лукашенко — последний из нынешних политиков, кому народ поверил безоговорочно, не дробя его по национальному признаку, с кем можно еще связывать надежды на возрождение единого славянского государства".

Працуючы на розных гаспадароў, абліваючы брудам "почем зря" апанентаў, І. Асінскі пакідае для сябе нязменнай толькі мару аб імперыі, дзе "каменчык прывязваецца да гары", мару аб Савецкім Саюзе. Дзеля дасягнення мэты неабходна паставіць крыж на тых палітычных сілах, якія прагнуць незалежнасці для сваёй краіны. Падыходзяць усе сродкі. Заўважыўшы актывізацыю нацыянальнаарыентаванай моладзі, ацаніўшы яе новыя падыходы да змагання за беларушчыну (беларускія дыскатэкі, конкурсы, віктарыны), І. Асінскі вырашыў нанесці ўдар па "маладняку" ад апазіцыі. Памятаеце, што назваў журналіст "найвялікшым злачынствам дэмакратаў" у нашай рубрыцы PRO ET CONTRA? Тое, што моладзь не хоча "назад в СССР". Мяркую, у тэксце дакумента, падрыхтаванага і распаўсюджанага "Маладым фронтам", аўтара "Инъекции русофобии" больш за ўсё астатняе пакрыўдзілі словы аб тым, што "сёння 9/10 моладзі ў апазіцыі..." Напэўна, яны ж прымусілі І. М. узяцца за пяро. Інакш чым патлумачыць такую ўвагу да шараговай улёткі маладафронтаўцаў?

Уласны каментарый аўтара змешчаны толькі ў канцы публікацыі, а так толькі цытаты, якія, на думку заснавальніка "Белоруссии", павінны сведчыць аб русафобскай сутнасці названай арганізацыі. Напрыклад: "Мы павінны пераломваць расійскае панаванне ў культурніцкім жыцці на карысць беларускасці і еўрапейскасці". З чым вы не згодныя, І. М.? З тым, што ў Беларусі пераважае над беларускай расійская культура? Прыгадайце тады, калі вы апошні раз чулі беларускую музыку з музычнага шапіка. Баюся, што, акрамя расійскай "папсы", вы не знойдзеце там нічога. Там няма нават вашых улюбёных савецкіх песень, што ўжо казаць пра "NRM", "Краму", "Палац" ды іншых.

Вас абразіла, што сярод пытанняў анкеты маладафронтаўцаў ёсць пытанне пра Альгерда, які "тройчы прымушаў Маскву здавацца і плаціць даніну". Спрачайцеся — вы ж, здаецца, кандыдат гістарычных навук. Дарэчы, што значыць гэта, рубрыка "Позвольте вам не позволить". Не дазволіць — чаго, што ведаць і распаўсюджваць гістарычныя звесткі, слухаць і пець свае песні?!

Разумею, вам як чалавеку САВЕЦКАМУ, крыўдна чытаць, што ад Расіі беларусы атрымалі "прыгоннае права, пралетарскую рэвалюцыю, шэраг войнаў, камунізм, сталінскія канцлягеры". А што, хіба не атрымлівалі?! За гэтым крыху спрошчаным (гэта ж улётка!) разуменнем уласнага месца ў гісторыі вы ўбачылі русафобства? Ці не лукавіце вы ў чарговы раз, Ігар Мікалаевіч?

Вы, мяркую, самі не верыце ў русафобства на Беларусі, а калі верыце, спытайце ў супрацоўніка "Белоруссии" С. Каралькевіча аб сапраўдным стане рэчаў. Магчыма, ён вам раскажа, што ў "Маладым фронце" далёка не ўсе "беларусы па пашпарце", не ўсе размаўляюць па-беларуску, што яны маюць добрыя адносіны з сацыялістамі з "Маладой грамады" і нават прарасійска настроенымі маладымі лібераламі з "Грамадзянскага форуму". Ды хіба толькі гэта... Хопіць, Ігар Мікалаевіч! Няма ніякай русафобіі, таксама як няма "пятай калоны" ў дзяржаўных СМІ. Вядома ж, калі русафобствам не лічыць любую праяву Беларускасці...

**Вадзім ДОЎНАР**

**P.S.** Вельмі спадзяюся, што мае нататкі не будуць пастаўлены І. М. Асінскім у адзін шэраг з выпадамі супраць яго А. Зімоўскага і рэпрэсіяй сп. Балажынскага.

**В. Д.**

## Сусед і сябра

**22 жніўня спаўняецца 70 гадоў вядомаму літоўскаму паэту Альфонсасу Малдонісу. Творчасць яго вядома на Беларусі дзякуючы перакладам Анатоля Грачанікава, Веры Вярбы, Хведара Жычкі, Еўдакіі Лось, Міхася Калачынскага, Уладзіміра Караткевіча, Сяргея Панізніка, Уладзіміра Паўлава, Алеся Разанава, Янкі Сіпакова. Неаднойчы Альфонсас Матэевіч наведваў Беларусь. У прыватнасці, ён прымаў удзел у Днях літоўскай літаратуры на Беларусі, што праходзілі ў 1969 годзе, выступаў на юбілеях Якуба Коласа (1972), Янкі Купалы (1982), Максіма Танка (1982). А. Малдоніс пераклаў на літоўскую мову асобныя творы Міколы Аўрамчыка, Анатоля Грачанікава, Васіля Зуёнка, Петруся Макаля...**

## Вабіла і наша гісторыя

**У даследаванні гісторыі Беларусі актыўны ўдзел прымаў польскі гісторык, славяназнаўца Генрых Лаўмянскі, які нарадзіўся 100 гадоў назад (памёр 4 верасня 1984 года). Беларускай арыентацыі Г. Лаўмянскага, відаць, не ў малой ступені спрыяла тое, што падчас вучобы ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце ён слухаў лекцыі Мітрафана Доўнар-Запольскага, які працаваў выкладчыкам на гістарычным факультэце. М. Доўнар-Запольскі аказаў на Г. Лаўмянскага вялікі ўплыў. Кола навуковых інтарэсаў Г. Лаўмянскага было шырокае: ён даследаваў палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, ідэалагічныя праблемы Вялікага княства Літоўскага, не пакідаў па-за ўвагай гісторыка-геаграфічнае становішча гэтай дзяржавы, вывучаў рэлігіі і культуры славянскіх і балцкіх народаў. А калі канкрэтна пра гісторыю Беларусі, дык у полі зроку Г. Лаўмянскага знаходзіліся генезіс Полацкай зямлі, падзеі 1019 года ў Брэсце ў сувязі з барацьбой Святаполка Уладзіміравіча і Яраслава Мудрага за кіеўскі прастол, гаспадарчыя, сацыяльныя і палітычныя падставы Крыўскай уніі 1385 года. Даследаваў Г. Лаўмянскі гісторыю Навагрудскага ваяводства, узяўшы прамежак часу да XVIII стагоддзя. Сістэматызаваў звесткі пра жыццё і дзейнасць Вітаўта.**

## Марыў аб федэрацыі

**З ідэяй федэрацыі Польшчы з беларуска-літоўскім краем выступаў у свой час дзяржаўны і грамадскі дзеяч Беларусі і Літвы, публіцыст, доктар права Іпаліт Корвін (нарадзіўся 18 жніўня 1848 года, памёр 11 лютага 1932-га). У гэтым, безумоўна, сказвалася абмежаванасць яго поглядаў. Аднак гэта таксама наша гісторыя, якой бы супярэчлівай яна ні была. І. Корвін з 1 верасня 1905 года па 1 снежня таго ж года рэдагаваў газету "Літоўскі кур'ер", якая выходзіла ў Вільні на польскай мове. Жывучы з 1877 года пэўны час у сваім родавым маёнтку на Ашмяншчыне, ён пераўтварыў яго ва ўзорную гаспадарку.**

## Працуе і вучыцца



**Клапатліва выхоўваюць маладых спецыялістаў, усяляк дапамагаюць ім у Іўеўскім раёне. Тры гады загадвае, напрыклад Лаздунскім сельскім клубам Вольга Федарака, дарэчы, ураджэнка вёскі Лаздуны. А заадно яна працягвае завочна вучыцца ў Гродзенскім вучылішчы мастацтваў.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# КАХАНАК ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

Цяпер сюды, пад абарону праваслаўнай імператрыцы, атрымаўшы ў расійскага пасланніка ў Вене пашпарты, едуць адукаваныя сябры ордэна з Італіі і Францыі, Нямеччыны і Швейцарыі... На абедзе — стол быў накрыты на сто кувертаў — ёй адрэкамендавалі двух прафесараў Сарбоны і амерыканскага мільянера, які перасек акіян і дзесятак краін, каб ахвяраваць ордэну свае мільёны. Там быў яшчэ фацэтны італіец, які пасля другой змены страў дэкламаваў уласную элегію да рыбракі Палаты, што побач з яе палацам зліваецца з Дзвіною...

Не, на абедзе паляўнічага не было. Яна ўпершыню ўбачыла яго на балі, дзе ўчарашняга вечара танцавала паўтысячы гасцей.

Яна ніколі не залічала сябе ў прыхільніцы баляў і ўжо даўно не дазваляла сабе з галавою акунацца ў легкадумны вір музыкі, шампанскага, фальшывых усмешак і навылёт хлуслівых прызнанняў і кампліментаў.

Каб не марнаваць часу, яна, як зазвычай, даручыла вачам выбраць аб'ект назірання. Спачатку аб'ектаў аказалася адразу два: князь Пацёмкін і падобны да Гамлета Ланской, якога ў Пецярбурзе яна, хаваючы ад прыдворных дам і ашчаджаючы для сябе, здаралася, днямі трымала пад замком. Князь не быў бы самім сабой, каб не ведаў, хто шаптаў ёй у мінулую ноч "зоренька" — так, выконваючы ейнае жаданне, мусілі называць яе ўсе фаварыты.

Князя як быццам магнэзам цягнула да Ланскога: ён колькі разоў здымаў з тацы два келіхі, загаворваў з маладым канкурэнтам і аднойчы яна, імператрыца, здолела ўбачыць ці, праўдзівей, праз усю залю адчуць тую ледзяную ўсмешачку, што прабяілася па князевых вуснах, на імгненне прыадкрыўшы бездань ягонае нянавісці. Перад тым, як пераключыць увагу на беларускага афіцыяла Паслоўскага, яна спакойна падсумавала: не будзе нічога дзіўнага, калі неяк увечары пецярбургскі Гамлет бескладотна вып'е келіх таго віна, якое каштуюць толькі раз.

Ксёндз Паслоўскі заняў пазіцыю каля высокіх вокнаў, за якімі на ілюмінацыйнай вежы быў вытканы агнямі яе, Кацярынін, партрэт. Да афіцыяла па чарзе падыходзілі ваявода берасцейскі Ян Зыберг, полацкі кашталян Фадзей Жаба, скарбовы пісар літоўскі Юллян Шчыт, ваявода люблінскі Ігнацы Твардоўскі... Пра што маглі гутарыць з афіцыялам гэтыя фанабэрлівыя палякі і літвіны? Можа, усе разам атрымалі ад папы новы загад паўплываць на непакорлівы ордэн? Няхай афіцыял раскажа ім пра кіслую міну апошняга пасланага з Варшавы нунцыем Аркеці сакрэтнага агента, што не паспеў ступіць па дзвінскім беразе і двух крокаў, як з туману выйшаў сам полацкі гараднічы са сваімі людзьмі, якія ветліва пасадзілі няпрошанага візітанта назад у човен і паабяцалі, што наступнага разу давядзецца вяртацца наўплаў.

Твардоўскага змяніў староста інфлянцкі Язэп Плятэр, а таго — кашталян троцкі Андрэй Агінскі... Яна засталася задаволенаю, што беспамылкова памятае, хто ёсць хто ў гэтай жывой мазаіцы твараў, але разам з тым адзначыла, што ніхто з суразмоўцаў ксяндза Паслоўскага так і не павярнуўся тварам да вокнаў, у якіх ззяў яе партрэт у атачэнні гербаў галоўных гарадоў імперыі. Яна ўжо мелася палічыць падкрэсленую няўвагу палітычнай дэманстрацыяй, як яе позірк спыніўся на гнуткай, яна сказала б, празмерна гнуткай постаці Станіслава Панятоўскага, пляменніка і цёзкі караля і вялікага князя. Апошняга караля і вялікага князя, — думаючы пра былога фаварыта, дадавала яна ўжо не адзін год.

Аднак інтэрас у яе выклікаў не сам пляменнік — асоба, ствараючы якую, Госпад відавочна адпачываў, хоць, зрэшты, і падкінуў ёй за картачны столік неблагога партнёра. Яна весела злавіла сябе на тым, што прагна разглядвае спадарожніка Панятоўскага.

З гэтае хвілі яе ўжо не цікавілі ні бестурботны Гамлет з развар'яваным князем Пацёмкіным, ні чарада літвінаў і палякаў, што, як восы вакол спелае грушы, круціліся каля афіцыяла (яны дачакаюцца часу, калі яе партрэт будуць аздабляць гербы і іхніх гарадоў), ні цэлы рой маладых іншаземцаў-езуітаў, што размаўлялі адначасова на чатырох ці пяці мовах, з цыркавой лёгкасцю пераскокваючы з французскай на лаціну і з нямецкай на ангельскую.

Ён выглядаў на паўгалавы вышэйшым за Ланскога і, відаць, пражыў на свеце ці не ўдвая болей за яго, што, між тым, ані не адбілася на па-маладому станістай постаці. Яна, імператрыца, была пэўная, што ў яго на галаве не парык, а ўласныя, густыя і нават на позірк шорсткія валасы, якія ёй у мужчын нязменна падабаліся. На ягоным выштукаваным без лішняга мудрагельства твары ляжала пячатка адлучанасці. Яна зразумела, што гэты мужчына, як і яна сама, не паддаўся святочнай мітусні і застаецца ў яе віхуры сам-насам з сабою.

Ёй захацелася ўбачыць яго зблізку, пачуць ягоны голас, даведацца, якія ў яго вочы. Губернскі маршалак Корф, што не адыходзіўся ад яе далей, чым на тры крокі, схіліўшыся да вуха, патлумачыў: былы земскі суддзя Полацкага ваяводства Каспар Буйніцкі, нашчадак старажытнага тутэйшага роду, удавец і заўзяты паляўнічы.

Маршалак зрабіў знак, і праз хвіліну радавіты літвін стаяў перад ёю.

З валасамі яна не памылілася: густыя, цёмна-каштанавыя, ледзь-ледзь кранутыя плацінавай сівізной, яны — вядомае яшчэ старажытным грэкам сведчанне пароды — розніліся з жарай барадой і гэткага ж колеру вусамі геданіста. Літая постаць дыхала спакойнай, утаймаванаю сілай. Выразны, буйны, але ў класічных межах, нос паведамляў пра цвёрдасць характару. Аднак першае, што яна ўбачыла, калі ён ці не занадта лёгкім па-клонам павітаўся з ёю, былі зусім маладыя зялёныя вочы, якія то цямнелі і ўвачавідкі рабіліся карымі, то зноў святлелі амаль да колеру травеньскае лістоты, але незалежна ад гэткіх хуткіх зменаў у іх, не гаснучы, ігралі небяспечныя агеньчыкі.

Так, ужо тады, на бале, ягоная блізкасць павеяла на яе небяспекаю. І ўадначас яна, імператрыца, адчула сілу ягонага мужчынскага прыцягнення, сілу, якую яна ўмела цаніць, як ніхто.

Яна ўжо ведала, хто прашэпча ёй сёння "зоренька".

Але тут яна памылілася: ён, хоць і быў папярэджаны пра асвечанае традыцыяй імператрыцына жаданне, не назваў яе так ні разу.

Яна адно зараз асэнсоўвае гэта, і адкрыццё аніяк нельга назваць прыемным. Раздражненне ўвасабляецца ў тонкім звоне камара, які мерыцца паснедаць, апусціўшыся ёй на шыю.

Імператрыца выключае камара з гульні, але ёй здаецца, што прыкры звон у спальні не сціхае. Каб адпрэчыць замарачэнне, яна вяртаецца да ліста сыну.

"Жыхарства тут самае разнастайнае: вельмі часта побач жывуць праваслаўныя, католікі, уніяты, габрэі, рускія, палякі, чухонцы, немцы, курляндцы, карацей, не ўбачыш двух сялянаў, каб тыя былі аднолькава апранутыя і правільна гаварылі на адной мове; змяшэнне плямёнаў і моў нагадвае Вавілонскае стаўпатварэнне..."

Ёй узгадваецца дарога з Пецярбурга: натоўпы святочна прыбраных прыгонных рабоў з хлебам-соллю, карагоды баб з іхнімі прастанароднымі песнямі... Часам, каб пацешыць ёй вока, усцяж гасцінца ставілі бутафорскія вёскі-дэкарацыі: багатыя чыстыя хаты, каровы з вялізнымі вымямі, што нязменна абуджалі ў яе жаданне...

Адзін з мазілак-бутафораў саграваў яе на апошнім начлезе перад Беларуссю. Яна спакусілася ягонымі грэнадзёрскімі ростам і паставаю, але ў ложку вонкавыя мужчынскія вартасці таксама ператварыліся ў бутафорыю. "Грэнадзёр" відочна баяўся яе, мітусіўся, у самы недарэчны момант ні з пушчы ні з поля кінуўся дзякаваць за ўказ, што дазваляў мастакам вольна заходзіць у народныя лазні, каб вывучаць чалавечае цела на жывых мадэлях. "Асёння, бацюхна, на гасударыні натуру спасцігаць будзеш", — засмялася яна і бесцырымонна ўзяла яго за прычыннае месца. Ды ўсе старанні натхніць бутафора скончыліся канфузамі, і яна мусіла пасылаць па Ланскога.

Імператрыца пераводзіць позірк на алькоў, і яе вочы затуманьваюцца.

Другі раз ён, полацкі вядзьмак і паляўнічы, авалодаў ёю вось там, на ложку, абрынуўшы на яе піраміду падушак і падушачак. І зноў яго ласкі нагадвалі ласкі дзікага звера. Зноў штосьці лясное, нетравае таілася ў руках, што блукалі па яе целе, не ведаючы аніякіх забаронаў. Яна не назвала б свае адчуванні прыемнымі, але прыхаваная трывога, што пульсавала ў іх лабірынтах, несла з сабою непаўторную слодыч.

Гаспадаром з першага імгнення блізкасці, як і раней, быў ён, і ў нейкую хвілю яе ўжо тады ўтнула здагадка, што ён апынуўся ў спальні не па волі яе, імператрыцы, а — згодна з уласным, не зусім зразумелым ёй планам... Але ён быў геніяльным каханкам, і тое, што адбывалася сярод раскіданых падушак, ужо не пакідала месца думкам, якія імкліва адносіла ўдалеч паводка асалоды.

Яны гаварылі па-французску, аднак у ложку ў яго вырваліся словы на іншай мове. Гэта была не польская, а — мова яго дзяцінства, гэтых прыдзвінскіх лугоў і пушчаў. Прамоўленыя на ёй словы нарадзіла не пяшчота, не цеплыня. У іх, як і ва ўсім тым, што ён рабіў з яе целам, гучала ўладная грубасць, якая, між тым, заставалася непакаранаю, бо ўваходзіла ў правілы гульні, якія яна, імператрыца, прымала не вымушана, а з усцехаю, цалкам падпарадкоўваючыся ягонай уладзе і яго дыханню і яго мужчынскаму crescendo.

Ейную свядомасць толькі злёгку зачапіла крылом зайздрасць да тых, каго ён любіў да яе і каго будзе любіць пасля.

Ён і яна ўскрыкнулі аднachасова.

Потым яны ляжалі ў празрыстай, прапахлай іх любоўю цемры і размаўлялі.

Размова атрымалася нядоўгаю, але зараз ў імператрыцы ўзнікае ўражанне, што яны прагаварылі цэлую ноч.

Яска ўкветленасці, што ўспыхнула, калі яна згадала ўпартае нежаданне літвіна называць яе "зоренькой", не гасла, а наадварот — разгаралася і асвятляла падзеі прамінулае ночы ўжо крыху іншым святлом.

Тады, у прыліве жаночае ўдзячнасці, яна запусціла пальцы ў гушчар ягоных кудзераў, кудлаціла іх і дрымотна думала, як добра было б узяць полацкага паляўнічага з сабою ў дарогу: можа, да Магілёва, дзе яе чакала сустрэча з аўстрыйскім імператарам Іосіфам, а можа, і далей, у Пецярбург... Прамоўленыя ёю словы сталіся вынікам не асэнсаванага рашэння, а толькі працягам адчуванняў напоўненага шчаслівай стомаю цела, але яна, імператрыца, не выключае, што раніцой словы-мроі маглі — цікава было б паназіраць за Пацёмкіным і кампаніяй — увасобіцца ў яву.

"Хадзі да мяне на службу, літвін. Я вазьму цябе ў сталіцу".

Яна вяртала сабе становішча гаспадыні, але голас яшчэ быў афарбаваны цеплынёю, і зараз з гэтае прычыны яна чуе ніякаватасць.

Адказам стаўся смех — вясёлы, здаецца, шчыры і густы, як і валасы яго гаспадара.

Толькі адсмяяўшыся, ён сказаў "не".

"Я ўмею быць шчодрай..."

Ён меў адвагу перапыніць яе.

"Ваша вялікасць, магчыма, тое, што я скажу, будзе смешным ужо для вас. — Голас літвіна зрабіўся непрыемна сур'ёзным, у ім не ацалела ні іскрынкі смеху. — Сентыментальны юнак памёр ува мне так даўно, што я ўжо не памятаю, на якой ростані аплакваў яго. Але гэтаксама даўно я зразумеў, што не змагу жыць без гэтае зямлі. Без Дзвіны, без маіх лясоў, без магільных склепаў нашага роду. Без таго, што той гуллівы юнак называў радзімай..."

"Цяпер і назаўсёды гэта частка маёй дзяржавы, — суха адказала яна. — Для тваіх дзяцей і ўнукаў радзімаю будзе ўжо Расія".

І зноў спальня пачула смех, але іншы: у ім гучала не толькі адмаўленне.

"Ваша вялікасць, няўжо вы насамрэч уяўляеце, што ўсё гэтак проста? Душа не можа ў адну цудоўную раніцу прачнуцца падданю іншай дзяржавы".

"Ёсць розныя душы, літвін. Як ты ведаеш, шляхта, што прынесла мне прысягу, атрымала поўныя правы расійскага дваранства".

"Калі чалавека пазбаўляюць шляхецтва, ён не перастае быць шляхціцам".

"Ты павінен зразумець, што і тыя землі, — яна паказала на вакно, за якім плыла начная рака, — таксама будуць належаць Расіі. Праз год ці праз дзесяць — для гісторыі гэта імгненне. Людзі народзяцца, а землі — не. Я хачу, каб нашы ўнукі былі аднолькава рускімі і жылі, як родныя..."

Яна не заўважыла, калі перайшла на расійскую мову. Ён працягваў адказваць па-французску.

"Няўжо, вы думаеце, можна забыць..."

"Усё, — абсекла яна, — усё трэба забыць, літвін. Забыць дзеля міру, спакою і любові".

"Дзеля любові..."

Ён паўтарыў апошнія словы, як рэха, і пацягнуўся да яе.

Цяпер яна чула ў ім не толькі грымучую сумесь звера і паляўнічага. Яе пачуццё не паспела акрэсліцца ў думку, проста яна, імператрыца, ужо ведала, што — незалежна ад таго, ці прысягнуў літвін расійскаму трону — ён не быў яе падданым. Яна адчувала ў ім небяспеку, і гэта адно мацней распальвала яе. Напэўна, штосьці падобнае адчуваў і ён — літвін, вядзьмак, паляўнічы, вораг...

А можа, думаецца імператрыцы зараз, ёю кіравала ілюзія? Можа, блізкасць была неўсвядомлена абраная як галоўны аргумент у неспадзяванай спрэчцы, што пагражала стаць каламутным сном іхняе бяссоннае ночы?

Яна не пярэчыла, калі ён рашуча сцягваў яе з ложка на падлогу. Вусны і рукі

паляўнічага зноў ператварыліся ў дзесяткі вуснаў і рук, якія абдымалі і лашчылі яе беспамылкова і таленавіта, але ў яе істоце нараджаўся пратэст. З такой адлучана-халоднай жарсцю, з такім самым майстэрствам ён мог бы любіць недзе пад стогам захудалую шляхцянку з пасагам з дзесяці прыгонных душ. І ўсё ж жаданне перамагала, і не шляхцянка, а яна, імператрыца, мусіла таймаваць сябе, адтэрміноўваць імклівае набліжэнне таго моманту, калі, ужо незалежна ад яе волі, з грудзей вырвецца вызвалены шчаслівы стогн...

Блізкасць сталася не фіналам, як яна спадзявалася, а ўсяго пярэрваю ў размове, нітку якой ён звязаў адразу, як толькі яны прылеглі на ложак, — быццам проста на нейкі час пакідаў спальню і вось вярнуўся.

"Ваша вялікасць, у мяне двое сыноў, і я сумняваюся, што ў іх кароткая памяць..."

"Памяць, літвін, аблудная, а гісторыя — заўсёды хлуслівая. Ты ведаеш, ёсць безліч азначэнняў навукі Кліо. Мне даспадобы вось гэтае: кніга, якую пішуць пераможцы".

Ён азваўся не адразу.

"Яшчэ гісторыю называюць плоццю часу. Яна ўмее супраціўляцца. Яна можа быць зброяй".

Ёй праглася хутчэй скончыць размову, што з кожнай хвілінаю рабілася ўсё больш няўтульнаю, і, разам з тым, яна ведала, што трэба дагаворваць да канца.

"Людзі ва ўсе часы хочуць, каб ім паўтаралі прыгожыя казкі..."

Ён зноў памарудзіў з адказам, аднак засталося ўражанне, што яму няцяжка знайсці патрэбныя словы, проста ён лічыць, што ўсё ўжо сказана раней.

"Так, хочуць. Але не ўсе. Будуць і тыя, хто не захоча верыць казкам".

"Іх заўсёды будзе меншасць, літвін".

Гэтым разам ён зрэагаваў імгненна.

"Але яны заўсёды будуць, ваша вялікасць. Як бы вам ці мне ні хацелася іншага. І яны ніколі не пагодзяцца з лёсам, які абралі не самі. Ніколі, ваша вялікасць".

У ягоным голасе ёй прымроіўся сум. Аднак, седзячы за бюро над няскончаным лістом, яна разумее, што памылілася.

Трэці раз паляўнічы смяяўся, калі яна запыталася, якую ўзнагароду ён хацеў бы атрымаць на памяць пра сённяшнюю ноч: гэты збудаваны адмыслова дзеля яе прыезду палацык, грошы, пярсцёнак з дыяментам?..

Ён хутка абарваў смех. Яму будзе досыць успамінаў пра шчасце дзяліць ложак з імператрыцаю.

Яна не ўзялася б сцвярджаць, што шчырасць гэтых слоў была разбаўленая нечым іншым, аднак якраз пасля іх яна і вырашыла застацца сам-насам з сабою...

Сонца даўно ўзышло. Гадзіннік паведамляў, што да ранішняга дакладу менш за гадзіну, а на восем раніцы прызначаны ад'езд.

Імператрыца перачытвае ліст да сына і застаецца незадаволенай. Ды часу штонебудзь дадаваць няма: у спальню вось-вось увойдуць слугі.

Канчаткова развітваючыся з ноччу і пачынаючы новы дзень, яна падыходзіць да вакна. На Дзвіне, бліжэй да "польскага" боку, з'яўляецца рыбацкая лодка.

Нейкі момант імператрыца чуецца самотнай і стамлёнаю. Але яна з дзяцінства асвоіла навуку не папускацца хвілінам слабасці, калі жыццё раптам выдае марнай мітрэнгаю.

Страпянуўшыся, як вялікая птушка, яна вяртаецца да бюро і ставіць на лісце дату: 22 траўня 1780 года.

Час выклікаць слуг. Аздоблены двума купідончыкамі званок-лілея стаіць на кансолі каля высокіх цяжкіх дзвярэй. Імператрыца бярэ яго, і яе рука заміраe.

Пад лілеяй ляжыць срэбны сігнет.

Яна ставіць званок і разглядае знаходку. Ювелір быў не з горшых: конны рыцар на пячатцы захаваў усе дэталі — ад астрогаў да шасціканцовага крыжа на тарчы. Сумневаў наконт уладальніка сігнета ў яе не ўзнікае. Дык, значыць, адмовіўшыся ад яе падарунка, ад яе платы за ноч, ён, гэты мяшанец, гэты шляхціц-вядзьмак, меў смеласць і нахабства заплаціць ёй самой...

З глыбіняў яе "я" ўсплывае пякучае цёмнае жаданне пакараць, паказаць літвіну яго сапраўднае месца, давесці, што ён, няхай сабе ягонаму роду хоць тысяча гадоў, усяго толькі казурка. Такіх, як ён, і яшчэ больш радавітых у яе ў імперыі нялічаныя тысячы, і кожнаму ў любы дзень лёс па яе волі можа ўсміхнуцца, а можа і...

Там, у Рэчы Паспалітай, яны прывыклі да беспакаранасці...

Яна, як пацеркі, перабірае найбольш вытанчаныя пакаранні і раптам імпэтна бярэ пазалочаную лілею і звоніць.

На ранішнім дакладзе, выслухоўваючы сабраныя пра горад і намесніцтва звесткі, яна дазваляе сабе быць не надта ўважлівай.

Жыта каштуе ад рубля да паўтара рубля за чвэрць... Пуд сена — меней за дзесяць капеек... Мяса — дзве капейкі за фунт...

Усё значна танней, чым ва ўнутраных губернях, адзначае яна і ўспамінае, якія мядзведзі водзяцца ў полацкіх лясах.

Мяшчане ўсім задаволеныя, але скардзяцца на адсутнасць медных грошай і недахоп залатых ды срэбных манет на размен асігнацыяў...

Не забыць распарадзіцца забраць тую мядзвежую шкуру з сабой...

Каменныя магазіны пад збожжа гатовыя, шпіталі будуюцца, жабракі сабраныя ў багадзельні...

Трыста рублёў яна дае на жабракоў...

Ён быў такі салодкі...

Пяцьсот рублёў на праваслаўны Багаяўленскі манастыр...

А потым салёны...

Недабор падаткаў складае ўсяго дваццаць рублёў...

Такія ночы нячаста выпадаюць і ў імператрыц...

Сто рублёў на гарадскія школы...

"Людзі хочуць, каб ім паўтаралі прыгожыя казкі..."

Адганяючы сон, імператрыца трэ ўказальнымі пальцамі скроні і абмахваецца вахлікам.

У намесніцтве спакойна, няма ніводнага калодніка...

"Кніга, якую пішуць пераможцы..."

Пяць чырвонцаў на багадзельні...

"Мае сыны не забудуць..."

Дрымота адступае, і яна дыктуе сакратару распараджэнне зрабіць ва ўсіх далучаных гарадах вопісы ўмацаванняў з мэтаю іх паляпшэння.

Сёння ўначы ён не быў яе падданым. Такія, як ён, не стануць падданымі ніколі.

Роўна а восьмай імператрыца выходзіць з пакояў на палацавы ганак. Гарадскія цэхі са сцягамі, мяшчанства і габрэі ўжо стаяць усцяж вуліцы да самай трыумфальнай брамы. Звоняць званы.

Гарматы даюць першы развітальны залп.

Імператрыцы мусяць быць велікадушнымі.

Яна абводзіць вачыма натоўп прыдворных, шляхты і іншаземцаў. Каспар Буйніцкі — каб успомніць яго імя, ёй не трэба намагацца.

Яго няма.

Яна сядае ў экіпаж і развітальна ўзмахвае рукой. Да першай паштовай станцыі будзе час падрамаць.

За тры дні яблыневая квецень у садах амаль асыпалася.

Што ён сказаў на адвітанне?

"Ваша вялікасць, жадаю вам жыць і цараваць доўга".

Націск на слове "доўга". Што ён можа значыць?

Перад сваім пажаданнем ён гаварыў пра тых, што ніколі не пагодзяцца з лёсам, які выбралі не самі.

"Ніколі, ваша вялікасць".

Значыць... Значыць, цараваць доўга, каб пераканацца... Дажыць да таго, калі яны возьмуцца за зброю...

Дзякуй, літвін. Яна сапраўды будзе жыць доўга. Яна перажыве былога каханка, якога звалі Станіславам Аўгустам. Куранты гісторыі хутка сыграюць ягонай дзяржаве рэквіем. Яе, расійскую імператрыцу, будзе вітаць званамі і гарматамі Вільня. А іхні герб, той, што на сігнеце, які ляжыць у яе ў кішэні, яна пакіне яму, літвіну-паляўнічаму, упрыдачу да яго крозаў. Але гэта будзе адно герб горада. Заместа ранейшага, магдэбургскага, з караблём у блакітным полі на срэбнай вадзе...

Сон чамусьці не ідзе.

А тут яшчэ прыдарожны маёнтак уніяцкіх арцыбіскупаў і каля брамы — сам уладыка полацкі, назола з антычным імем Ясон і смешным прозвішчам Юнаша-Смагаржэўскі. Цяпер адкруціцца ад візіту да ўніятаў не ўдасца.

Паклоны, лісліўыя ўсмешкі. А што за імі? Якія думкі спеюць за лбамі гэтых грэка-каталікаў, што збудавалі пры браме дзве падобныя да мінарэтаў вежы і абнеслі рэзідэнцыю свайго ўладыкі мурам з дванаццаццю капліцамі, чые вокны болей выдаюць на амбразуры?

Навошта ім гэтая фартэцыя?

Арцыбіскуп, у адрозненне ад праваслаўных архірэяў, у тым ліку і сталічных, бездакорна гаворыць па-французску, што яе таксама раздражняе.

Яны ідуць да сажалкі з зялёнымі берагамі і блакітнай альтанкаю.

Імператрыцы знячэўку шчымліва-востра хочацца дадому, у Пецярбург.

Цестачкі да кавы зусім свежыя.

Альтанка, дзе сабраны стол, над самай вадою, адкуль яе, імператрыцу, незварушна разглядваюць залатыя рыбкі. Не рыбкі, а ўкормленыя рыбіны, кожная з якіх узброеная пачварна вялікімі вачыма-тэлескопамі.

Адразу ад берага глыбока, што ёй таксама не падабаецца, бо нагадвае пра раскіданы паводкаю мост і неабходнасць перапраўляцца праз Дзвіну ў шлюпцы.

Але ў гэтай глыбіні ёсць і выгода: імператрыца апускае руку за парэнчу, і арцыбіскуп не заўважае, як бліскае на сонцы срэбны пярсцёнак з пячаткаю і як рыбіны ўважліва праводзяць яго лупатымі вачыма.

ВЫСТАВЫ

# Паэзія рэчаў і асяроддзя

Выстава, адкрытая 28 ліпеня 1998 года ў Палацы мастацтваў з нагоды 65-годдзя жывапісца Яўгена Каробушкіна, сагрэта цеплынёй і пяшчотай да беларускіх краявідаў і людзей, працавітых, добрых і чулых гаспадароў сваёй зямлі. На адкрыцці выставы прамоўцы адзначалі адзінагалосна: "Мастак Каробушкін — таленавіты, працавіты і добрай душы чалавек, а таму яго працы светлыя і чыстыя па сваім змесце". Сапраўды, у яго краявідах, партрэтах, кампазіцыях можна ўбачыць філасофскі роздум пра цякучасць быцця і вечныя чалавечыя каштоўнасці, якія ў многім залежаць ад адносін людзей да ўсяго і ў першую чаргу да такой тонкай матэрыі, якой з'яўляецца прырода.



65 карцін выстаўлены мастаком на суд гледача. Я. Каробушкін працуе пераважна ў станковым жывапісе, піша нібы для сябе, для душы. У сваіх працах ён імкнецца перадаць свае шчырыя і трапяткія адносіны да навакольнага свету. Яго работы не салонныя, яны адметныя тонкімі нюансамі фарбаў, настроямі, характэрнымі пэўнаму партрэту, карціне, нацюрморту.

Нарадзіўся Яўген Георгіевіч Каробушкін 15 чэрвеня 1932 г. у Чарнігаве, што на Украіне, але выхоўваўся ў дзеда ў Ветцы Гомельскай вобласці. У 1947 г. пайшоў у Маскоўскую мастацкую школу, якую скончыў у 1953. Але далей вучыцца па спецыяльнасці не стаў, паступіў у 1954 на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Пасля заканчэння працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі навуковым супрацоўнікам, адначасова вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні жывапісу (1960—66). На станаўленне яго як мастака вялікі ўплыў аказалі педагогі Май Данцыг, Уладзімір Стальмашонак, Хаім Ліўшыц. Ужо ў 1966 г. на рэспубліканскай выставе ў Мінску Я. Каробушкін упершыню выстаўляе свае карціны. У 1974 г. уступае ў Саюз мастакоў Беларусі і рэгулярна ўдзельнічае ў мастацкіх выстаўках. А з 1971 г. пачаў выкладаць малюнак і жывапіс у Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава.



Выдатны арганізатар пленэраў і педагог, ён выхаваў цэлую плеяду мастакоў. Паездкі з вучнямі на пленэр у вёскі давалі магчымасць сабраць матэрыялы (эцюды, эскізы, партрэтныя замалёўкі), якія ў далейшым сталі палотнамі — "Васільеўна", "Пятровіч", "Хлеб і вада", "Дом каля возера", "Чабарок", "Светлы дзень", "Чалавек з той вёскі", "Старыя бутэлькі", "Увечары", "Унук", "Раніца". Вялікую любоў выклікае ў мастака свет і паэзія рэчаў і асяроддзя, у якім яны знаходзяцца. Адсюль і шматлікія інтэр'еры, прасякнутыя лірызмам і гармоніяй. Асабліва захапленне ў мастака выклікаюць кветкі — палявыя, лясныя, лугавыя. Яны ўсе адлюстраваны ў нацюрмортах: "Ягады і кветкі", "Кветкі ў зялёным глечыку", "Кветкі і грушы", "Кветкі ў збане". Яны, як люстэрка людской душы і чыстых, шчырых пачуццяў, незабыўна застаюцца ў сэрцы.

На выставе прадстаўлены работы апошніх двух гадоў. Гэта творчыя пошукі колеравых вырашэнняў, тэхнічных прыёмаў, якія надаюць творам Я. Каробушкіна імпульсіўнасць і дынамічнасць, што характэрна хуткабежнаму і імкліваму сучаснаму жыццю.

**Галія ФАТЫХАВА**

*На здымках: "Дзяцінства" 1979 г.; "Чабарок".*

УВАГА!

# "Я маю права"

Дарагія юныя грамадзяне Беларусі!

Сёлета сусветная супольнасць адзначае значную дату сваёй гісторыі — 50 гадоў з дня прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека".

З гэтай нагоды Беларускі Хельсінкскі камітэт абвяшчае літаратурны конкурс "Я маю права", да ўдзелу ў якім запрашаюцца вучні 8—11 класаў.

Конкурсныя працы павінны адлюстроўваць ваша разуменне ролі "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" як для чалавечай цывілізацыі наогул, так і для нашай незалежнай дзяржавы, для вас асабіста. Вы будзеце жыць у новай Беларусі. Якой вы бачыце сваю радзіму ў XXI стагоддзі? Што вы самі паспелі ці мяркуеце зрабіць для ператварэння Беларусі ў дэмакратычную еўрапейскую краіну з развітай нацыянальнай культурай і высокім узроўнем жыцця, дзе будуць забяспечаныя ўсе правы чалавека? (Калі вы не знаёмыя з тэкстам "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", звяртайцеся ў бібліятэкі або непасрэдна ў Беларускі Хельсінкскі камітэт).

Для сваёй конкурснай працы вы можаце абраць розныя жанры: мастацкае апавяданне, дакументальны нарыс ці замалёўка, публіцыстычны рэпартаж пра канкрэтную падзею ці нават паэтычны твор. Адзіная ўмова: ваша праца павінна быць напісаная па-беларуску — на мове, ад будучыні якой залежыць і будучыня нашай дзяржавы.

Конкурсныя працы дасылаюцца ў двух экземплярах надрукаванымі на машынцы, набранымі на камп'ютэры або ў рукапісе.

Тэрмін дасылу — да 1 лістапада 1998 г. (па паштовым штэмпелі). Апрача дакладнага адраса, просім паведамляць і нумар вашага тэлефона.

Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы, вызначыць адно першае, два другія і тры трэція месцы.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. Лепшыя творы будуць апублікаваны.

*Конкурсныя працы дасылаць па адрасе:*

**Беларускі Хельсінкскі камітэт, вул. К. Лібкнехта, 68, пакой 1201, Мінск 220036.**
**З паметкай: НА КОНКУРС.**

*Тэл. для даведак (017)2224800.*

**Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў смуткуе з прычыны заўчаснай смерці члена Рады БСЛМК кандыдата мастацтвазнаўства Уладзіміра Паўлавіча РОШЧЫНА і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Васілю САХАРЧУКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

# Асколкі памяці

## Мікіта

Жыў некалі ў нашай вёсцы Мікіта. Чалавек як чалавек. Не надта каб і гаспадар, але і не гультаіна-зломак. Адно — сам сабе наўме. Памятаюць яго па двух выпадках.

Прыехаў ён неяк у раённы гарадок, зайшоў у краму. Доўга прыглядваўся да тавараў, а потым, паказваючы жоўтым абкураным пальцам на паліцу, папрасіў прадаўшчыцу:

— Пакажы мне, галубка, вунь тыя штаны.

Штаны картовыя, моцныя. Пагладжваючы шурпатай далонню па калашыне, Мікіта задаволена гаворыць:

— Вось такія мне і трэба.

— Дык што ж? Плаціце і забірайце, — адказвае прадаўшчыца.

— Ну, вядома ж, не дарэмна, — пагаджаецца Мікіта і падае прадаўшчыцы "Працоўную кніжку калгасніка", у якую брыгадзір штотыдзень запісваў яго працадні.

— Ты што, дзядзька, здзекуешся?! — скрывіла рот прадаўшчыца. — Грошы давай!

— А мне, даражэнькая, грашыма не плацяць, толькі працаднямі, — спакойна гаворыць Мікіта, пачэсваючы пяцярнёй рэдкую сівую шчэць на барадзе.

Прадаўшчыца са злосцю схапіла штаны і кінула на паліцу:

— Тэпай, дзядзька, адсюль па-добраму, а то я міліцыю пазаву, не аглянешся, як на Салаўкі загрыміш!

Быў і больш страшны выпадак у тым жа райцэнтры. Разглядаючы помнік Сталіну, пафарбаваны ў цёмны колер, Мікіта сам з сабой загаварыў:

— Во, нас счарніў і сам счарнеў...

— Уцякай, дзядзька, пакуль не позна, — шапнула яму жанчына, якая выпадкова пачула тыя словы.

Па тым часе мог чалавек аказацца не толькі на Салаўках, але і пад расстрэл трапіць...

Лёс збавіў Мікіту ад гэтага. Памёр ён у сваёй хаце на другім годзе вайны. Суседзі збудавалі яму дамавіну з дошак ад разламанай калгаснай аборы і пахавалі на пясчаным узлобку пад соснамі, дзе знаходзяць вечны спачын нашы вяскоўцы і сёння.

## Дзядзька Арцём

Дзядзька Арцём, хоць і не вучыўся грамаце, але любіў паразважаць аб матэрыях, далёкіх ад вясковых спраў. Хаваючы ў пракураных вусах хітрую ўсмешку, ён аднойчы запытаўся ў мяне:

— Вось ты чалавек вучоны, скажы мне, чаму гэта Ленін хадзіў у чаравіках, а Сталін у ботах?

У яго, відаць, была нейкая свая версія адказу на гэтае пытанне, але выказаць яе не асмельваўся.

Не заўсёды дзядзька пагаджаўся з довадамі сваіх апанентаў. Памятаю, завялі мы неяк гутарку пра поры года, пра іх змену. Калі я нагадаў, што зямля круціцца вакол сонца, ён паглядзеў на мяне, як на блазна:

— Дзе б ты быў, каб яна крутанулася!..

У той жа час дзядзька Арцём быў чалавекам дасціпным — трапна жартаваў, умеў павесяліцца. Толькі аднойчы я бачыў яго ў слязах. Было гэта на вяселлі, калі ён выдаваў замуж дачку.

— Гэта ж трэба, — выціраючы рукой слёзы, скардзіўся дзядзька, — васемнаццаць гадоў карміў яе, адзяваў, а цяпер во аддай чорту лысаму ні за што...

## Пад чыю дудку?

У першыя пасляваенныя гады нават у абласных газетах не хапала журналістаў. Што ўжо гаварыць пра раённыя? На рэдактарскі пост нярэдка траплялі выпадковыя людзі, далёкія ад газетнай справы.

У адным з раёнаў Піншчыны рэдактарам стаў чалавек толькі таму, што меў цягу да малявання. Калі ўлічыць тое, што ўвесь творчы калектыў рэдакцыі складаўся з рэдактара і сакратара, то можна ўявіць, якім было выданне.

Вось некалькі "пэрлаў" з тае двухпалоснай газеткі. Пад перадавым артыкулам — заметка "Зайцы ў садзе": "Нядаўна група зайцоў наведала сад калгаса "Камунар". Распаясаўшыеся жывёліны аб'елі ўсе маладыя дрэўцы. Лепш бы яны аб'елі ногі старшыні калгаса Старыкаву". Скандальная хроніка змяшчалася пад рубрыкай "З біноклем па райцэнтры": "Пазаўчора намеснік райупаўмінзага таварыш Ваўчок, напіўшыся п'яным, ударыў па мордзе сакратара райвыканкома таварыша Пятрэню". Тасаўскі міжнародны агляд не змясціўся цалкам на апошняй старонцы, а скараціць яго рэдактар пабаяўся. Таму даў прыпіску: "Заканчэнне агляду чытайце на першай старонцы". А да ўсяго — слабае веданне беларускай мовы: замест "бальніца" — "хваробніца", "балбатун" — "баўтун" і т. п.

Усё гэта не вельмі турбавала партыйных кіраўнікоў раёна. Разгневаліся яны толькі тады, калі рэдактар асмеліўся пакрытыкаваць гандлёвае забеспячэнне людзей: "Чарга за хлебам працягнулася праз усю Пралетарскую вуліцу, выйшла на Ленінскую, загнулася на Камсамольскай..." Тэрмінова было склікана бюро райкома партыі.

— Вы разумееце, пад чыю дудку скача рэдактар?! — крычаў начальнік раённага адзела дзяржбяспекі. — Такая крытыка — знаходка для нашых класавых ворагаў!

Усе члены бюро пагадзіліся з такой ацэнкай. Рэдактар пасля бюро ў рэдакцыю не вярнуўся...

## Падрыхтаваліся...

Бюро райкома партыі разглядае пытанне падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Кіраўнікі гаспадарчых арганізацый па чарзе расказваюць аб праведзенай рабоце ў калектывах: колькі прачытана лекцый, як наладжана наглядная агітацыя. Чарга дайшла да дырэктара раённай канторы "Заготзбожжа" Фінкільштэйна — ужо даволі старога, аблыселага чалавека.

— Чым вы нас абрадуеце, Абрам Львовіч? Як у вашым калектыве ідзе падрыхтоўка да выбараў? — пытаецца першы сакратар райкома.

— Харашо ідзе падрыхтоўка... Мы ужэ павесілі всех важдзей...

Хтосьці з членаў бюро не вытрымаў — чмыхнуў носам. Збянтэжаны сакратар райкома змяніўся з твару.

На выручку прыйшоў загадчык аддзела прапаганды:

— Таварыш Фінкільштэйн мае на ўвазе, што ў іх чырвоным кутку вывешаны партрэты членаў палітбюро ЦК.

## Паліглот

Запаўняючы анкету, ён доўга моршчыў лоб, задумваўся: хацелася, каб у таго, хто будзе чытаць яе, склалася найлепшае ўражанне. Ад гэтага залежала далейшае прасоўванне па службовай лесвіцы. У графе "Якой замежнай мовай валодаеце?" напісаў: нямецкай, хаця са школьных гадоў у памяці затрымаліся толькі два словы — "гут" і "шляфен", ды яшчэ з вайны засела ў галаве "Гітлер капут".

## "Вечны агонь"

"Вечны агонь" у нашым гарадку запальвалі толькі на свята Перамогі — ля помніка загінуўшым воінам. Рабілася гэта пад строгім наглядам ідэалагічнага кіраўніка.

Аднойчы ж выйшла замінка: ці то запалкі адсырэлі, ці наогул забыўся пра іх той, хто павінен быў запальваць? Галоўны кіраўнік сурова глянуў на "ідэалагічнага":

— Што там у вас?! Я ўжо выступаць павінен, а вечны агонь яшчэ не гарыць!

## Родзічы за мяжой

Сяло Моталь — на правым беразе Ясельды, а на супрацьлеглым — Тышкавічы. Здаўна павялося, што суседзі пацвельваюць адзін з аднаго. Ухмыляючыся, маталянец распавядае, як у час апошняга перапісу насельніцтва тышкавіцкі селянін адказваў на пытанні перапісчыка:

— Ваша нацыянальнасць?

— Тышкавец.

— За граніцай ёсць родзічы?

— Ёсць. Сястра ў Моталі замужам.

## Не стрымаўся

Выдатны даследчык беларускай літаратуры, таленавіты пісьменнік і педагог Уладзімір Андрэевіч Калеснік быў вельмі тактоўным чалавекам. Ён цярпліва выслухоўваў сваіх апанентаў, нікому не навязваў уласнай думкі. Але, як чалавек улюбёны ў літаратуру, не мог цярпець здзеку з яе.

Былыя студэнты Брэсцкага педінстытута расказвалі пра такі выпадак. Аднойчы Уладзімір Андрэевіч мужна выслухаў даволі блытаны адказ расфуфыранай студэнткі на асноўнае пытанне: задаў дадатковае:

— Хто яшчэ з беларускіх пісьменнікаў друкаваўся ў "Нашай Ніве"?

Студэнтка пастуніла вочы, навастрыла вушы, чакаючы падказкі. Хтосьці ціхенька шапнуў: "Ядвігін Ш."

— А-а!.. Успомніла! — абрадавалася студэнтка. — У "Нашай ніве" друкавала свае творы Ядвіга Ша.

І тут дабрэйшы Уладзімір Андрэевіч не стрымаўся:

— Дуня ты Марцінкевіч!..

## Як рубцы на сэрцы

Цёплы восеньскі дзянёк. У раённым гарадку — "Свята кветак". Людзі сабраліся на цэнтральнай плошчы, дзе кветкаводы-аматары выставілі на паказ свае дасягненні. Ружы, гладыёлусы, хрызантэмы, сальвіі, вяргіні... Сапраўднае буйства красак! На століках — па-майстэрску скампаваныя з вырашчаных і палявых кветак кампазіцыі. Кожная мае сваю назву. А ў назвах тых, дайце веры, — напамін аб нашым трагічным лёсе. Яны — як рубцы на сэрцы: "Званы Хатыні", "Вецер Чарнобыля", "Адзінота"...

## Няўжо мы і сёння такія?

Вычытаў у Варлама Шаламава: "На Колыме у меня был хороший друг... Кузнец лагерный. Я у него работал молотобойцем. Он мне рассказал белорусскую притчу о том, как три пана — еще при Николае, — пороли три дня и три ночи без отдыха белорусского мужика-бедолагу. Мужик плакал и кричал: "А как же я не евши".

Божа літасцівы, няўжо мы і сёння такія?

**Аляксей КАЎКО**

*г. Іванава*

Юрась СВІРКА

# Наскае і парнаскае

## "Падобны" на Купалу

*"Здаецца, я падобны на Купалу:*
*Задумлівы і гавару замала.*
*Увесь — увага.*
*Не прамоўлю слоўца*
*І больш люблю*
*паслухаць суразмоўца".*

*"Але ў маўчанні класіка*
*Купалы*
*І мудрасці, і таленту хапала.*
*Вымоўчваў ён і тое, мне здаецца,*
*Што у тваіх радках*
*ракой ліецца".*

## Рабскае выцісканне

*Марудна выціскаў з сябе раба.*
*І захапіўся так ты*
*выцісканнем —*
*Сагнуўся ў крук, дажыўся*
*да гарба,*
*Было ўжо недалёка да скanання.*

*Ды тут яму параілі: "Табе*
*Навошта гібель?*
*Думай пра жывое.*
*Ты рабскае ўжо выціснуў з сябе.*
*Пасля пайшло, пайшло...*
*зусім не тое".*

## Крыштальны маналог

*Клянуся: да яе больш ні на крок.*
*Не пагляджу ні вечарам,*
*ні ўранку.*
*Ды зноў яна трапляецца*
*на зрок —*
*Спакуслівая,*
*быццам куртызанка.*

*Хачу крануць яе —*
*рука дрыжыць,*
*І клятвы ўсе ранейшыя*
*забыты.*
*Хоць заракайся —*
*болей не любіць,*
*Але ж яна прыцягвае магнітам.*

*Яна нікому шчасця не дае*
*І не прыносіць радасці ніколі,*
*Ды ўсё ж люблю адзіную яе,*
*Ды ўсё ж люблю*
*крыштальную яе*
*Да забыцця,*
*да галаўнога болю.*

## Абыходлівы

*І што такое робіцца са мной?*
*Пакляўся не вітацца з ім ніколі,*
*Ды пры сустрэчы злосны*
*голас мой*
*Зноў лагаднее:*
*"Прывітанне, Толя!"*

## Лінгвістычнаму

*Такі Універсітэт у нас адзіны.*
*Відаць, яго штурмуюць*
*не без баксаў.*
*Тут бязмоўных нашчадкаў*
*Францішка Скарыны*
*Перавучваюць*
*на мову англа-саксаў.*

## Гонар сатырыка

*Не апошні я тварэц*
*у гэтым свеце,*
*Хоць не адкрыў вялікіх дзеяў:*
*Сам Крапіва мяне прыкмеціў*
*І... эпіграмай благаславіў.*

## Мужчынскі мадрыгал

Празаіку Л. КАЛОДЗЕЖНАМУ

*Табе ў жыцці трывог, хапала,*
*Ды ўсё ж ты*
*не счарсцвеў душой.*
*Хадою Дэраша трывала*
*У нашу прозу ты ўвайшоў.*

*І як мастак, у тое верыш*
*(Паверыць хочацца і мне),*
*Што і Пегас — капрызны*
*Дэраш —*
*Цябе ніколі не ўбрыкне.*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3510
Нумар падпісаны ў друк 20.8.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 4980/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12